**С.Я.Куль-Сяльверстава**

# Уводзіны ў беларускую палеаграфію.

Дапаможнік
па аднаіменным курсе
для студэнтаў
гістарычных спецыяльнасцяў

Рэцэнзенты: *Марозава С.В.*, доктар гістарычных навук, прафесар

*Ганчарук І.Г.* кандыдат гістарычных навук, вядучы навуковы супрацоўнік УК "Гродзенскі дзяржаўны музей гісторыі рэлігіі"

Куль-Сяльверстава С.Я.

Уводзіны ў беларускую палеаграфію: дапам./ С.Я.Куль-Сяльверстава. - Гродна, 144 с.

У навучальным дапаможніку даецца кароткі нарыс развіцця пісьменства на беларускіх землях са старажытнасці да пачатку XX ст., утрымліваюцца звесткі аб матэрыялах і прыладах пісьма, тыпах і відах пісьма, аздабленнях рукапісаў у розныя гістарычныя эпохі. Дадаткі змяшчаюць метадычныя матэрыялы, якія павінны дапамагчы студэнтам авалодаць навыкамі чытання старажытных тэкстаў, а таксама даць асноўныя веды па палеаграфічнаму апісанню старажытных рукапісаў. Да тэксту дакладзены здымкі рукапісных тэкстаў XI-XX стст. Адрасаваны студэнтам-гісторыкам, а таксама ўсім, хто цікавіцца традыцыямі беларускага пісьменства.

# Змест

# Уводзіны. Палеаграфія як дапаможная гістарычная дысцыпліна.

**ПАЛЕАГРАФІЯ** (ад грэч.παλαιός – старажытны і γράφω – пісьмо) – дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая займаецца вывучэннем гісторыі пісьма, даследуе заканамернасці развіцця пісьмовых знакаў, асаблівасці шрыфтоў, тыпаў пісьма. Палеаграфія ставіць сваёй задачай апісанне знешніх прыкмет помнікаў пісьменства, збірае звесткі аб прыладах пісьма, пісчых матэрыялах, аздабленні пісьмовых помнікаў. Мэтай палеаграфіі з'яўляецца прачытанне пісьмовых крыніц, вызначэнне часу, месца, аўтарства помнікаў пісьменства. Адна з практычных задач палеаграфіі – выпрацоўка у даледчыкаў умення чытаць старажытныя тэксты, не робячы памылак. Гэтыя задачы акрэсліваюць вобласць знешняга даследавання крыніцы. Але акрамя прыкладных задач, палеаграфія даследуе і больш агульныя. Яна назапашвае матэрыял для сацыяльна-эканамічнай і палітычнай гісторыі, для гісторыі культуры.

Тэрмін «палеаграфія» ўпершыню быў уведзены ва ўжытак французскім гісторыкам Франсуа дэ Манфаконам (1655-1741 гг.).

Яшчэ з XIX стст. склалася традыцыя падзяляць палеаграфію на асобныя галіны ў залежнасці ад асаблівасцяў сістэмы пісьма, мовы, алфавіта. Такім чынам вылучаюць палеаграфію грэчаскую, лацінскую, арабскую, грузінскую, кітайскую, армянскую, славянскую і іншыя. Славянскую палеаграфію паводле гэтага падыходу падзяляюць на кірылічную і глагалічную ў адпаведнасці з азбукай, пакладзенай у аснову пісьма. У даследаваннях звычайна пазначаецца, які з раздзелаў славянскай палеаграфіі вывучаюць – славяна-кірылаўскі, ці глагалічны. Але дадзены падзел з'яўляецца недасканалым і штучным, паколькі датычыць толькі вышэй згаданых алфавітаў, выключаючы лацінскі, арабскі і іншыя алфавіты, якімі карысталіся і карыстаюцца славянскія народы. Зыходзячы з гэтага беларускую палеаграфію можна вызначыць як асобную галіну славянскай палеаграфіі. Для пісьмовай перадачы беларускай мовы на працягу некалькіх стагоддзяў выкарыстоўвалася тры розных алфавіта, тры розных сістэмы пісьма – кірылічнае, лацінскае і арабскае. Усе яны мелі на беларускіх землях распрацаваную традыцыю, былі арганічна ўключаны ў тканіну духоўнага жыцця. Кожная з іх можа разглядацца як асобны тып пісьма ў межах кірылічнай, лацінскай і арабскай палеаграфій, але ў кожнай з іх прысутнічаюць элементы ўзаемапранікнення, узаемаўплываў, якія можна прасачыць толькі пры ўмове разгляду іх як складаных частак агульнай з'явы – беларускай палеаграфіі. У апошнія дзесяцігоддзі як асобны раздзел кірылічнай палеаграфіі пачала вылучацца неаграфія, якая вывучае рукапісы, створаныя ў Новы час (XVIII-XX стст).

Храналагічныя межы палеаграфіі, якія ўжываюцца ў дадзенай працы, ахопліваюць перыяд ад узнікнення пісьменнасці ва ўсходніх славянаў да пачатку XX ст. Згодна з прынятай сёння тэрміналогіяй раздзел гісторыі пісьменнасці ва ўсходніх славянаў XVIII-XX стст. носіць назву неаграфіі. У

гісторыі рускай пісьменнасці верхнюю храналагічную мяжу перыяда датуюць пачаткам XVIII ст., калі стары тып пісьма – скорапіс, быў заменены новым тыпам пісьма, так званай “гражданкай”, з’яўленне якой ў Расійскай імперыі выклікала рэформа Пятра I. Для гісторыі кірылічнай пісменнасці на беларускіх землях пачатак новага этапу, які можна было б акрэсліць тэрмінам «неаграфія», прыпадае на канец XVIII ст. У гэты час у сувязі з падзелам Рэчы Паспалітай і настаўшай пасля іх паступовай русіфікацыяй тып кірылічнага пісьма, распаўсюджаны ў гэты час ў Расійскай імперыі, прыходзіць на Беларусь. Такім чынам, перыядызацыя рускай і беларускай кірылічнай неаграфіі не супадаюць.

Палеаграфія пачала сваё існаванне як дапаможная дысцыпліна, якая мае практычны накірунак – дапамагчы гісторыку ў вывучэнні пісьмовых помнікаў. Але ўжо ў XIX ст. палеографы пачалі вылучаць ў ёй не толькі практычную, але і тэарэтычную часткі. Менавіта назапашванне тэарэтычных ведаў, якое адбываецца ў час палеаграфічных даследаванняў, робіць палеаграфію навукай, а не дысцыплінай. Тэорыя палеаграфіі ўключае ў сябе веды аб уплыве гісторыка-культурнага працэса на развіццё пісьменства, аб уздзеянні ступені развіцця пісьменства на эканоміку, культуру, сацыяльнае жыццё грамадства. Як тэарэтык, палеограф займаецца вывучэннем сацыяльнага становішча і паходжання асоб, якія развівалі і захоўвалі пісьмовую культуру; даследуе уплыў міжнародных стасункаў на развіццё пісьменства і г.д.

За тры стагоддзі свайго развіцця палеаграфія выпрацавала ўласную методыку даследавання і адпаведны ёй паняційны і тэрміналагічны апарат. Частка гэтых тэрмінаў з’яўляецца гістарычна абумоўленымі, узнікшымі ў часы стварэння пісьмовых помнікаў, якія вывучае палеограф (устаў, паўустаў, філігрань, кодэкс, тытла і інш); частка уведзена даследчыкамі для лепшага вывучэння рукапісаў (дукт, гатычнае пісьмо, курсівізацыя і г.д.) Кожны з раздзелаў палеаграфіі аперыруе спецыфічнымі тэрмінамі і дэфініцыямі, але ёсць і агульныя, базавыя паняцці, якімі павінен валодаць палеограф. Большасць тэрмінаў сучаснай палеаграфіі выпрацавана ў XIX-пачатку XX ст. Аднымі з найбольш часта ўжываемых з’яўляюцца тэрміны «тып пісьма», «від пісьма», «стыль пісьма». Пад тыпам ці відам пісьма разумеюцца пісьмо, якому ўласцівы акрэсленыя тыпалагічныя рысы (устаў, унцыял, скорапіс), або пісьмо акрэсленага мэтавага прызначэння (актавае пісьмо, параднае пісьмо). Стыль пісьма – гэта асобны варыянт тыпа ці віда пісьма. Так, можна гаварыць аб скорапісу, як тыпе пісьма, і скорапісу вялікакняскай канцылярыі ВКЛ – як асобным стылі скорапісу.

Адметнасць рукапісных тэкстаў абумоўлена рознымі прычынамі. Матэрыял, прылады пісьма, асаблівасці шрыфта і іншыя прыкметы пісьмовых помнікаў змяняліся ў адпаведнасці з развіццём грамадства. На змену папірусу, пергаміну, бяросце, прыйшла папера; птушынае пяро замянілася пяром металічным, а затым шарыкавай ручкай; на працягу стагоддзяў эвалюцыянаваў хімічны склад рэчываў, якімі карысталіся для пісьма, змянялася аздабленне рукапісных тэкстаў. Для кожнай эпохі

характэрны свой склад прылад і матэрыялаў для пісьма, тып пісьма, аздабленне рукапісаў і іншае. Так, для XI-XIII ст. характэрнымі з’яўляюцца птушыныя пер’і ў якасці прылады пісьма, пергамін і бяроста – ў якаясці матэрыяла, аздабленне рукапісаў кінаварам, выкарыстанне ўстава і ранняга паўустава ў якасці тыпа пісьма. Апрача таго, пісьмовыя помнікі мелі свае асаблівасці ў адпаведнасці з местам напісання і прызначэннем. Значныя адрозненні ў характары пісьма, да прыкладу, маюць рукапісы, створаныя ў Вялікакняскай канцылярыі ВКЛ і помнікі, якія ствараліся ў той жа час у прыказах Маскоўскай дзяржавы; аздабленні і почырк ў прывілеях, дарчых граматах адрозніваюцца ад нататак ў інвентарных кнігах; непадобны паміж сабой багаслоўскія рукапісы і асабістыя лісты свецкіх асобаў. Адметнасці рукапісных помнікаў даюць магчымасць палеографу карыстацца палеаграфічнымі прыкметамі для ўсталявання месца, часу, аўтарства вывучаемага рукапісу, дазваляюць вызначыць яго аўтэнтычнасць. Такі падыход з’яўляеццца базавым для палеаграфіі і носіць назву **метада палеаграфічных прыкмет.**

Для датавання рукапісу пры параўнанні цэлага комплексу палеаграфічных прыкмет за падставу бяруць прыкмету, пазднейшую па часе ўзнікнення. Так, напрыклад, была датавана адна з найбольш вядомых у гісторыі палеагарафіі падробак – Краледворскі рукапіс. Доўгі час лічылася, што гэты рукапіс, знойдзены на золку чэшскага адраджэння і адыграўшы ў ім значную ролю, адносіцца да часоў ранняга сярэднявечча. Аднак пры дадатковым яго даследаванні высветлілася, што для размалёўкі ініцыялаў была выкарыстана фарба, якая не магла ўжывацца ў раннім сярэднявеччы, бо была вынайдзена на некалькі стагоддзяў пазднеи. Гэты анахранізм прымусіў перагледзець погляды на аўтэнтычнасць помніка і аднесці яго да падробак, створаных у першыя дзесяцігоддзі XIX стст.

Усталяванне аўтэнтычнасці рукапісу – адна з важнейшых задач палеаграфіі. Сёння побач з традыцыйнымі палеаграфічнымі метадамі (вывучэнне графікі, вадзяных знакаў, якасці паперы і інш.) палеографы ўжываюць і больш новыя, у тым ліку тыя, што выкарыстоўвае археалогія – спектральны і хімічны аналізы, лазернае даследаванне і г.д. Пры вывучэнні рукапісных помнікаў палеограф, апрача ўласна палеаграфічных ведаў і метадаў, прыцягвае і тыя, якія назапашваюць іншыя дапаможныя дысцыпліны. Веданне метралогіі, храналогіі, сфрагістыкі, геральдыкі, дыпламатыкі, кадыкалогіі і іншых спецыяльных дысцыплін з’яўляеца абавязковым для палеографа і дае магчымасць дакладней апісаць тэкст, датаваць яго, акрэсліць месца стварэння помніка і яго аўтара. Як правіла, пры даследавання рукапіснага помніка выкарыстоўваецца комплекс дапаможных гістарычных дысцыплінаў. Разам з тым, палеаграфічныя веды шырока ўжываюцца даследчыкамі другіх спецыяльных гістарычных дысцыплін, паколькі дазваляюць атрымаць з крыніцы неабходную першасную інфармацыю, прачытаць яе. З палеаграфіі вылучыліся некалькі вобласцей ведаў, якія пастунова набіраюць самастойнасць і кшталтуюца ў асобныя дапаможныя гістарычныя дысцыпліны. Так, кадыкалогія (ад лацінскага

«codex» – кніга) – даследуе лёс пісьмовых помнікаў; крыптаграфія (ад грэчаскага «крыпта» – патаемны) вывучае сістэмы тайнапісу і іх графіку; філіграналогія даследуе вадзяныя знакі на паперы. Важным раздзелам палеаграфіі, асабліва лацінскай, з’яўляецца брахіграфія (ад грэч. «brachys» – кароткі), якая займаецца вывучэннем скарачэнняў у пісьме.У цыкл палеаграфічных дысцыплін уваходзяць эпіграфіка (ад грэч. «epigrapfé» – надпіс), якая займаецца вывучэннем надпісаў на цьвёрдых рэчывах; папірусалогія, якая вывучае папірусы; бярасталогія, якая займаецца вывучэннем крыніц, для якіх матэрыялам пісьма служыла бяроста, і шэраг іншых дысцыплін.

# Гісторыя палеаграфіі.

Гісторыя палеаграфіі як спецыяльнай гістарычнай дысцыпліны пачынаецца ў канцы XVII ст. Звычайна яе пачатак звязваюць з выданнем у Парыжы ў 1681 г. працы Жана Мабільёна «Дыпламатыка ў шасці кнігах», у якой быў сабраны вялікі матэрыял па гісторыі пісьма, зроблена класіфікацыя тыпаў пісьма, абгрунтаваны падыходы да палеаграфічнага вывучэння крыніц. Але і да эпохі Асветніцтва ў Еўропе ішоў працэс назапашвання ведаў аб старажытным пісьме. Так, у Вялікім Княстве Літоўскім уменне чытаць старажытныя рукапісы было абавязковым для манахаў-перапісчыкаў, свецкіх пісараў і дзякаў, асобаў, звязаных з судовым справаводствам. Навучанне навыкам разбору і чытання старых кірылічных тэкстаў праводзілася ва уніяцкіх вучылішчных манастырах і было абавязковым курсам для будучых святароў. Палеаграфічныя веды мелі ў той час прыкладны характар. Цэнтрамі развіцця практычнай палеаграфіі былі Вялікакняская канцылярыя, магістрацкія і трыбунальскія архівы, манастыры.

У XVIII ст. развіццё палеаграфіі як спецыяльнай гістарычнай дысцыпліны было абумоўлена не толькі неабходнасцю стварэння крыніцавага падмурка для маладой гістарычнай навукі, але і іншымі прычынамі, у тым ліку, цікаўнасцю да гісторыі літаратуры, мовы, культуры, якая была характэрна для эпохі Асветніцтва. На пачатковым этапе свайго развіцця палеаграфія разглядалася як частка дыпламатыкі, што абумовіла характар і мэту палеаграфічных даследаванняў.

У гэты перыяд наймацнейшымі ў Еўропе былі французскія і нямецкая школы. Французская школа на пачатковым этапе свайго развіцця рэкрутавала ў шэрагі даследчыкаў манахаў, найперш, манахаў-бенедыктынцаў. Адным з першых на гэтым шляху пазначыўся ўжо згаданы Ж Мабільён, які, займаючыся пытаннямі дыпламатыкі, правёў першыя палеаграфічныя даследаванні і прапанаваў уласную класіфікацыю тыпаў лацінскага пісьма. Яго кніга, выдадзеная ў 1681 г. лічыцца найбольш раннім даследаваннем па палеаграфіі. Увядзенне ў навуковы зварот тэрміну «палеаграфія» звязваюць з імем французскага даследчыка манаха-бенедыктынца Бернара дэ Манфакона, пяру якога належаць першыя капітальныя працы па грэчаскаму старажытнаму пісьму, выдадзеныя ў пачатку XVIII ст. Ён першым правёў параўнанне грэцкага і лацінскага пісьма. Бенедыктынцы Тасен і Тусцен у 1750-1765 гг. у Парыжы выдалі шасцітомную працу «Новы трактат па дыпламатыцы», якая з’явілася працягам даследаванняў Мабільёна і прапанавала новую класіфікацыю сярэднявечнага пісьма. Нямецкая школа найбольш плённа развівавласява універсітэцкіх цэнтрах — ў Гетынгене, Страсбургу і іншых. Тут ужо ў XVIII ст. выкладаліся курсы палеаграфіі. Найбольш моцнай была гетынгенская школа, якая аказала ўплыў на многія еўрапейскія навуковыя школы ў галіне дыпламатыкі і палеаграфіі, у тым ліку, і на першых палеографаў з Беларусі. Прафесар Гетынгенскага універсітэта Х.Гатэрэр, узяўшы за прынцып распрацаваную для жывёльнага

свету класіфікацыю К.Лінэя, падзяліў еўрапейскае пісьмо на “царствы”, даўшы характарыстыку гэтым чатыром прапанаваным ім групам. Ягоны вучань К. Шонеман удасканаліў класіфікацыю настаўніка і прапанаваў тэрміналогію палеаграфічнага даследавання, частка якой выкарыстоўваецца і сёння. У XIX ст. у Францыі і Германіі адкрыліся спецыяльныя ўстановы, галоўнай задачай якіх было вывучэнне старажытных тэкстаў і іх публікацыя. У Парыжы гэта была Школа Хартый, заснаваная ў 1821 г., а ў Германіі ў 1819 г. для выдання помнікаў нямецкай гісторыі ў Франкфурце-на-Майне было ўтворана Таварыства вывучэння старажытнай нямецкай гісторыі. Пад эгідай гэтых таварыстваў на працягу стагоддзя былі падрыхтаваны дзесяткі фундаментальных прац па палеаграфіі. Сярод даследчыкаў, якія былі звязаны са згаданымі ўстановамі, належыць адзначыць Я.П.Сільвестра, які ў 1841 г. выдаў у Парыжы чатырохтомную «Універсальную палеаграфію», каторая на той час была адной з найбольш дасканалых абагульняючых прац у дадзенай галіне. У Германіі ў 1869 г. выйшла абагульняючая праца В.Віаценбаха «Уводзіны ў лацінскую палеаграфію».

У першай палове XIX ст. у Еўропе пачынаюць складвацца нацыянальныя палеаграфічныя школы. Апрача ўжо вядомых французскай і нямецкай, якія былі найбольш моцнымі на кантыненце, аб сабе заявілі ў гэты час ангельская, чэшская, польская і іншыя. Да канца стагоддзя палеаграфія здолела выпрацаваць уласную методыку, тэрміналогію даследаванняў, створаны былі спецыяльныя установы, якія займаліся вывучэннем і публікацыяй палеаграфічных тэкстаў, выданнем перыядычных прац па палеаграфіі і падрыхтоўкай спецыялістаў-палеографаў. Многія з іх працуюць да гэтага часу, у тым ліку, згаданыя вышэй французскі і нямецкі цэнтры па вывучэнню старажытных тэкстаў, ангельскае Палеаграфічнае таварыства пры Брытанскім музеі і інш.

Сінхронна з іншымі еўрапейскімі развівалася і палеаграфія на беларускіх землях. Першыя спробы палеаграфічнага аналізу крыніц, прадпрынятыя на тэрыторыі Беларусі, зафіксаваныя ў гістарычных дакументах, адносяцца да XVII ст. Пошукі папер, звязаных з гісторыяй царквы, абумоўленыя ажыўленай багаслоўскай палемікай ў час узнікнення і зацьверджання на землях ВКЛ уніяцкай царквы, прывялі да зацікаўлення практычнай палеаграфіяй І.Пацея, І.Кульчынскага, а затым і іншых уніяцкіх святароў і святарства другіх канфесій.

Новы этап у развіцці палеаграфіі на беларускіх землях пачынаецца ў XVIII ст. У той час прадпрымаецца актыўны збор, а затым і публікацыя гістарычных крыніц, у тым ліку тых, што асвятлялі гісторыю беларускіх земляў, а таксама створаных на Беларусі. Адным з першых, хто адзначыўся на ніве збіральніцтва і вывучэння гістарычных крыніц быў Адам Нарушэвіч (1733-1796 гг.). Народжаны ў сям’і пінскага шляхціча і абраўшы шлях каталіцкага святара, ён захапіўся гісторыяй і прысвяціў ёй сваё жыццё. Вынікам гэтага захаплення стала сямітомная «Гісторыя польскага народа», для якой А.Нарушэвіч сабраў каля 230 тамоў археаграфічных матэрыялаў. Большасць з іх складалі летапісы. А.Нарушэвіч быў адным з першых

даследчыкаў на нашых землях, хто ўжыў метад параўнання розных спісаў крыніц для выяўлення пачатковага варыянту тэксту. У сваіх даследаваннях ён шырока ўжываў палеаграфічныя метады. Развіццю палеаграфіі на землях ВКЛ садзейнічала таксама выдавецкая і археаграфічная дзейнасць М.Догеля.

Выразная цікаўнасць да палеаграфічнага вывучэння рукапісаў з боку даследчыкаў, якія працавалі на беларускіх землях, пазначылася ў канцы XVIII-першай палове XIX стст. Гэта было звязана з нацыятворчымі працэсамі, ў рэчашчы якіх зварот да гістарычнага мінулага станавіўся падмуркам для самаакрэслення нараджаючыхся нацый у часе і прасторы. Назапашванне і аналіз гістарычных крыніц становіцца важным чыннікам развіцця гістарычнай навукі, гэтай дзейнасці аддаюць свой час і веды дзесяткі даследчыкаў. Сярод буйнейшых належыць адзначыць Т.Нарбута, які першым даследваў і апублікаваў «Хроніку Быхаўца». Для беларускіх палеографаў не страцілі сваё значэнне працы Я.Лялевеля. У адной з першых сваіх работ, прысвечаных дапаможным дысцыплінам («Nauki dające poznawać zródła historyczne»), выдадзенай у 1822 г. у Вільні, навуковец ужыў класіфікацыю лацінскага пісьма Гатэрэра, якая была ў той час прынята ў Еўропе, далучыўшы да выдання здымкі сярэднявечных тэкстаў. Праз год у Вільні ўбачыла свет ягоная фундаментальная праца «Дзьве бібліяграфічныя кнігі» («Bibliograficznych ksiąg dwoje»), у другой частцы якой ўтрымліваліся каштоўныя звесткі аб рукапісных помніках, у тым ліку, і аб іх палеаграфічных адметнасцях. І.Лялевель адным з першых даследчыкаў на нашых землях зацікавіўся рунічнымі і рунападобнымі надпісамі.

Заўважальны след у беларускім крыніцазнаўстве пакінулі І.Грыгаровіч, які расшукаў і апублікаваў больш 2,5 тыс. дакументаў, што паходзілі з беларускіх земляў; К.Ф.Калайдовіч, З.Даленга-Хадакоўскі і інш. Развіццё палеаграфічных ведаў на тэрыторыі Беларусі ў гэты час набывае сваеасаблівую спецыфіку, абумоўленую гістарычным мінулым края. Шматмоўе, характэрнае для пісьмовых крыніц, увасобілася ў паралельным развіцці лацінскай і кірылічнай палеаграфіі.

У канцы XVIII-першай палове XIX стст. пачынаецца хуткае развіццё расійскай палеаграфічнай школы. Увага расійскіх даследчыкаў у гэты перыяд была скіравана, у пераважальнай большасці, на помнікі грэчаскай і кірылічнай пісьменнасці. Яны працавалі з кірылічнымі рукапісамі, якія паходзілі, у тым ліку, і з беларускіх землях. Частка з помнікаў пісьменства, створаных на тэрыторыі Беларусі ў часы сярэднявечча, дзякуючы ім была ўведзена ў навуковы зварот. Часцей за ўсё у гэтым выпадку помнікі характарызаваліся як заходне-рускія. Значную працу па вывучэнню старажытных славянскіх летапісаў, іх прачытанню і навуковай інтэрпрэтацыі ажыццявіў М.Карамзін. Для напісання сваёй «Истории государства Российского» ён выкарыстаў каля 40 летапісаў, некаторыя з іх вядомы нам сёння толькі па ягоных запісах. Ён першы як палеограф даследаваў Іпацьеўскі, Троіцкі і іншыя летапісы. Сярод расійскіх палеографаў першай паловы XIX ст. належыць адзначыць А.Аленіна, А.Ермалаева, Я.Балхавіцінава, Ф.Солнцава, А.Вастокава. У гісторыю палеаграфіі адметную

старонку ўпісаў К. Калайдовіч, выдатны знаўца рукапіснай даўніны і збіральнік. Менавіта ён адшукаў і ўвёў у навуковы зварот такія значныя помнікі пісьменства, як Словы Кірылы Тураўскага, Ізборнік Святаслава 1073 г. і іншыя. Ён азначыўся як публікатра-палеограф, выдаючы некалькі зборнікаў здымкаў старажытных рукапісаў з палеаграфічнымі каментарыямі. У гэты час убачыла свет  і першая ў расійскай палеаграфічнай школе праца па філіграналогіі, якая належала пяру К.Трамоніна.

Інтарэс да старажытных рукапісаў, характэрны для першай паловы XIX ст., выклікаў стварэнне ў 1834 г. пры Міністэрстве асветы Расійскай імперыі Археаграфічнай камісіі, якая занялася зборам і друкаваннем старажытных помнікаў пісьменства. Яна працягвала сваю працу да 1917 г. За гэты час былі апублікаваны тысячы каштоўных дакументаў. Адным з галоўных вынікаў работы Археаграфічнай камісіі з'явілася «Полное собрание русских летописей», якое і сёння мае значную вартасць для даследчыкаў.

Да сярэдзіны XIX ст. палеаграфія мела, галоўным чынам, апісальны характар. Гэта было ўвогуле характэрна для ўсёй еўрапейскай палеаграфіі. У сярэдзіне XIX ст. пачалі ствараць каталогі рукапісаў і рэдкіх выданняў, якія захоўваліся ў буйных кнігасховішчах; выдаваліся альбомы палеаграфічных здымкаў, у еўрапейскіх краінах друкаваліся перыядычныя выданні па палеаграфіі і археаграфіі. Адначасова працягваецца распрацоўка метадаў палеаграфічных даследаванняў.

У другой палове XIX ст. адбываецца якасны зрух у складванні славяна-кірылаўскай палеаграфіі. Гэта было пазначана выданнем шэрагу абагульняючых даследыванняў, дапаможнікаў, работ аналітычнага характару ў альбомаў са здымкамі старажытных тэкстаў. У 1854 г. выйшла праца І.Сахарава «Чтения из русской палеографии», у якой шмат увагі надавалася метадам акрэслення сапраўднасці дакумента, а таксама навыкам правільнага чытання старажытных кірылічных тэкстаў. Значнай падзеяй ў развіцці расійскай палеаграфічнай школы з'явілася кніга І.Сразнеўскага «Славяно-русская палеография XI-XVI вв.», якая была створана аўтарам на падставе курса лекцый, каторыя навуковец чытаў на працягу чвэрці стагоддзя ў Пецярбургскім універсітэце.

Для даследчыка кірылічнай палеаграфіі працы, пакінутыя прадстаўнікамі расійскай гістарычнай навукі, уяўляюць значны інтарэс, бо многія з іх не страцілі сваёй вартасці і сёння.  Падрабязны аналіз гэтых здабыткаў пакінуў у сваёй фундаментальнай працы «Славянская кирилловская палеография» Я.Карскі.

Свой ўнёсак ў развіццё славянскай кірылічнай палеаграфіі ў гэты час зрабіў украінскі даследчык І.М.Каманін.На думку А.Грушы, прадмова І.М.Каманіна да кнігі «Палеографический изборник. Материалы по истории южно-русского письма в XV- XVIII вв.», якая выйшла ў 1899 г., можа лічыцца пачаткам не толькі украінскай, але таксама і беларускай кірылічнай палеаграфіі. У ёй аўтар правёў аналіз графікі паўднёварускіх тэкстаў, напісаных скорапісам, паспрабаваў даць тлумачэнне зменам, якія адбываліся ў пісьменстве, звязваючы іх з развіццём культуры і ўнутранай логікай

пісьмовай мовы. Работа І.М.Каманіна паўплывала на тэрміналогію і перыядызацыю, якімі карысталіся ў далейшым даследчыкі беларуска-украінскіх кірылічных помнікаў часоў позняга сярэднявечча.

Адметны ўклад у развіццё палеаграфіі, найперш, беларускай, унёс супрацоўнік Віленскай публічнай бібліятэкі гісторык Ф.Дабраньскі. У надрукаванай у 1889 г. працы «Описание рукописного отдела Виленской публичной библиотеки» ён зрабіў апісанне старажытных беларускіх і іншых рукапісаў, якія на працягу стагоддзяў збіраліся ў фондах буйнейшага на той час грамадскага кнігасховішча. Праца Ф.Дабранскага, не гледзячы на пераасэнсаванне ў наш час некаторых яе высноваў, з’явілася важнай вехай на шляху развіцця кірылічнай, у тым ліку беларускай, палеаграфіі.

У пачатку XX ст. больш дакладна акрэсліваюцца прадмет і задачы палеаграфіі, якая ўжо выразна аддзяляецца ад іншых блізкіх да яе дапаможных гістарычных дысцыплін. У першые дзесяцігоддзі стагоддзя ўбачылі свет некалькі фундаментальных прац па славяна-кірылаўскай палеаграфіі, якія яшчэ і праз стагоддзе лічацца ўзорнымі. У 1908 г. была выдадзена «Славяно-русская палеография» А.Сабалеўскага, у якой аўтар паказаў значэнне палеаграфіічнага вывучэння крыніцы для яе глыбокага крыніцазнаўчага аналізу, а таксама абагульніў назапашаныя на той час падыходы да палеаграфічнага даследавання тэксту. У гэты ж час з’яўляюцца працы М.Ліхачова, А.Шляпкіна, Н.Карынскага, створаныя на падставе курсаў лекцый, якія чыталіся аўтарамі ў Археалагічных інстытутах у Маскве і Пецярбургу.

Выключную ролю ў развіцці славяна-кірылаўскай палеаграфіі адыграў Яўхім Карскі (1861-1931 гг.). Яго можна лічыць пачынальнікам беларускай палеаграфіі, паколькі ён не толькі быў беларусам па паходжанню і патрыётам свайго краю і народу, але ў сваіх працах аддаваў вялікую ўвагу гісторыі пісьмовай культуры і асаблівасцям пісьмовых помнікаў, якія паходзілі з тэрыторыі Беларусі. З’уляючыся прафесарам Варшаўскага універсітэта, Я.Карскі шмат гадоў выкладаў палеаграфію, працаваў у архіўных сховішчах большасці славянскіх краінаў, а таксама ў Турцыі, выяўляючы і апісываючы помнікі кірылаўскага пісьма. Першая работа Я.Карскага па палеаграфіі была напісана паводле распрацаванага ім курса – «Из лекций по славянской кирилловской палеографии» і ўбачыла свет у Варшаве ў 1897 г. На падставе гэтай пачатковай працы быў у далейшым створаны капітальны твор – «Очерк славянской кирилловской палеографии», надрукаваны ў Варшаве ў 1901 г. Яшчэ ў дакастрычніцкі час гэтая кніга вытрымала пяць выданняў. У 1928 г., дапрацаваная і дапоўненая аўтарам, яна была перавыдадзена пад назвай «Славянская кирилловская палеография», а ў 1979 г. з’явілася факсімільнае выданне гэтай работы. Выдатнае веданне крыніц, багаты вопыт выкладчыка і даследчыка дазволілі Я.Карскаму зрабіць працу, якая і сёння з’яўляецца адной з лепшых у галіне кірылаўскай палеаграфіі. Адметнасць дадзенай кнігі – спалучэнне палеаграфічных, крыніцазнаўчых і мовазнаўчых метадаў даследавання тэкстаў. Шэраг назіранняў над асаблівасцямі графікі беларускіх

(заходнерускіх — па акрэсленню аўтара) рукапісаў Я.Карскі прывёў і ў слыннай працы «Беларусы».

Адметны ўклад у развіццё беларускай палеаграфіі і археаграфіі ў канцы XIX-пачатку XX стст. унеслі М.Доўнар-Запольскі, які падрыхтаваў да друку шэраг летапісаў і актавых матэрыялаў часоў Вялікага Княства Літоўскага; Дз.Даўгяла, які кіраваў працай Віленскай археаграфічнай камісіі; А.Сапуноў, які выявіў шмат арыгінальных помнікаў пісьменства, створаных на беларускіх землях, і зрабіў палеаграфічнае апісанне шэрагу з іх, быў адным з ініцыятараў стварэння Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, і іншыя.

Вывучэнне лацінскай палеаграфіі, распачатае ў першай палове XIX ст. І.Лелявелем і іншымі навукоўцамі, на тэрыторыі Беларусі і той часткі Польшчы, якая ўваходзіла ў Расійскую імперыю, у гэты час было спынена, найперш, з-за палітычных прычын. Разам з тым, даследаванні ў галіне лацінскай палеаграфіі працягваліся ў Расіі. Сярод значных даследчыкаў належыць назваць В.А.Дабіяш-Раждзественскую, якая пачынала сваю працу ў першае дзесяцігоддзе XX ст., але буйнейшыя яе даследаванні выйшлі ўжо ў савецкія часы і некалькі разоў перавыдаваліся. На тэрыторыі даўняй Рэчы Паспалітай, якая ўвайшла ў склад Аўстрыйскай імперыі, працы па вывучэнню помнікаў пісьменства, напісаных лацініцай, у тым ліку, і з беларускіх земляў, працягвала навуковая школа ў Кракаве. Тут найбольш пазначыўся археограф і палеограф С.Кшыжаноўскі, прафесар Ягелонскага універсітэта ў Кракаве. Між іншым, у 1907 г. ён выдаў альбом здымкаў старажытных польскіх актаў, які ў далейшым перавыдаваўся ў міжваеннай Польшчы.

У савецкі час развіццё палеаграфіі адбывалася на падставе канцэпцый, дамінаваўшых ў гістарычнай навуцы. Перавага аддавалася разгляду помнікаў, звязаных па свайму паходжанню і зместу з гісторыяй Расіі. У гэтым накірунку савецкая палеаграфічная навука зрабіла значныя здабыткі. Яе развіццё праходзіла ў некалькі этапаў. У 1920-1930-я гг. яшчэ працавалі даследчыкі, чыё станаўленне адбывалася ў пачатку XX стагоддзя – М.Ліхачоў, Я.Карскі і іншыя. У 1918 г. убачыла свет кніга У.Шчэпкіна «Учебник русской палеографии». Гэты падручнік і сёння з’яўляецца адным з лепшых. Даследчык, апрача іншага, адным з першых, побач з Я.Карскім, заўважыў і паказаў адрозненні трох відаў кірылічнага скорапісу – маскоўскага, беларускага («западно-русского») і ўкраінскага. У.Шчэпкін дэтальна распрацаваў методыку палеаграфічнага апісання помніка пісьменства, прынцыпы якой выкарыстоўваюцца яшчэ і сёння.

У другім-трэцім дзесяцігоддзях XX ст. ішло засваенне здабыткаў папярэдніх часоў, выпрацоўка новых метадалогіі і методыкі даследавання. У адрозненне ад папярэдняга перыяду, калі працы па палеаграфіі галоўным чынам здзяйснялі філолагі, цяпер у дадзенай галіне ведаў усё больш плённа пазначаюцца гісторыкі. Д.Прысялкоў у рабоце «Курс русской палеографии», падводзячы вынік сваім шматгадовым даследаванням, пераканаўча даказаў, што палеаграфія – навука, якая апрача чыста практычных навыкаў і вузкадысцыплінарнага падыходу да крыніцы, дае матэрыял для

агульнагістарычных даследаванняў, неабходна для асвятлення розных бакоў гісторыі грамадства. У гэты перыяд з’яўляюцца курсы лекцый па кірылаўскай палеаграфіі для гістарычных факультэтаў і архіўных інстытутаў А.Сперанскага, Н.Чаева і іншых. Выходзяць працы даследчыкаў новага пакалення – М.Ціхамірава, С.Валка. У якасці новага прадмета даследавання ў гэты час паўстае скорапіс канца XIX-пачатку XX стст., што было абумоўлена задачамі, якія ставіліся перад савецкімі гісторыкамі. Даследчыкі пісьмовых помнікаў павінны былі накіраваць свае веды на вывучэнне матэрыялаў па гісторыі камуністычнага руху і савецкай дзяржавы.

У 1950-я гады пачынаецца новы этап у развіцці савецкай палеаграфіі, яна перажывае часы імклівага развіцця. У навуковым друку вядуцца дыскусіі аб месце палеаграфіі ў сістэме дапаможных гістарычных дысцыплінаў, аб яе сувязях з іншымі галінамі гістарычных ведаў. Значныя дасягненні ў гэты час былі зроблены ў асобных галінах палеаграфіі – было адноўлена выданне альбомаў філіграняў, распрацавана методыка даследаванняў у галіне філіграналогіі (работы С.Клепікава, А.Багданава, А.Пенткоўскага, З.Участкінай і іншых); праведзена серыя кадыкалагічных даследаванняў дзеля выяўлення буйных скрыпторыяў, дзе ствараліся помнікі кірылічнага пісьменства ў часы сярэднявечча (працы Б.Клоса, Н.Сініцынай і іншых). У 1956 г. фундаментальную працу «Русская палеография» надрукаваў акадэмік Л.Чарапнін. У ёй былі вызначаны задачы палеаграфіі, падкрэслівалася неабходнасць комплекснага падыходу да аналізу крыніцы, прыведзена методыка такога падыходу. Л.Чарапнін працягнуў работу Я.Карскага па складанню гістарыяграфіі славянскай палеаграфіі.

У паслеваенны перыяд у межах палеаграфіі вылучаюцца шэраг новых галін даследавання. Сярод іх трэба вызначыць неаграфію, дысцыпліну, якая вывучае асаблівасці пісьменства Новага часу (у дачыненні да расійскіх помнікаў пісьменства – пачатак XVIII-XX стст., у дачыненні да пісьмовых кірылічных крыніц, якія паходзяць з беларускіх земляў – другая палова XVIII-XX стст.). Найбольшы даробак у галіне неаграфіі зроблены С.Рэйсерам, які, між іншым, увёў у навуковы зварот назву дазенага раздзела палеаграфіі. Неаграфія паступова фармуецца як асобная спецыяльная гістарычная дысцыпліна. У выглядзе асобнага раздзела палеаграфіі развівалася ў гэты час берасталогія – дысцыпліна, якая даследуе надпісы на бяросце. Найбольш пазначыўся ў развіцці берасталогіі В.Янін, які займаўся даследаваннем берасцяных грамат старажытнага Ноўгарада. У галіне берасталогіі цікавыя даследаванні правёў А.Арцыхоўскі.

У паслеваенны час савецкія палеографы ў сваіх даследаваннях звярталіся не толькі да разнастайнай праблематыкі, разглядаючы, да прыкладу, асаблівасці почыркаў, матэрыялу ці прылад пісьма, але таксама імкнуліся прасачыць эвалюцыю кірылічнага пісьменства. Шэраг прац, прысвечаных пачатку кірылічнага пісьма, падрыхтавалі ў гэты час В.Істрын, Д.Ліхачоў. У філіграналогіі пазначыліся А.Гераклітаў, Т.Дзіянава, Н.Ліхачоў і іншыя. Абагульняючыя работы і падручнікі падрыхтавалі ў паслеваенны перыяд Н.Ціхамраў, А.Пранштэйн, Л.Жукоўская і другія.

У 1970-1990 гады у савецкай палеаграфіі пазначыўся пэўны крызіс – пры параўнальна вялікай колькасці работ відавочны быў недахоп тэарэтычных і метадалагічных распрацовак, буйных абагульняючых прац. Палеаграфічная практыка пераважала ва ўсіх накірунках даследаванняў. Значна адставала і дыдактыка – падручнікі, якія выкарыстоўваліся ў ВНУ, не уключалі ў сябе новую методыку навучання, грунтуючыся на навучальных праграмах 1920-1930-х гадоў.

У паслеваенны час беларускія навукоўцы, у параўнанні з расійскімі, слаба пазначыліся ў галіне палеаграфіі. Тут не склалася значных навуковых школ, невялікай была колькасць арыгінальных работ, адсутнічалі абагульняючыя і фундаментальныя працы. Па-за абсягам навуковых інтарэсаў беларускіх гісторыкаў засталіся пісьмовыя традыцыі ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Навукоўцаў больш цікавіў змест пісьмовых помнікаў, чым іх знешнія прыкметы. Занядбанне палеаграфічных даследаванняў абумоўлена было незапатрабаванасцю такіх дыскурсаў з боку гістарычнай навукі, філалогіі, іншых галін ведаў. Засяроджанне гісторыкаў Беларусі на вувучэнні савецкага перыяду ў гісторыі, якое адбывалася згодна з партыйнай палітыкай таго часу, не спрыяла глыбокім даследаванням старажытнасці, для якіх палеагарафічныя веды з’яўляюцца абавязковымі. Як правіла, адзінкавыя работы ў гэтай галіне датычылі асобных помнікаў. Некаторыя звесткі па беларускай палеаграфіі сустракаліся ў працах па сумежных дысцыплінах. Гэта, найперш, датычыць работы М.Улашчыка «Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода», якая ўбачыла свет у 1973 г., а таксама каментараў, складзеных ім у час падрыхтоўкі і выдання асобных тамоў «Полного собрания русских летописей». Шэраг артыкулаў, манаграфій, дзе закраналіся пытанні палеаграфіі, былі выдадзены Г.Харашкевіч, А.Антановічам, Г.Галенчанкам, Н.Вайтовічам і іншымі. Для палеографа карысным будзе таксама праца беларускага мовазнаўцы М.А.Паўленкі «Гісторыя пісьма», якая мае характар падручніка для студэнтаў-філолагаў, але ўтрымлівае грунтоўныя матэрыялы, што датычаць пытанняў палеаграфіі. У ёй, між іншым, прадстаўлены кароткія нарысы гісторыі лацінскага, арабскага, кірылічнага алфавітаў, іх эвалюцыі, даюцца агульныя звесткі аб асаблівасцях графікі кірылічнага пісьма на беларускіх землях .

Новый этап у палеаграфіі Беларусі пачаўся з сярэдзіны 1980-х гадоў. Узросшая цікаўнасць да гісторыі, найперш, занядбанай у савецкі час старажытнай гісторыі Беларусі, абумоўленая нарастаючай адкрытасцю постсавецкага грамадства і новым уздымам беларускага нацыянальнага адраджэння, прымусіла беларускіх гісторыкаў звярнуцца да крыніц. Гэта, у сваю чаргу, выклікала неабходнасць стварэння ўласнай палеаграфічнай школы, правядзення грунтоўных палеаграфічных даследаванняў. У абсяг інтарэсаў беларускіх крыніцазнаўцаў уваходзяць раней мала імі даследаваныя комплексы актавых крыніц – Метрыка ВКЛ, дакументы гарадскога самакіравання часоў ВКЛ і Рэчы Паспалітай, матэрыялы касцёльнага і царкоўнага справаводства. Пачынаюць з’ўляцца падрабязныя

палеаграфічныя апісанні асобных дакументаў. Значнай падзеяй ў беларускай палеаграфіі стала праца М.Нікалаева «Палата кнігапісная», прысвечаная апісанню беларускіх рукапісаў, якія захоўваюцца ў бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына ў Пецярбургу. Як палеографы-даследчыкі заявілі ў гэты час аб сабе Г.Брэгер, В.Мянжынскі, Дзм.Яцкевіч і інш.

У 1996 г. выйшаў першы навучальны дапаможнік па беларускай палеаграфіі, падрыхтаваны С.Куль-Сяльверставай, а ў 2006 г. навучальны дапаможнік па беларускай кірылічнай палеаграфіі А.Грушы. Беларускі даследчык А.Груша – аўтар грунтоўных распрацовак па методыцы выдання беларускіх скарапісных крыніц, у першую чаргу, Метрыкі ВКЛ; шматлікіх публікацый па праблемах палеаграфіі. Яго дапаможнік утрымлівае каштоўныя звесткі па тыпалогіі і эвалюцці беларускага паўустава і скорапісу. Галоўнай прычынай змен у графіцы кірылічных тэкстаў даследчык лічыць развіццё справаводства, ускладненне сацыяльна-эканамічных стасункаў, меньш вагі аддаючы зменам у культурным жыцці беларускіх земляў і канфесійным адносінам. Між іншым, А Груша з поспехам рэалізуе ў свай кнізе спробу выкарыстання для кірвлічных тэкстаў тэрміналогіі, распрацаванай ў лацінскай палеаграфіі. Навучальны дапаможнік А.Грушы ўтрымлівае багатую бібліаграфію, у ліку якой і працы найбольш значных замежных аўтараў.

Для беларускай палеаграфіі высокую каштоўнасць маюць работы, напісаныя ў паслеваенны перыяд замежнымі даследчыкамі, найперш – польскімі, украінскімі, літоўскімі. Да сёняшняга дня найлепшай працай па беларуска-літоўскай філіграналогіі з’яўляецца кніга Э.Луцявічуса «Popierius Letuvoje XV-XVIII a.», якая ўбачыла свет у Вільнюсе ў 1967 годзе.. Значную вартасць для беларускіх палеографаў маюць таксама працы Э.Банёніса, выдадзеная у 1983 г. праца С.Лазуткі і Э.Гудавічуса, прысвечаная Статуту ВКЛ 1529 г.

Сярод украінскіх палеографаў у апошнія дзесяцігоддзі XX ст. арыгінальныя працы па палеаграфіі пакінулі П.Кулакоўскі, У.Ядлінская, В.Сташко, В.А.Пірко і іншыя. Для беларускага даследчыка цікавай будуць працы В.Панашэнкі, прысвечаныя украінскаму скорапісу. Асаблівасці украінскай кірылічнай графікі пазначаны ў дапаможніках па палеаграфіі М.Крыля і Я.Кіся.

Для даследчыка, які займаецца вывучэннем беларускіх рукапісаў, важнае значэнне мае і лацінская палеаграфія. Апошняе абумоўлена тым, што на нашых землях з XIV ст. даволі шырока пачало выкарыстоўвацца лацінскае пісьмо, а ў XVII-XVII стст. лацінскі алфавіт дамінаваў у пісьмовых крыніцах. Лацінскі алфавіт выкарыстоўвала польская мова, якая атрымала статус дзяржаўнай у Рэчы Паспалітай. Апрача таго, шырокае распаўсюджанне мела лацінская мова, найперш, у судовым справаводстве, навуцы і літаратуры. У гэты ж час лацінскі алфавіт выкарыстоўваўся і для беларускай мовы. На жаль, вывучэнне беларускіх помнікаў, напісаных лацінскім пісьмом, не гледзячы на іх шматлікасць, толькі пачынаецца. Таму для беларускага палеографа, які працуе з дакументамі лацінскага пісьма, актуальнымі

з’яўляюцца працы, якія датычаць гісторыі лацінскага пісьма ў Еўропе. У агульным выглядзе гісторыя лацінскай палеаграфіі прадстаўлена ў падручніку А.Д.Люблінскай «Лацінская палеаграфія». Значную вартасць маюць працы польскіх палеографаў. Гэта абумоўлена тым, што гісторыя лацінскага пісьма на беларускіх землях цесна звязана з яго бытаваннем у Польшчы, дзе лацініца была асноўным алфавітам з пачатку пісьменства. Найбольш буйным даследчыкам у галіне лацінскай палеаграфіі ў Польшы належыць назваць У. Сямковіча. Ягоная фундаментальная праца «Лацінская палеаграфія», якая некалькі разоў перавыдавалася, утрымлівае каштоўны матэрыял як па заходнееўрапейскаму старажытнаму пісьму, так і абагульняючыя звесткі аб развіцці пісьменства ў Польшчы і Рэчы Паспалітай. Гэтая праца польскага даследчыка можа быць грунтам, на якім беларускія палеографы здолеюць абаперціся пры вывучэнні гісторыі лацінскага пісьма на нашых землях. Сярод падручнікаў па польскай лацінскай палеаграфіі неабходна адзначыць працы А.Гейштара, Т.Вержбоўскага, Ю.Шыманскага і іншых. Да здабыткаў польскай палеаграфічнай школы варта аднесці работы Ч.Лапіча па палеаграфічным вывучэнні беларускай і польскай арабікі. Ягоная кніга «Kitab tatarów litewsko-polskich (paleografia, grafia, język)», якая ўбачыла свет у Торуні ў 1986 годзе, сёння з’яўляецца адной з найбольш фундаментальных прац, прысвечаных кітабам беларуска-літоўскіх татар.

Вышэй прыведзены агляд гісторыі палеаграфіі далёка не вычэрпывае ўсіх здабыткаў палеографаў за тры стагоддзя развіцця гэтай навукі.

# Гісторыя развіцця пісьма

Пісьмо – гэта сістэма знакаў для фіксацыі мовы, якая дазваляе з дапамогай графічных сімалаў замацоўваць мову ў часе і перадаваць яе на адлегласць.

Значэнне вынаходніцтва сістэмы запісу і захавання інфармацыі у развіцці чалавечага грамадства і самаго чалавека цяжка перааканіць. Шэраг даследчыкаў схільны лічыць гэтую падзею адным з рэвалюцыйных пераваротаў у гісторыі цывілізацыі, краевугольным каменем у падмурку культуры чалавецтва.

Неабходнасць стварэння сістэмы невербальнай перадачы інфармацыі, захавання яе для нашчадкаў узнікла ў часы неаліта, хаця першыя элементы гэтай сістэмы ўзніклі раней — ужо ў 7 тыс. да н.э.

Найбольш старажытным было прадметнае пісьмо. У якасці знакаў, якія перадавалі інфармацыю, ужываліся разнастайныя прадметы, гэтую функцыю маглі выконваць зарубкі на дрэве і камені, нават жывёлы і расліны. Так, да прыкладу, сякера магла азначаць абвяшчэнне вайны паміж плямёнамі, а падораны конь, ці авечка – павагу і пажаданне дабрабыту. Элементы знакавага пісьма і сёння шырока ўжываюцца ў жыцці чалавека, дастаткова прыгадаць звычай сустракаць дарагіх гасцей хлебам і соллю, ці абмен маладых пярсцёнкамі пры заключэнні шлюбу. Кожны з гэтых прадметаў у дадзенай сітуацыі мае глыбокую семантыку, губляючы яе пры змене абставін.

Наступным крокам у развіцці сістэмы запісу і перадачы інфармацыі было малюнкавае пісьмо або піктаграфія ( ад лат. piktus – намаляваны і грэч. gráphō –пішу).Піктаграфія з дапамогай аднаго малюнка або іх паслядоўнага размяшчэння на пісчым матэрыяле ( у тым ліку, камяні, дрэве і г.д.) перадае агульны змест паведамлення без уліку фанэтычнага складу мовы, якой карыстаюцца ствральнікі піктаграм. Піктаграмы такім чынам не з'яўляюцца сродкам фіксацыі якой-небудзь мовы, уласна пісьмом. Таксама, як і рэчавае пісьмо, яны перадаюць уяўленні, паняцці. Гэтыя запісы магла расшыфраваць любая асоба, незалежна ад таго, якой мовая яна гаворыць. Піктаграфія і сёння знаходзіцца ва ўжытку людзей – прыгадаем, да прыкладу, коміксы, асобныя дарожныя знакі, значкі, якія выкарыстоўваюцца ў камп'ютарных праграмах і г.д. Піктаграфія, дзякуючы сваёй незалежнасці ад фанетычнай мовы, з'яўляецца добрым сродкам паразумення. Шмат якія піктаграмы замацаваліся як міжнародныя сімвалы і зразумелыя для прадстаўнікоў розных народаў (алімпійская сімволіка, знак радыяцыйнай небяспекі, чырвоны крыж і г.д.) Піктаграмы шырока ўжываюцца ў геральдыцы.

З развіццём чалавечага грамадства ўдасканальвалася і пісьмо. Яго ўскладненне ішло адначасова з развіццём лексічнага складу мовы. Замацаванне за асобнымі словамі акрэсленых знакаў прывяло да ўзнікнення лагаграфічнага або ідэаграфічнага пісьма. Ідэаграмма (ад грэч. idea –ідэя, gráphō – пішу) – пісьмовы знак, адпаведны не гуку, а слову мовы. Найбольш

выразнымі і распрацаванымі з’яўляюцца кітайскае і егіпецкае ідэаграфічнае пісьмо, або іерагліфіка. Апошняе на працягу ІІІ-ІІ тысячагоддзя да н.э. прайшло эвалюцыю ад піктаграфічнага да ідэаграфічнага пісьма, спалучаючы ў сабе ў гэты час і малюнкі, і знакі. Своеасаблівай сістэмай пісьма быў вампум паўночна-амерыканскіх індзейцаў, які спалучаў рысы прадметнага і ідэаграфічнага пісьма. З дапамогай ракавін і шнуроў перадаваліся акрэсленыя словы і паняцці, ракавіны ў гэтым выпадку замянялі намаляваныя знакі.

Асобны тып пісьма складае фанаграфія. Гэтае пісьмо падзяляецца на два віды – складовае і літарнае. У падставе фанаграфічнага пісьма ляжыць пазначэнне знакамі асобных гукаў. У адрозненні ад папярэдніх яно звязана з фанетычным складам акрэсленай мовы. Гукі (або фанемы) ў такім пісьме пазначаюцца асобнымі фанаграмамі, пры чым асобныя фанаграмы могуць перадаваць або асобныя гукі, або спалучэнне гукаў – склады. У першым выпадку пісьмо будзе называцца літарна-гукавым, у другім – складовым. Шэраг моваў выкарыстоўвала і змяшанае складова-гукавае пісьмо, дзе знакамі пазначаліся і асобныя гукі, і іх спалучэнні.

Найстаражытнейшым фанаграфічным пісьмом лічыцца шумерскае, якое пачало складвацца каля IV тыс. да н.э. Выкарыстанне шумерамі гліны ў якасці матэрыяла для пісьма абумовіла прыёмы напісання знакаў і іх знешні выгляд. Шумерскі клінапіс развіўся на падставе ідэаграфічнага пісьма на працягу тысячагоддзяў і паслужыў асновай для акадскага, урартскага і іншых алфавітаў. Блізкім да шумерскага клінапісу было асіра-вавілонскае пісьмо. Да нашых дзён прынцып складовага фанаграфічнага пісьма выкарыстоўвае індыйскае пісьмо дэвангары, якое ўзнікла ў XIII ст.

Правобразам сучасных літарна-гукавых сістэм пісьма лічыцца фінікійскае, якое вядома з першага тысячагоддзя да н.э. Фінікійскае фанаграфічнае пісьмо, таксама, як і шумерскае, развілася на падставе ідэаграфічнай сістэмы запісу. З цягам часу асобныя ідэаграмы замацаваліся за акрэсленымі гукамі і набылі характар літар. Фінікійская мова адносіцца да сям’і сяміта-хаміцкіх моваў, гэта мовы кансанантныя — першынства маюць у іх нескладаўтваральныя, часцей, зычныя літары. У фінікійскім алфавіце адпаведна з гэтым было 22 літары, якія пазначалі зычныя гукі. Для адрознення словаў, якія мелі падобны набор зычных, першапачаткова выкарыстоўваліся спецыяльныя значкі-сімвалы. Галосныя служылі для сувязі словаў у сказе, а таксама для змянення формы слова. Фінікійскае пісьмо ўжывалася не толькі ў Фінікіі, але таксама ў Палестыне з 13 ст. да н.э., і ў Карфагене да пачатку першага тысячагоддзя н.э. Дзякуючы шырокім гандлёвым сувязям фінікійцаў яно было добра вядомае ў старажытным свеце і стала асновай для алфавітаў некалькіх народаў. Фінікійскае пісьмо лічыцца непасрэдным продкам арамейскага, яўрэйскага, сірыйскага і іншых сістэм пісьма.



**Фінікійскі надпіс на камні. ІХ ст. да н.э.**

Фінікійскі алфавіт быў пакладзены таксама ў падставу квадратнага старажытнагрэцкага пісьма, найдаўнейшыя ўзоры якога адносяцца да VII ст. да н.э. Грэкі значна ўдасканалілі фінікійскую сістэму пісьма, не толькі ўнёсшы дапаўненні ў алфавіт, але таксама змяніўшы спосаб напісання знакаў. У старажытнагрэцкай мове, у адрозненне ад фінікійскай, галосныя адыгрывалі больш значную ролю, таму грэкі дапоўнілі фінікійскі алфавіт дадатковымі літарамі. Грэцкі алфавіт складаўся з 17 зычных і 7 галосных – усяго 24 літары. У семіта-хамітскіх народаў словы пісаліся ў слупок, пры чым знакі слова размяшчаліся не ў радку, а упісываліся ў квадрат ці простакутнік, а самі словы пісаліся справа налева. Напісанне справа налева і сёння практыкуецца ў арабскім і старажытнаяўрэйскім пісьме (іўрыце). Грэкі вынайшлі гарызантальныя радкі і напісанне злева направа. Некаторы час у старажытных грэкаў выкарыстоўваўся бустрафедон – парадак пісьма, калі адзін гарызантальны радок пішацца злева направа, а наступны – справа налева. Старажытнагрэцкі алфавіт знайшоў шырокае распаўсюджанне ў народаў, знаёмых з элінскай культурай. Зручнасць і універсальнасць сістэмы пісьма, якую распрацавалі грэкі, была асэнсавана нават тымі народамі, якія раней мелі сваю арыгінальную пісьмовую культуру. Старажытнагрэцкі алфавіт, да прыкладу, быў пакладзены ў падставу коптскага пісьма — новага пісьма егіпцян. Да 24 грэцкіх літар былі дададзены яшчэ 6-8 знакаў, запазычаныя з дыматычнага скарапіснага егіпецкага пісьма папярэдняга часу, створанага на падставе старажытнага іерагліфічнага. Коптскае пісьмо захавалася як пісьмо рэлігійных рукапісаў, у тым ліку, раннехрысціянскіх. Грэцкі алфавіт увайшоў таксама ва ўжытак у народаў, якія жылі ў Малой Азіі.

ΑΒΓΔΕΖΗΘΙΚΛΜΝΞΟΠΡΣΤΥΦΧΨΩ

**Грэцкі алфавіт**

Грэцкі алфавіт паслужыў падставай для стварэння готскага пісьменства – пісьменства народа, які знік, але пакінуў некалькі цікавых пісьмовых помнікаў. У IV ст. готы, прывандраваўшы з Паўночнага Прычарнамор'я і асталяваўшыся на берагах Сяродземнага мора, пачалі прыймаць хрысціянства. Каб данесці да новых вернікаў слова божае на іх мове, епіскап Вульфіла вырашыў перакласці Біблію на готскі. Але існуючы грэцкі алфавіт не ўтрымліваў знакаў, якія бы дакладна перадавалі ўсе гукі готскай мовы. Узяўшы за падставу грэцкі алфавіт, ён дадаў да яго некалькі лацінскіх літар,

а таксама літар, прыдуманых ім для азначэння спецыфічных гукаў готскай мовы, і пераклаў на гэтую мову Біблію.

На падставе грэцкага алфавіта ўзнік лацінскі алфавіт. Сёння пісьмом, пабудаваным на падставе лацінскага алфавіту, карыстаецца трэццяя частка ўсіх народаў свету. Лацінскі алфавіт прайшоў доўгую эвалюцыю, адчуўшы на сябе не толькі змены, звязаныя з удасканаленнем матэрыяла і прылад пісьма, але таксама тыя, што былі абумоўлены развіццём моваў розных народаў. Фармаванне гэтага алфавіту, на думку навукоўцаў, адбылося ў VIII-VII стст. да н.э. Самымі раннімі помнікамі лацінскага пісьма з’яўляюцца надпісы VII-VI стст. да н.э. Да II ст. н.э. канчаткова склаўся так званы класічны лацінскі алфавіт. Першапачаткова ён налічваў 23 знакі. Адрозненнем ад сучаснага лацінскага алфавіта была адсутнасць спецыяльных знакаў для паўгалоснай «j» і зычнай «v». У старажытным Рыме і раннім сярэднявеччы *i* адначасова пазначала «i» або «j», а *u* — «u» або «v». Літары *u* і *v* пачалі адрозніваць толькі ў сярэднявеччы. У гэты ж час у ліцінскім алфавіце з’явіліся *j* і *w*. Яны патрэбны былі для перадачы гукаў, якіх не было ў лацінскай мове і якія прысутнічалі ў мовах еўрапейскіх народаў. Ужо ў ранні перыяд існавання лацінскага алфавіту сфармавалася практыка вылучэння ў ім словаў прабеламі ці кропкамі, хаця гэтае правіла не было ўнармаваным. Устойлівасць яно набыло толькі ў часы Рэнесансу.

У развіцці лацінскага алфавіта вылучаюць некалькі перыядаў. Першы, які ахоплівае часы антычнасці, характарызуецца развіццём на італійскай глебе грэцкага і этрускага пісьма, якое прывяло да складвання рымскай сістэмы пісьма. У часы росквіту Рымскай імперыі сфармавалася так званае капітальнае пісьмо, якое выступала ў дзьвюх формах — манументальнай і русцічнай (ад лат. *rustikus* – вясковы, просты). Капітальнае пісьмо ведала толькі прапісныя літары. Манументальная яго форма адрознівалася амаль квадратнымі памерамі, была строга геаметрычнай.



**Узор лацінскага капітальнага пісьма**

Русцічнае пісьмо паходзіла ад капітальнага, але ў адрозненні ад яго мела больш свабоднае напісанне, меньшую геаметрычнасць. Такая розніца абумоўлена была, між іншым, матэрыялам, які ўжываўся для пісання – на камені, дрэве і цвёрдых рэчывах дарэчы было капіальнае пісьмо, на папірусе, воске, гліне – русцічнае. Першае з іх было парадным пісьмом.

На падставе русцічнага пісьма, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, развіўся курсіў, у якім назіралася хуткае і неахайнае напісанне літар. Гэтае пісьмо было, так бы мовіць, побытавым пісьмом, якім карысталіся штодня. У раннім сярэднявеччы адначасова ўжываліся рымскае капітальнае пісьмо (для надпісаў на камені, дрэве і іншых цвёрдых матэрыялах) і курсіў. Абодва

гэтыя тыпы пісьма мелі свае мадыфікацыі. У VI-VIII стст. пачынаюць вылучацца асобныя сістэмы пісьма розных народаў.

У IX-XI стст., калі лацінскі алфавіт упершыню трапіў на тэрыторыю Беларусі, найчасцей ўжываным на Еўрапейскім кантыненце стаў тып лацінскага пісьма, які ў палеаграфіі атрымаў назву каралінгскага мінускула — ад назвы імперыі Каралінгаў, дзе ён быў найбольш распаўсюджаны. Тэрмінам “мінускул” пазначаецца характэрная асаблівасць дадзенага пісьма – у ім адбылося канчатковае фармаванне радковых літар ( ад лат. *minus* – маленькі, паменьшаны). У перадрэнесансныя часы лацінскае пісьмо набывае характар фрактуры (ад лат. *fraktus* – ламаны, слабы). Гэтае пісьмо, востракутнае, ламанае, часам называюць гатычным пісьмом.

Гэтым тыпам пісьма напісаны лацінскія дакументы часоў Ягайлы і Казіміра Ягелончыка, калі пасля Крэўскай уніі лацінская мова пачынае ўжывацца ў дзяржаўным справаводстве Вялікага княства Літоўскага.

Падобным тыпам пісьма была напісана частка найбольш старажытных лацінскіх дакументаў архіва ВКЛ – Літоўскай Метрыкі.


In nomine domini amen.

**Фрагмент прывілея Ягайлы, дадзены ў Кракаве 27 сакавіка 1431 г.**



**Фрагмент прывілея Казимира Ягелончыка, дадзены ў Кракаве 4 липеня 1465 г.**

Эпоха Рэнесанса прынесла кардынальныя змены ў аблічча лацінскага пісьма. Нараджаецца новы тып пісьма, які атрымаў назву антыква ( ад лат. *antiqua* – старажытны), яго інакш называюць гуманістычным пісьмом. Менавіта антыква набыла найбольшае распаўсюджанне ў еўрапейскіх народаў. На яе базе развівалася нацыянальнае пісьменнасць, яна ўжывалася для адлівкі шрыфтоў пры кнігадрукаванні. Антыква ў далейшым была пакладзена ў падставу рэфармавання кірылічнага пісьма ў Расіі.

Апрача вышэй названых алфавітаўназолку гісторыі пісьмовай культуры выкарыстоўваліся і іншыя сістэмы пісьма. Большасць з гэтых алфавітаў сёння расшыфравана, аднак засталося яшчэ некалькі дзесяткаў, якія шукаюць свайго даследчыка.

***Пісьменнасць у старажытных славянаў.*** Пісьмовая культура старажытных славянаў развівалася па шляху, уласцівым большасці еўрапейскіх народаў. З’яўленне сістэмы захавання і перадачы інфармацыі ў

старажытных славянаў было абумоўлена грунтоўнымі зрухамі ў сацыяльна-эканамічным і культурным жыцці, ажыўленымі шматбаковымі сувязямі з далёкімі і блізкімі суседзямі. Як сведчаць дакументы і археалагічныя знаходкі, у дахрысціянскі час славянскія плямёны мелі ўласную сістэму пісьма. Шматлікія звесткі аб гэтым маюцца ў агіяграфічнай літаратуры, у работах арабскіх аўтараў. У «Панонскам жыцці», якое распавядае аб жыцці і дзейнасці св. Кірыла – магчымага стваральніка кірылічнай азбукі, згадваецца, што ў час свайго падарожжа ў Корсунь на ўзбярэжжы Крыма яшчэ да вынаходніцтва кірылічнага алфавіту, ён бачыў Псалтыр і Евангелле, напісаныя «славянскаю моваю». Аб наяўнасці ў старажытных славянаў свайго адметнага пісьма пішуць арабскія навукоўцы і падарожнікі Эль Масудзі, Ібн Фадлан, Ібн эль Надзін і іншыя. Аб надпісах на славянскай мове згадваюць лацінскія храністы Цітмар Мерзебургскі і Саксон Граматык. Найбольш выразнае сведчанне аб характары дахрысціянскага пісьменства ў старажытных славянаў пакінуў балгарскі манах Храбр Чарнарызец у рукапісу «Сказанні пра пісьмены». Ён піша: «Некалі славяне не мелі кніг і рыскамі і рэзамі пісалі і варожылі, будучы паганскай веры, і так было многа гадоў».

На землях, населеных некалі славянскімі плямёнамі, адзначана дастаткова вялікая колькасць надпісаў, зробленых рунічным ці рунападобным пісьмом. Рунічная пісьмо – адно з найбольш загадкавых і старажытных еўрапейскіх сітэм пісьма. Найстарэйшыя вядомыя руны датуюцца пачаткам першага тысячагоддзя н.э.

Шырокае распаўсюджанне рунічных надпісаў і знакаў выклікала ўзнікненне спецыяльнай галіны гістарычных ведаў. **Руналогія** – дапаможная гістарычная дысцыпліна, якая займаецца даследаваннем рунічных надпісаў і знакаў, вывучае спосабы і прычны іх ужывання, распрацоўвае методыку іх расшыфроўкі. Даследчыкі вылучаюць некалькі відаў рунічных надпісаў. Больш даследавана і апісана рунічнае пісьмо цюркскіх народаў, якое ўжывалася ў V –XI стст. Гэта было кансанантнае пісьмо, складзенае на падставе сагдыйскай пісьменнасці, якая сваімі карэннямі ўзыходзіць да арамейскай сістэмы пісьма. Апошняе ж было цесна звязанае з фінікійскім кансанантным пісьмом. Гэтая генеалогія прасочываецца і ў напісанні знакаў, і ў прынцыпах выкарыстання рунічнага алфавіта. Больш загадкавым з'яўляецца рунічнае пісьмо старажытных еўрапейскіх народаў. Не ўсе рунічныя надпісы прачытаныя, многія маюць розныя трактоўкі. Не прыйшлі даследчыкі і да адзінага погляду на прынцып складання рунаў. Шэраг бачыць ў іх ідэаграмы, другія – фанетычнае складовае ці складова-літарнае пісьмо. Адзін з поглядаў на рунічныя знакі грунтуецца на меркаванні, што яны з'яўляюцца літарамі лацінскага алфавіту, прыстасаванымі для пісання на цьвёрдых матэрыялах. Падцверджанне гэтаму шукаюць не толькі ў знешнім выглядзе рунаў, але таксама ў назве гэтай сістэмы пісьма. Паўночна-скандынаўскае *rita* або нямецкае *ritzen* азначае надпіс ці выяву, выразаную ці выскрабаную на дрэве (адсюль – дрэварыт – гравюра, выкананая на дрэве). Паводле іншай версіі назва гэтай сістэмы пісьма ўзыходзіць да старажытнагерманскага кораня *ru* – «таямніца», «загадка», паколькі пісьму

прыпісвалі магічную сілу. Алфавіт рунаў называюць часам футарк (futhark) – па назве першых літар. Фанетычны парадак літар ў рунічным алфавіце не мае нічога агульнага з лацінскім, апрача таго, ён перадае асобныя гукі, якіх не было ў лацінскай мове, і можа мецць варыянты пазначэння гукаў знакамі. Рунолагамі праведзена класіфікацыя рунаў у залежнасці ад часу і месца іх ужывання. Так званыя старэйшыя руны ўжываліся ў III-VIII ст; малодшыя – IX-XI стст., апошнія маюць два варыянты — шведска-нарвежскія руны і пункціраваныя руны насельнікаў Даніі, якія ўжываліся пазней.



**Старэйшыя руны**

Таямнічасць рунаў звязана, апрача іншага, з тымі абставінамі, што яны разглядаліся ў сярэднявеччы як сімвалы паганскай магіі. Руны ўжываліся ў якасці рытуальнага пісьма германскіх і скандынаўскіх народаў нават у час, калі на гэтых землях трывала замацавался хрысціянства і лацінскі алфавіт.

Па перакананню некаторых даследчыкаў, рунічнае пісьмо і ёсць тая пісьменнасць, якая выкарыстоўвалася ўсходнімі славянамі да распаўсюджання кірыліцы і лацінскага пісьма і нават пасля засваення імі гэтых алфавітаў.

Расшыфроўка рунічных ці рунападобных надпісаў старажытных славянаў пакуль што з’яўляецца задачай будучых даследаванняў. Існуе некалькі гіпотэз наконт характара гэтага пісьма і магчымых падыходаў да яго прачытання. У 1999 г. маскоўскі даследчык Г.Грыневіч, правёўшы аналіз некалькіх соцен рунічных надпісаў, якія сустракаюцца не толькі на славянскіх землях, але на ўсім еўрапейскім кантыненце і ў Азіі, прапанаваў сваю версію расшыфроўкі рунічных надпісаў. На ягоную думку, рунічнае пісьмо з’яўляецца фанаграфічным складовым пісьмом, якое выкарыстоўвалася для перадачы словаў старажытнаславянскай мовы. Навуковец прадставіў уласную расшыфроўку многіх рунічных надпісаў, у тым ліку, паходзячых з беларускіх земляў. Распрацоўкі Г.Грыневіча пакуль што не з’яўляюцца агульнапрынятымі ў руналогіі і могуць разглядацца толькі ў якасці адной з версій прачытання рунічных знакаў.

На беларускіх землях знаходкі рунічных ці рунападобных надпісаў досыць частыя. Яны сустракаюцца на цэгле, на прадметах побыту. Шэраг рунападобных знакаў, між іншым, знаходзяцца на цэгле Барысаглебскай (Каложскай ) царквы ў Гродна, якая датуецца 80-мі гадамі XII ст., і царквы Спаса на Смядыні ў Смаленску, на полацкіх храмах. Рунападобныя знакі нанесены на так званыя Драгічынскія клейны, сустракаюцца яны на прасніцах і на іншых прадметах. Выяўленнем і даследаваннем рунічных

надпісаў і асобных знакаў у розныя часы займаліся беларускія навукоўцы М.Шчакаціхін, І.Трусаў, А.Цітоў і іншыя. Апісанне некаторых з рунаў, знойдзеных на беларускіх землях, пакінулі польскія даследчыкі, у тым ліку Ю.Ядкоўскі. Рунападобныя знакі, пэўна, пакладзены і ў аснову найбольш старажытных мясцовых гербоў. Адметнасць беларускай геральдыкі – шырокае ўжыванне гербаў-клейнаў, якія вядуць сваё пажоджанне ад радавых і асабістых знакаў, што склаліся яшчэ ў часы Полацкага княства, а магчыма, і ў дахрысціянскі перыяд. Менавіта гэтыя гербы маюць, на думку большасці беларускіх даследчыкаў-геральдыстаў, гентычную сувязь з рунічнымі знакамі. Рунападобныя знакі былі ў шырокім ужытку. Яны выкарыстоўваліся для азначэння бортных дрэваў, у якасці клейнаў майстроў і ў іншых, у тым ліку, магічных мэтах.



**Знакі і клейны на смаленскай цэгле**

Некаторыя беларускія даследчыкі (Г.Татур, Э.Зайкоўскі) схіляюцца да меркавання, што на землях, заселеных крывічамі і іншымі ўсходнеславянскімі плямёнамі, маглі існаваць яшчэ ў дахрысціянскі перыяд уласныя сістэмы пісьма, не звязаныя з рунічнай. Археолагамі знойдзена дзесяткі надпісаў на каменях, прасніцах, бяросце, напісаных нерасшыфраванымі літарападобнымі знакамі, якія часам стаяць побач са скандынаўскімі рунамі. Падобныя знакі сустракаюцца на беларускіх землях да часоў Рэнесанса. Э.Зайкоўскі, засноўваючыся на археалагічных знаходках апошніх гадоў, робіць дапушчэнне, што адзінай сістэмы пісьма магло і не існаваць, а кожнае племя, ці племянны саюз карысталіся ўласным алфавітам.

З XI ст. асноўным алфавітам, на якім развівалася пісьменнасць усходнеславянскіх народаў, а таксама сербаў, балгар і некаторых іншых славянаў, стала кірыліца. У XIX-XX стст. былі спробы перавесці на кірылічны алфавіт пісьменнасць некаторых неславянскіх народаў, а таксама славянаў, якія выкарыстоўвалі лацінскі алфавіт, у тым ліку, літоўцаў, палякаў, малдаванаў, азербайджанцаў і інш. На беларускіх землях побач з кірыліцай і лацінкай ва ўжытку быў арабскі алфавіт, на якім з XVI ст. беларускамоўныя ісламскія тэксты запісвалі літоўска-беларускія татары.

З гісторыі развіцця алфавітаў, ўжываных на беларускіх землях, найбольш важным для даследчыка з’яўляецца эвалюцыя кірылічнага алфавіту, як найбольш тут распаўсюджанага.

Адначасова з развіццём пісьменства вынаходзіліся і ўдасканальваліся прылады пісьма і матэрыялы, на якіх пісалі. У старажытныя часы ў якасці матэрыялу для пісання ўжывалі гліняныя і васковыя таблічкі, у часы антычнасці і ў раннім сярэднявеччы шырока выкарыстоўваўся папірус (апошнія помнікі на папірусе датуюцца XII ст.). Звычайнымі прыладамі пісьма апрача разнастайных  касцяных і металічных шпілек былі калам і пэндзлі. Каламам – палачкай з трыснягу – пісалі на папірусе. Разнастайнымі былі і рэчывы, якія ўжываліся для пісьма. У краінах Далёкага Усходу ва ўжытку была туш, на Еўрапейскім кантыненце і ў Паўночнай Афрыцы на папірусе пісалі чарнілámі, якія выраблялiся часцей за ўсё з сажы, камедзі і вады.

***Кірыліца і глаголіца*** Стварэнне сістэмы пісьма, якая стала асновай пісьменнасці ўсходнеславянскіх і некаторых паўднёваславянскіх народаў, звязана з імёнамі асветнікаў Кірыла і Мефодыя. Аб жыцці і дзейнасці Кірыла і Мефодыя распавядаюць творы агіяграфічнага характару, найперш, Панонскае жыццё і Жыццё св. Мефодыя. Кірыл (да прыняцця манаскага сану ў 868 г.- Канстанцін, каля 827-14.02.869 г.) таксама, як Мефодый (каля 815-6.04.855 г.), нарадзіўся ў Солуні (сёняшнія Салонікі ў Грэцыі) у сям’і ваеначальніка. Атрымаўшы адукацыю у Канстанцінопалі, Кірыл стаў бібліятэкарам у бібліятэцы патрыярха, выкладаў філасофію. Мефодый ў гэты час кіраваў адной з візантыйскіх правінцый, населеных славянамі, а затым стаў ігуменам манастыра. У гэты час на заходнеславянскіх землях узнікла моцная дзяржава — Вялікамаравія, у склад якой увайшлі землі Маравіі, Чэхіі, Славакіі, Лужыцкая зямля, частка Польшчы, зямля бодрычаў, аб’яднаныя князем Маймірам. Маравы прынялі хрысціянства яшчэ ў 830-я гады, але царква ў іх землях была падпарадкавана Баварскаму біскупству. Стасункі паміж Вялікамаравіяй і ўсходнефранкскім каралеўствам, у якое ўваходзіла Баварыя, пагоршыліся, таму залежнасць царкоўнай арганізацыі ад варожай дзяржавы станавілася непрымальнай. Каб вывесці царкоўную арганізацыю з-пад улады замежных біскупаў, вялікамараўскі князь Расціслаў звярнуўся да сваіх усходніх суседзяў па дапамогу. У Маравію ў 863 г. былі накіраваны Кірыл і Мефодый. Ім належала распаўсюдзіць на гэтых землях праваслаўе і стварыць новую царкоўную арганізацыю. Перад ад’ездам Кірыл, жадаючы прапаведваць свяшчэннае пісанне на мове, зразумелай славянам, стварыў азбуку; затым разам з Мефодыем пераклаў з яе дапамогай некалькі найбольш важных хрысціянскіх кніг на мову славян. Якую азбуку склаў Кірыл – па гэтаму пытанню думкі навукоўцаў разыходзяцца. У часы Кірыла і Мефодыя адначасова ўжываліся дзьве азбукі – кірыліца і глаголіца. У асобных помніках – Сінайскім псалтыры, Асеманавым Евангеллі – у глагалічным тэксце сустракаюцца кірылічныя літары, а ў кірылічных тэкстах – глаголіца. Па некаторым меркаванням, кірылічныя надпісы існавалі нават да таго, як Кірыл і Мефодый пачалі сваю асветніцкую дзейнасць. Па меркаванню другіх – менавіта глаголіца з’яўляецца раннім алфавітам славянаў, а кірыліца створана Кірылам. Існуюць і зусім адваротныя меркаванні. Дыскусія аб

першынстве кірыліцы і глаголіцы не завершана да гэтага часу, і наўрад ці дадзенае пытанне будзе вырашана адназначна ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі.

Кірыл і Мефодый адстаялі права стараславянскай мовы стаць мовай Бібліі побач з яўрэйскай, лацінскай і грэчаскай мовамі. Гэтая падзея адбылася на тэалагічным дыспуце ў Венецыі, куды асветнікі былі запрошаны пасля свайго побыту ў Маравіі.

Кірыл і Мефодый былі кананізаваны праваслаўнай царквой. Свята асветнікаў прыпадае на 11 мая і штогод адзначаецца сусветнай грамадскасцю як свята славянскай пісьменнасці.

Лёс дзвюх славянскіх алфавітаў – глаголіцы і кірыліцы, склаўся па-living рознаму. Глаголіца не набыла такога шырокага распаўсюджання, як кірыліца. Аднак яна прадстаўлена не толькі рукапіснымі, але і друкаванымі помнікамі, здолела распрацаваць дзьве мадыфікацыі напісання тэкстаў – круглую і простакутную глаголіцы. Часцей за ўсё глагалічныя рукапісныя помнікі сустракаюцца на тэрыторыі Балгарыі, Малдавіі, Харватыі і Чэхіі. Найбольш старажытнымі помнікамі глагалічнага пісьма з’яўляюцца: надпіс на надмагіллі 893 г. у Сімеонаўскай царкве ў Праславе (Балгарыя), Кіеўскія аркушы X ст. (або інакш Кіеўскі місал), Зографскае, Марыінскае, Асеманава евангеллі. Захавалася дзесяць глагалічных надпісаў на сцяне Сафійскага сабору ў Ноўгарадзе, надпісы на бяросце. Пасля выцяснення глаголіцы з паўсядзённага ўжытку кірыліцай ў XI ст. яна стала выкарыстоўвацца асобнымі славянскімі народамі ў якасці тайнага пісьма. На ёй у XVI-XVII стст. у Венецыі, Харватыі, Рыме друкаваліся кнігі для набажэнстваў. Глаголіца не толькі адрознівалася ад кірыліцы напісаннем літар, але мела і іншую іх колькасць. У складзе глагалічнага алфавіту было 40 літар, адсутнічалі, у параўнанні з кірыліцай, літары, якія ўжываліся для перадачы спецыфічных гукаў грэчаскай мовы («псі», «кс»”), літара, адпаведная «яць» у кірыліцы.




**Глаголіца**

Кірылічны алфавіт не быў аднастайным на працягу стагоддзяў і ў розных народаў. Ён змяняўся не толькі з развіццём пісьмовай практыкі, але таксама адначасова з эвалюцыяй мовы. Першапачаткова кірылічны алфавіт уключаў 43 знакі. З іх 25 літар былі пазычаны з грэцкага алфавіту, якім карысталіся візантыйцы, 18 літар перадавалі гукі, якія адсутнічалі ў грэкаў. З гэтых апошніх літары «цы», «чэрв» і «ша» былі перанесены ў кірыліцу з яўрэйскага алфавіта, астатнія ўяўлялі сабой відазмененыя грэчаскія і ліцінскія літары. Кірыліца не была універсальнай. Ужо ў час яе стварэння яна не магла перадаць усе асаблівасці вымаўлення многіх жывых славянскіх моваў, а шрэаг літар у ёй не былі неабходнымі для іх, бо адпаведныя гукі ў тагачасных мовах адсутнічалі. Кожная літара ў кірыліцы мела сваю назву.

Некаторыя літары кірыліцы, якія пісаліся па-рознаму, ва ўсходнеславянскіх мовах перадавалі адзін гук: «і» і «іжа»; «от» і «он»; «зяло» і «зямля», «ферт» і «фіта». Не гледзячы на гэта, гэтая падвоенасцць літар надоўга затрымалася ў алфавіце, які ўжываўся ўсходнімі славянамі. Тое, што ва ўжытку доўгі час захоўвалася дубліраванне літар, абумоўлена была living рознымі абставінамі. Так, «і» і «іжа»; «зяло» і «зямля», «ферт» і «фіта» азначалі розныя лічбы, таму іх наяўнасць у алфавіце абгрунтоўвалася функцыянаваннем у якасці літар і матэматычных знакаў. Апрача таго, «і» і «іжа» ўжываліся на пісьме ў розных выпадках, у тым ліку для адрознення амонімаў. Што ж датычыцца «он» і «от», якія азначалі гук „о”, апошняя з гэтых літар, пазычаная з грэцкага алфавіта (амега), ужывалася не толькі як азначэнне гука і лічбы, але і як складаная частка прыназоўніка «от». Літары «псі», «кс»” ўжываліся ў словах грэцкага паходжання і павінны былі спрыяць больш дакладнаму іх вымаўленню: «ψалтыр», «Алеξандр», адначасова яны мелі лічбавае значэнне. Падобным было ўжыванне «іжыцы». Яна азначала

гук «і» перад зычнымі, «в» перад галоснымі і ўжывалася пераважна ў словах грэчаскага паходжання.

Літары «ер» і «ерь» у славянскіх мовах азначалі першапачаткова кароткія галосныя «о» і «е». З цягам часу іх функцыі ў мове змяніліся – першая стала выкарыстоўвацца спачатку для пазначэння цвёрдасці зычнай, як знакавы сігнал заканчэння слова. Затым яна ў рускай мове набыла тыя ж функцыі, што і апостраф у беларускай мове. У беларускай мове яна сёння не ўжываецца. «Ерь» стала паказваць мяккасць зычнай.

Асобнае месца ў кірылічным алфавіце займаюць «юсы» У старажытнаславянскай і некаторых славянскіх мовах (польская, украінская) існуюць гукі, якія сёння не ўжываюцца беларусамі. Гэта насавыя галосныя (sąd— суд, męso — мяса), для пазначэння якіх першапачаткова ўжываліся «юсы». «Юс малы» выкарыстоўваўся таксама для пазначэння дыфтонга «йа» пасля мяккіх зычных і ў канцы слова «боѧрин»,«зямлѧ».

Літары кірыліцы і глаголіцы ўжываліся таксама і для пазначэння лічбаў. Гэтая традыцыя склалася ў эпоху антычнасці ў лацінскім і грэчаскім пісьме, з якімі былі звязаны славянскія алфавіты. На беларускіх землях кірылічная сістэма напісання лічбаў ужывалася да XVII ст., нават у часы, калі ўжо ў пісьмовай практыцы замацаваліся арабскія лічбы.

Склад кірылічнага алфавіту змяняўся з цягам часу. У старажытнарускай пісьменнасці вельмі хутка з ужытку выйшлі юсы. Іх наяўнасць у тэксце з’яўляецца адной з палеаграфічных прыкмет і дапамагае акрэсліць час і месца стварэння рукапісу. Пры напісанні кірылічнага тэксту адным з правілаў было заканчваць радок галоснай літарай. Каб выканаць гэтае правіла, апошняе слова магло падзяляцца пераносам так, што адна ці дзьве зычныя, якімі яно завяршалася, пераносіліся на наступны радок, ці пісаліся над радком.

У кірылічнай сістэме пісьма ўжываліся разнастайныя радковыя, надрадковыя і падрадковыя знакі, якія павінны былі спрыяць больш дакладнаму вымаўленню словаў і асобных гукаў, пазначаць інтанацыю. У візантыйскай сістэме пісьма, якую наследвала кірыліца, шырока ўжываліся разнастайныя дыакрэтычныя знакі і знакі прыпынку. Тут пазначаліся націскі, прыдыханні і іншыя асаблівасці вымаўлення. Частка гэтых знакаў была перанесена ў кірыліцу, але не ўсе з іх прыжыліся, паколькі не былі патрэбны для перадачы славянскіх моваў.

# Кірыліца

| **Літара** | **Назва** | **Лічба** | **Літара** | **Назва** | **Лічба** |
|---|---|---|---|---|---|
| **А** | **аз** | **1** | **Ф** | **ферт** | **500** |
| **Б** | **букі** | | **Х** | **хер** | **600** |
| **В** | **ведзі** | **2** | **Ѡ** | **от** | **800** |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Г | глаголь | 3 | Ц | цы | 900 |
| Д | дабро | 4 | Ч | чэрвь | 90 |
| Є | есць | 5 | Ш | ша | |
| Ѥ | е ётаванае | | Щ | шта | |
| Ж | жывеце | | Ъ | ер | |
| Ѕ | зяло | 6 | Ы | еры | |
| З | зямля | 7 | Ь | ерь | |
| И(н) | іжа | 8 | Ѣ | яць | |
| І | і | 10 | Ю | ю | |
| К | како | 20 | Ꙗ | я | |
| Л | людзі | 30 | Ѧ | юс малы | |
| М | мысліце | 40 | Ѩ | юс малы ётаваны | |
| Р(Н) | наш | 50 | Ѫ | юс вялікі | |
| О | он | 70 | Ѭ | юс вялікі ётаваны | |
| П | пакой | 80 | Ѯ | ксі | 60 |
| Р | рцы | 100 | Ѱ | псі | 700 |
| С | слова | 200 | Ѳ | фіта | 9 |
| Т | тверда | 300 | Ѵ | іжыца | 400 |
| Ѹ | ук | | | | |

Сярод знакаў прыпынку першай па часе ў кірылічным пісьме з’явілася кропка. На працягу некалькіх стагоддзяў яе ўжыванне не было ўнармаваным. Кропка, шматкроп’е ў некалькіх варыянтах (**.**, **…**, ) ставіліся ў канцы сказа ці раздзела, а таксама часам выконвалі функцыю коскі. Найбольш упарадкавана было ўжыванне кропак для пазначэння лічбаў – яны ставіліся для аддзялення тысячаў і сотняў ад дзесяткаў і адзінак (·ξ· ĉ · аі ·). Замест кропак для пазначэння канца сказу ці тэксту часам ужываліся крыжы.рознага кшталту. У XIII-XIV стст. ва ўжытак ўваходзяць коска і кропка з коскай.

Коска асабліва актыўна пачала распаўсюджвацца на ўсходнеславянскіх землях дзякуючы паўднёваславянскаму ўплыву, набываючы сталае месца ў пісьме з XVI ст. Кропка з коскай першапачаткова пазначала пытальны сказ. Звыклыя нам знакі прыпынку былі ўнармаваны толькі ў XIX ст.

Сярод надрадковых і падрадковых знакаў, якія ўжываліся ў кірыліцы, толькі некаторыя сапраўды перадавалі асаблівасці вымаўлення. Шмат якія з амаль двух дзесяткаў надрадковых знакаў, якія сустракаюцца ў старажытных кірылічных тэкстах, не ўплывалі істотна на фанетычны характар тэксту. Правілы іх ужывання не былі ўнармаваны ва ўсходнеславянскім пісьменстве. Выключэннем з вышэй згаданага з’яўляюцца знакі, якія паказваюць мяккасць зычных, а таксама скарачэнне слова. Мяккасць зычных мог пазначаць знак паерык (ерчык, ерак), які ставіўся часцей у канцы слова (‘) .

Найбольш ужываным надрадковым знакам было тытла ( ҃ ). Тытла ставілася над скарочаным словам, а таксама над літарамі, якія пазначалі лічбы. Гэтыя ж функцыі выконвалі «пакрыцце» ( ̂ ), «смычац» (″ ). На апошні з іх падобны вынесеныя над радком у канцы слова «і» або «й», радзей – літары «к», «м», «н». У кірылічным пісьме, таксам, як і ў лацінскім, скарочанае напісанне словаў было вельмі распаўсюджана. Гэта давала эканомію матэрыялу і часу напісання. Часцей за ўсё скарачаліся словы, якія мелі тэалагічны змест (nomina sakra – свяшчэнныя словы), а таксама найбольш ужываныя, скарачэнне якіх было зразумела чытачу. На працягу доўгага часу выпрацоўваліся прыёмы скарачэння. Скарочана пісалі і на кірыліцы, і на лацінцы. Тэрміны, якімі акрэсліваюцца гэтыя скарачэнні, кірылічная палеаграфія запазычыла ў лацінскай палеаграфіі. Часцей за ўсё ужываліся наступныя прыёмы скарачэння: пропуск літар, пераважна галосных, у сярэдзіне слова (*кантракцыя*); скарачэнне слова да адной пачатковай літары (*сігла*); усячэнне слова (*суспензія*). Гэтыя прыёмы скарачэння ўжываюцца і сёння ( да прыкладу, г.- год; км – кіламетр; руб. – рубель). Часам над скарочаным словам пісалася адна з літар, якія скарацілі, і над ёй ставілася тытла.

# Знешнія прыкметы помнікаў пісьменства ўсходніх славянаў XI-XIII стс.

Распаўсюджанне пісьменства на ўсходнеславянскіх землях пайшло хуткімі крокамі пасля прыняцця хрысціянства. Разам са святарамі, якія прыходзілі сюды з Візантыі, Маравіі, іншых хрысціянскіх краін, прыходзіла культура пісьма на кірыліцы і лацінцы, траплялі рукапісы і кнігі. Пісьменнасць засвойвалі таксама славяне, якія наведвалі суседнія хрысціянскія краіны і там хрысціліся. Распаўсюджанне пісьменнасці адбывалася паступова, цэнтрамі яе былі княскія рэзідэнцыі, гарады. Шматлікія знаходкі археолагаў сведчаць аб тым, што ў гарадах пісьменнасць вельмі хутка засвойвалася не толькі феадаламі, але і прадстаўнікамі непрывілеяваных колаў грамадства. Надпісы на побытавых рэчах – прасніцах, цаглінах, грэбнях, гаршках, а таксама граматы на бяросце і графіці на сценах храмаў, паказваюць, што ўжо ў XII ст. пісьменнасць была вядома ў асяроддзі рамеснікаў, гандляроў, пісьменнымі былі многія кабеты і дзеці.

У XI-XIII стст. на землях усходніх славянаў складваюцца цэнтры пісьменства, у якіх развіваецца майстэрства рукапіснай кнігі, ствараюцца летапісы, узнікае справаводства. Тут закладваюцца архівы і бібліятэкі. У гарадах часцей за ўсё месцам, дзе пісьмовая культура знаходзіла найбольшае развіццё, былі княскі двор, храм, часам актавая пісьменнасць вялася аб'яднаннямі гандляроў. На беларускіх землях значнымі цэнтрамі пісьменнасці былі Полацк, Тураў, Бярэсце, Гародня, Наваградак, Менск. У агіяграфічнай літаратуры і летапісах зафіксавана з'яўленне першых школ пісьменнасці. На беларускіх землях, пэўна, аднымі з першых былі школы, якія стварыла Ефрасіння Полацкая. Яна ж была адной з заснавальнікаў бібліятэкі пры полацкім Сафійскім саборы – найбагацешага кнігазбору не толькі на беларускіх, але і на ўсходнеславянскіх землях. Бібліятэка гэтая была разрабавана ў час Лівонскай вайны.

На жаль, да сёняшняга часу дайшло вельмі мала рукапісаў XI-XIII стст. Даследчыкі надзвычай рэдка сустракаюцца з такімі знаходкамі. Сёння выяўлена крыху больш за 500 рукапісаў, якія датуюцца дамангольскім перыядам. Колькі з іх паходзяць з уласна беларускіх земляў, акрэсліць немагчыма. Пераважная частка іх – кнігі рэлігійнага зместу: Евангеллі, Псалтыры, Апосталы, Служэбнікі, Мінеі. Параўнальна вялікая колькасць царкоўных кніг звязана з неабходнасцю забяспечваць дзейнасць праваслаўных храмаў. Кожны з іх павінен быў мець кнігі для набажэнства, для вядзення службы. Значна меньш захавалася несакральных кніг – Ізборнікаў, Хранографаў, летапісаў. Многія кнігі захаваліся фрагментарна. Актавыя помнікі – граматы – даследчыкі лічаць адзінкамі.

Найбольш старажытнай датаванай рукапіснай кнігай, якая была створана на ўсходнеславянскіх землях і дайшла да нашага часу, пакуль што лічыцца „Астрамірава евангелле" – кніга евангельскіх чытанняў па тыднях,

перапісаная ў 1056-1057 гг з балгарскага арыгінала дыяканам Грыгорыям для наўгародскага ваяводы і пасадніка Астраміра. Аднак новыя знаходкі могуць адсунуць дату з'яўлення першай кнігі на больш ранні час. У апошнія гады быў адкрыты «Трыпціх», датаваны 1026-1031 гг., але яго вывучэнне працягваецца.

Пакуль што дакладна высветлена паходжанне з беларускіх земляў трох найбольш старажытных рукапісных кніг – Тураўскага, Дабрылава ці Сіманава, Полацкага і Аршанскага евангелляў.

Ад Тураўскага евангелля захавалася толькі 10 аркушаў. Паводле палеаграфічных доследаў, гэты помнік пісьменства створаны ў XI ст. Самую старажытную кнігу беларусаў адкрыў для даследчыкаў М.Сакалоў, які ў 1865 г. прывёз яе з Турава ў Віленскую публічную бібліятэку. Рукапіс быў знойдзены выпадкова ў скрыні з-пад вугалю. Тураўскае евангелле напісана на пергаміне, уставам, старажытнарускай рэдакцыяй старажытнаславянскай мовы. Кніга аздоблена ініцыяламі, якія выкананы на зялёным фоне і размаляваны чырвонай і сіняй фарбамі. На палях – маргіналіі ў выглядзе гронкі. У Евангеллі ёсць запісы, якія з'явіліся ў пазднейшыя часы. Яны сведчыць аб падарунках царкве Ператварэння ў Тураве, зробленых князямі Астрожскімі. Сёння Евангелле знаходзіца ў бібліятэцы Акадэміі Навук Літвы.

Полацкае Евангелле было створана ў канцы XII ст., і належала Троіцкаму манастыру ў Полацку. У XIX ст. рукапіс трапіў у Маскву, а затым частка яго – у Пецярбург. Сёння два аркушы рукапісу знаходзяцца ў Аддзеле рукапісаў Дзяржаўнай бібліятэкі ў Маскве, а асноўная частка рукапісу – у Дзяржаўнай публічнай бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына ў Пецярбургу. Полацкае евангелле напісана уставам, верагодна, двума пісцамі. Матэрыял рукапісу – пергамін. На ім засталіся разметкі лінеек пісалам і зацыраваныя дзірачкі, якія ўтварыліся пры вырабе пергаміну. Упрыгожанні рукапісу вельмі сціплыя. Для размалёўкі заставак была выкарыстана срэбрная фарба, якая, на жаль, дрэнна захавалая. Мастак-перапісчык выкарыстоўваў таксама кінавар для напісання загалоўкаў і ініцыялаў.

Аршанскае евангелле, створанае ў канцы XII-пачатку XIII стст., было знойдзена ў 1812 г. сярод рэчаў, якія адыходзячыя французскія войскі выкінулі з аршанскіх храмаў і манастыроў. Евангелле напісана на пергаміне, прыгожым уставам, тэкст ілюмінуюць больш як 300 па-мастацку зробленых ініцыялаў, застаўкі і мініяцюры. Аршанскае евангелле дайшло да нас часткова – ацалелі 142 аркушы, якія сёння зберагаюцца ў Цэнтаральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук Украіны.

Далейшыя даследаванні рукапісаў, якія захоўваюцца ў сусветных кнігасховішчах, могуць павялічыць колькасць старажытных кніг, якія паходзяць з беларускіх земляў.

Апрача кніг да нас дайшлі шматлікія графіцці – надпісы на сценах старажытных сабораў у Полацку. Да найдаўнейшых надпісаў, якія паходзяць з беларускіх земляў, належыць далучыць і надпіс на крыжы, зробленым Лазарам Богшай па заказу Еўфрасінні Полацкай.

***Матэрыялы і прылады пісьма*** У якасці матэрыялаў для пісьма на раннім этапе развіцця пісьменства на ўсходнеславянскіх землях выкарыстоўвалі пергамін, бяросту, дошчачкі, пакрытыя воскам.

Пергамін, у адрозненні ад бяросты і дошчачак, з’яўляўся матэрыялам для тэкстаў, якія павінны былі служыць доўга. Сыравінай для вырабу пергаміна служыла скура. У якасці матэрыялу для пісьма пергамін пачаў ужывацца народамі Пярэдняй Азіі ў часы антычнасці. У II ст. да н.э. ў Пергамскім царстве тэхналогія вырабу скуры для пісьма была палепшана. Менавіта ад назвы горада Пергама – сталіцы царства, і паходзіць слова пергамін.

Тэхналогія вырабу пергаміну была досыць складанай. Для яго вытворчасці на поўначы ўжываліся скуры буйной рагатай жывёлы (руская назва «телятина» паказвае паходжанне матэрыялу), а на поўдні часцей выкарыстоўвалі казліныя, авечыя скуры. Найлепшай лічылася скура ненароджаных авечак і казлянят (т.зв. «дзявочая скура»). Скуру апрацоўвалі вапнай, спецыяльнымі скрабкамі здымалі тлушч і поўсць, сушылі ў расцягнутым выглядзе на рамах. Затым будучы пергамін выгладжвалі пемзай і адбельвалі крэйдай. Крэйда адцягвала са скуры рэшткі тлушчу. У пергаміне адрознівалі т.зв. «валасяны» і «мясны» бакі. Другі з іх быў найлепшым для пісання, таму менавіта ён выкарыстоўваўся для напісання грамат і іншых дакументаў. Калі меркавалася, што тэкст зойме толькі адзін бок пергаміннага аркуша, «валасяны» бок не даводзіўся да поўнай гладкасці. Пры вырабе кнігі выкарыстоўваліся абодва бакі пергаміннага аркуша. Як правіла, «валасяны» бок у сярэднявечных рукапісах дастаткова лёгка адрозніць ад «мяснога», што часам дазваляе датаваць помнік. Добра выраблены пергамін быў белага колеру, але часам выкарыстоўваўся і больш танны жоўты пергамін. Пры добрым захоўванні старанна выраблены пергамін быў вельмі трывалым матэрыялам. Яго трэба было берагчы ад вільгаці і перасушвання, у выпадку парушэння воднага балансу скура карабацілася і кніга псавалася. Не шкадаваў пергамінныя рукапісы і агонь.

Пергамін быў выдатным матэрыялам для пісьма – чарнілы і фарбы добра ўсмоктываліся ў скуру, гладкасць аркуша дазваляла лёгка хадзіць па ім пяру і пэндзлю, выпісваючы самыя маленькія літары і выявы. Недахопам гэтага матэрыялу былі працаёмкасць працэсу яго вырабу, а таксама вялікі кошт. У сярэднявеччы, калі жывёлагадоўля не дасягнула высокага развіцця, сыравіны для вырабу пергаміна ўвесь час не хапала. Паколькі папірус, які з’яўляўся танным, у той час быў у Еўропе недасяжны, пісьменная культура развівалася тут ва ўмовах устойлівага дэфіцыту матэрыялу для пісання. Гэтым, дарэчы, тлумачыцца выкарыстанне такіх дастаткова нязручных і нетрывалых рэчываў, як бяроста, воск і г.д. Для вырабу пергаміна ўжываліся скуры рознага памеру і якасці. Калі гэта была скура дарослай жывёлы, на месцы пашкоджанняў, якія яна атрымала пры жыцці – парэзаў, укусаў і г.д., пры вырабе пергаміну на ім утвараліся дзіркі. Гэтыя дзіркі зашываліся, ці зацыроўваліся, часам жа пергамін пакідаўся без направы. Таму даследчыкі сустракаюцца з так званымі «дзіравымі» рукапісамі.

Недахоп пергаміну выклікаў узнікненне такой з’явы, як палімпсесты. Палімпсест ( ад грэч. palimpsēston (biblion) нанова сцёртая, саскрэбаная (кніга) — рукапіс на матэрыяле для пісьма, на якім быў сцёрты ці змыты першапачатковы тэкст. Паўторна выкарыстоўваць для пісьма пачалі яшчэ папірус, змываючы з яго папярэдне напісаны тэкст. Гэтая ж практыка была ўжыта і да пергаміну, калі ён заняў у Еўропе месца паірусу. Палімпсесты сутракаюцца не вельмі часта. Сёння вядома каля паўтары сотні найбольш старых пергамінных рукапісаў, якія з’яўляюцца палімпсестамі. Ніжэйшы тэкст іх не маладзей VIII ст. У мінулым лічылася, што палімпсесты з’явіліся з-за імкнення хрысціянскай царквы знішчыць творы антычных аўтараў-паганцаў. Але сярод ніжніх тэкстаў палімпсестаў дастаткова часта сустракаюца і хрысціянскія рукапісы.

Палімпсесты знайшлі найбольшае распаўсюджанне ў Заходняй Еўропе. У большасці яны паходзяць з буйных скрыпторыяў, дзе мелася адносна вялікая колькасць старых рукапісаў. Часцей за ўсё для палімпсестаў браліся пашкоджаныя кнігі, літургічныя запісы, а таксама тэксты, напісаныя нелацінскім алфавітам. Ва Усходняй Еўропе палімпсесты ўжываліся вельмі рэдка. Гэта было звязана з невялікай колькасцю старых рукапісаў, якія можна было ўжыць нанова, а таксама малым попытам на пергамінныя рукапісы ў сувязі з адносна позднім распаўсюджаннем пісьменства. Сёння вядомы 23 славянскія палімпсесты, з іх усходнеславянскіх толькі тры

Пры стварэнні палімпсесту цалкам знішчыць папярэдні тэкст немагчыма. Разуры (месцы саскрабання) лёгка заўважыць. Палімпсесты цікавыя для даследчыкаў менавіта тым, што часам утрымліваюць тэксты, невядомыя, або вядомыя ў недакладных спісках. Так, да прыкладу, на адным з палімпсестаў быў адкрыты дакладны тэкст твора Цыцэрона «Аб рэспубліцы».



**Апрацоўка скуры. Гравюра XVI ст.**



**Лацінскі палімпсест з тэкстам Цыцэрона “Аб рэспубліцы”**

Ніжні тэкст палімпсесту можа быць прачытаны з дапамогай рознай тэхнікі. У мінулым дзеля гэтага ўжываліся хімічныя рэактывы. Але такім чынам апрацаваны пергамін хутка цямнеў і станавіўся нечытальным. Сёння для выяўлення ніжнягя тэксту палімпсесту ўжываецца люмінісэнтнае асвятленне і іншыя метады. Даследчык павінен памятаць, што часам тэхніка палімпсеста можа выкарыстоўвацца для падробкі рукапісу, як гэта было, да прыкладу, з Краледворскім рукапісам, падробленым у пачатку XIX ст. некалькімі чэшскімі знаўцамі старажытнасцяў.

Арыгінальным матэрыялам для пісьма была бяроста. Бяроста да XV ст. ўжывалася славянскімі народамі ў якасці матэрыяла для гаспадарчых запісаў, якія не патрабавалі доўгага захавання. Сёння знойдзены сотні берасцяных грамат, вывучэннем якіх займаецца берасталогія. Першыя граматы трапіліся даследчыкам пры раскопках у Ноўгарадзе, затым такія знаходкі былі зроблены ў Смаленску, Пскове, Віцебску, Старай Русе, Мсціслаўлі, Вільні і іншых гарадах.



**Ноўгарадская берасцяная грамата XIV- XV ст.**

Вынаходніцтва пергаміну, як матэрыялу для пісьма, патрабавала адпаведнай прылады і рэчываў для пісання. Найбольш зручным аказалася спецыяльна апрацаванае птушынае пяро. Карыстацца ім для пісьма пачалі яшчэ да вынаходніцтва пергаміну, але толькі з ягоным з'яўленнем птушынае пяро стала асноўнай прыладай пісьма. Яно было настолькі зручным, універсальным і танным, што пратрымалася ў шырокім ўжытку да сярэдзіны XIX ст. Птушынае пяро эластычнае, яно не рве пергамін і паперу. Сыравіна для вытворчасці гэтай прылады пісьма лёгкадасяжная, а сама прылада не патрабуе складанай апрацоўкі.

Для пісання амаль заўсёды ўжываліся гусіныя пер'і, вельмі рэдка – лебядзіныя і пер'і іншых птушак. Найлепшымі лічыліся махавыя пер'і з левага крыла, але не ўсе, а другое, трэццяе і чацьвёртае. Яны былі зручнымі для пісання правай рукой, бо адпаведным чынам выгіналіся, апрача таго, іх памеры былі аптымальнымі для набору і ўтрымання чарнілаў. Пяро вызвалялі ад тлушчу, утыкаючы яго ў гарачы попел ці пясок. Затым з дапамогай сцызорыка яго вастрылі. Спачатку з бакоў пяра рабілі надрэзы і пакідалі латак, па якім сцякалі чарнілы. Прыёмы заточкі пяра былі вельмі разнастайнымі, бо ад гэтага залежала лёгкасць перадачы асаблівасцяў графікі пісьма. Пяро магло быць зрэзана проста, наўскос пад розным вуглом. Такім пяром можна было праводзіць вельмі тонкія «валасяныя» лініі, а таксама шырокія, робячы націск. Звычайна пасярэдзіне ці збоку вастрыя пяра рабіўся надрэз – расчэп, каб пяро больш набірала чарнілаў.

Не гледзячы на многія выдатныя якасці, птушынае пяро мела і свае недахопы. Яно не ўтрымлівала вялікую колькасць чарнілаў, хутка тупілася, ламалася. Пісары ўвялі ў практыку некалькі разоў вастрыць пяро, каб даўжэй яго ўжываць. Асобныя рухі такім пяром было дастаткова цяжка выконваць – зверху налева наніз  і знізу ўправа наверх. Таму пры пісанні літар з дапамогай птушынага пяра вельмі важнай была дакладная тэхніка пісання, паслядоўнасць і накірунак руху пяра (дукт).

Птушынае пяро не пакідае на пергаміне і паперы барознак, не драпае матэрыял, як гэта бывае пры пісанні металічнымі пер’ямі.

Для пісання на бяросце і васкавых дошчачках ужываліся спецыяльныя пісалы – металічныя завостраныя шпількі. Такіх шпілек знойдзена шмат на беларускіх землях, што паказвае распаўсюджанасць пісання на воску для штодзённых патрэб.

Для стварэння рукапісаў выкарыстоўваліся чарнілы і рознакаляровыя фарбы. Рэчывы, якія служылі сыравінай для вырабу чарнілаў, былі надзвычай разнастайныя. Найбольш старажытныя густа-чорныя чарнілы, як і ў часы антычнасці, выраблялiся з сажы, камедзі (прыроднай смалы) і вады. Да нашых дзён дайшлі рэцэпты чарнілаў, у якія ўваходзілі розныя інгрыдыенты –– жалезны купарвас, танін, лісцё бярозы, жэлаціна, кара розных дрэваў, іржавыя цвікі, мёд, чарнільныя арэшкі і інш. Найчасцей ужываліся дубільныя рэчывы, перш за ўсё, чарнільныя арэшкі, а таксама камедзь. Такія чарнілы маюць бурае аддценне і часам выдаюцца зусім светлымі, выцвілымі. Але яшчэ са старажытных часоў існавалі спосабы, як «ажывіць» надпісы, зробленыя такімі чарніламі.

Фарбамі пісаліся ініцыялы, застаўкі, загалоўкі, маляваліся мініяцюры. Большасць з фарбаў сваёй асновай мелі мінеральныя рэчывы, а таксама разнастайныя раслінныя дадаткі. Найбольш ужывальнымі былі фарбы чырвоных аддценняў – кінавар і вохра. Першая з іх мела ружова-чырвоны колер, другая – жоўты ці светла-чырвоны, аранжавы. Кінавар і вохра ўжываліся для напісання першых літар у радку. У летапісах чырвоная літара пазначала новы год (адсюль – «чырвоны радок»). Пры выданні старажытных рукапісаў сёння прынята пазначаць напісаныя чырвонай фарбай літары спецыяльным шрыфтам.

Чорная фарба ствaралася змешваннем сажы і смолаў; выкарыстоўвалі таксама белыя бялілы, сінюю лазур і г.д. Для ўпрыгожвання найбольш каштоўных і ўрачыстых рукапісаў мастакі-перапісчыкі ўжывалі залатую і срэбрную фарбы – перацертае ў парашок золата і срэбра, да якіх дадавалася камедзь. У сярэднявеччы часам залацілі ці пакрывалі пурпурам увесь пергамінны аркуш – для вырабу шыкоўных дакументаў і кніг.

Вышэй названыя матэрыялы для пісьма, а таксама асаблівасці напісання тэкстаў, якія ўзнікаюць дзякуючы выкарыстанню акрэсленых прылад пісьма, з’яўляюцца палеаграфічнымі прыкметамі і даюць магчымасць датаваць рукапіс, вызначыць яе сапраўднасць, а часам і месца яе стварэння.

***Графіка пісьма*** На працягу стагоддзяў кірылічнае пісьмо ва ўсходніх славянаў змяняла сваю графіку. Першым тыпам пісьма быў ўстаў.

Гэты тып пісьма ўжываўся ў грэчаскім пісьме ў Візантыі ў час, калі стваралася кірыліца. Ва ўсходнеславянскія землі ён быў прыўнесены ўжо тады, калі паступова страчваў дамінуючую ролю ў пісьме, сатступаючы месца паўуставу. У XIII ст. працэс замены ўстава паўуставам стаў відавочным на ўсходнеславянскіх землях, але ўстаў яшчэ доўга ўжываўся ў якасці параднага пісьма, асабліва для рукапісаў сакральнага прызначэння.

Для ўстава характэрны наступныя асаблівасці. Літары пісаліся строга геаметрычна, часткі літар не выходзілі за радок, усе перпендыкулярныя рысы пісаліся строга перпендыкулярна радку, а гарызантальныя – парлельна. Словы ў радку не былі падзелены прабеламі, што тлумачылася як традыцыямі грэчаскага пісьма, запазычанымі кірыліцай, так і асаблівасцямі старажытнаславянскай мовы, якой былі ўласцівыя спеўныя інтанацыі, адсутнасць рэзкага вылучэння асобных словаў пры пабудове сказу. Такое злітнае напісанне значна ўскладняе чытанне і патрабуе добрага ведання старажытнаславянскай і старажытнарускай моваў.

У графіцы літар устаўнога пісьма ёсць адрозненні, якія з’яўляюцца добрымі палеаграфічнымі прыкметамі і дазваляюць з пэўным працэнтам даставернасці датаваць тэкст. Так, літара «іжа» пісалася накштал сёняшняга «Н» з гарызантальнай рысай паміж дзьвюма вертыкальнымі. У літары «дабро» першпачаткова ніжнія канцы стаялі на радку і толькі ў XII ст. яны паступова пачалі падаўжацца ўніз за радок. Літара «жывеце» мела ніжнюю і верхнюю часткі аднолькавага памеру, хаця ўжо ў XII ст. верхняя частка паступова пачынае памяншацца. Над літарай «і дзесятарычнае» ў XI-XII стст. звычайна ставіліся дзьве кропачкі, у XIII ст. замест кропачак пісалася накрыўка з загнутымі ўніз канцамі ( Ī ). Літара «наш» пісалася накшталт лацінскай «N». У XIII ст. побач з такім напісаннем можна сустрэць і звыклы для нас выгляд літары. Добрай палеаграфічнай прыкметай, па рэкамендацыі Ул. Шчэпкіна, могуць быць літары «чэрв», «от», «пс»”. «Чэрв» пісалася ў выглядзе чашы на ножцы ( Y ), «от» мела высокую сярэдзіну ў XI ст.( ѡ ), а ў XII стала больш шырокай з разведзенымі ў бакі дужкамі ( ω ). Літара «псі» спачатку пісалася часцей у выглядзе крыжа ( † ), а ў XII ст. набывае падабенства да ліліі ці трызуба ( ψ ). Адной з шэрагу палеаграфічных прыкмет устаўнога пісьма з'яўляецца частае выкарыстанне «вялікіх юсаў», хаця ў наступных тыпах пісьма яны таксама могуць сустракацца.

А.Груша вылучае ва ўстаўным пісьме дзьве ягоныя разнавіднасці – ранні ўстаў і пераходны ўстаў.. Па назіраннях беларускага даследчыка, устаў заставаўся актуальным на замлях ВКЛ яшчэ ў XIV ст. Адначасова існавалі некалькі разнавіднасцяў устава – каліграфічны і беглы, якія пры захаванні большасці характэрных рысаў гэтага віда пісьма адрозніваліся ахайнасцю напісання, памерамі літар (каліграфічны ўстаў, як правіла, меў вялікія па памерах літары).



**Узор устаўнога пісьма**

Асабліва моцныя змены ў графіцы літар пачынаюць утварацца ў XIII ст. Гэта было абумоўлена некалькімі прычынамі. Найперш, адбывалася паскарэнне пісьма, што было звязана з пашырэннем справаводства. На беларускіх землях гэтая прычына з’яўлялася прыярытэтнай. На землях паўднёвай і паўночна-усходняй Русі да яе дадаліся і наступствы татара-манголскага нашэсця. Тут былі знішчаны буйныя цэнтры пісьменства, забіты, ці забраны ў Арду майстры-перапісчыкі і аздабляльнікі рукапісаў. Замена павольнага ўстава (напісанне аднаго радка з выкарыстаннем гэтага тыпу пісьма займала не меньш пяць мінут) больш хуткім паўуставам адпавядала падобнаму працэсу ў лацінскім пісьме. Там у гэты ж час адбываўся пераход ад каралінгскага мінускула да гатычнага пісьма – тыпу пісьма, які дазваляў павялічыць тэмп напісання рукапісаў, быў эканомным, паколькі літары ў ім выцягваліся, а наяўнасць ламаных і валасяных рысак дазваляла рабіць пісьмо больш шчыльным.

Па сутнасці, у XIII ст. адбываеца паступовае адсоўванне ўства з пануючых пазіцый паўуставам. Спачатку гэта быў так званы позднi ўстаў, у якім побач з прыкметамі ранняга перыяда назіраюцца новыя рысы: асіметрыя літары «жывеце», напісанне літары «іжа» ў звыклым для нас выглядзе, выхад мачты літары «яць» і ножак літары «дабро» за радок і іншыя. Працэс выціскання аднаго тыпа кірылічнага пісьма другім расцягнуўся на дзесяцігоддзі.

У гэты час ва ўжытку было дастаткова мала надрадковых знкаў, знакаў прыпынку. Іх ужыванне не было ўнармаваным. Надрадковыя знакі – паерык, тытла і іншыя ставіліся ў адпаведнасці з правіламі кірыліцы, але побач з імі ў тэкст пераносіліся знакі, якія ўжываліся ў грэчаскіх тэкстах для пазначэння прыдыханняў і іншых асаблівасцяў мовы. Гэтыя знакі былі непатрэбныя для перадачы старажытнарускай мовы і пераносіліся бессістэмна. У якасці знакаў прыпынку ўжывалася кропка, чатыры кропкі, крыж. Яны ставіліся ў канцы сказа, канцы абзаца і тэксту. Шэраг знакаў, а таксама «ер» ужываліся і ў ролі сігнальных – паказвалі завяршэнне слова ці радка.

Асобныя ўласцівасці мела ў гэты час графіка кірылічнага пісьма на бяросце. Характар надпісаў на гэтым матэрыяле абумоўліваўся як меньшай пластычнасцю бяросты, так і тым, што на ёй часцей рабіліся запісы, якія не патрабавалі доўгага захавання. Адсюль адсутнасць дакладных радкоў,

няроўнасць літар, часам пішацца толькі частка літары, ці яе напісанне значна спрошчана.

***Фармат і аздабленне пісьмовых помнікаў*** Мастацтва аздаблення рукапісаў на землі ўсходніх славянаў прыйшло разам з пісьменнасцю. Упрыгожаныя рукапісы апрача таго, што звычайна маюць вялікую мастацкую вартасць, даюць магчымасць датаваць тэкст, вызначаць месца іх стварэння. Упрыгожванні такім чынам могуць выконваць ролю палеаграфічнай прыкметы. Іх знешні выгляд, тэхніка стварэння, кампазіцыя, сюжэты, матэрыялы, якія ўжываў майстар, адпавядаюць акрэсленаму перыяду ў развіцці жывапісу. Таму пры палеаграфічным аналізе ўпрыгожанай малюнкамі і арнаментамі кнігі ці граматы палеограф абавязан прыцягваць веды па мастацтвазнаўству.

Элементы ўпрыгожвання рукапісу былі шматлікімі і разнастайнымі. Яны выконвалі не толькі аздабляльную функцыю, але таксама павінны былі зрабіць успрыняццн рукапіснай старонкі больш лёгкім, перапыняючы манатоннасць і аднастайнасць чорных радкоў каляровымі ўстаўкамі. Яшчэ ў часы антычнасці выкарыстоўвалася падкрэсліванне і закрэсліванне асобных літар, часцей за ўсё, першых у радку, ці пачынаючых імёны ўласныя, чырвонай фарбай. З развіццём кнігапісання ў практыку аздаблення рукапісаў уваходзяць маляўнічыя ініцыялы, застаўкі, канцоўкі, маргіналії, а таксама мініяцюры. Упрыгожаныя мініяцюрамі і ініцыяламі рукапісы называліся ілюмінаванымі, а майстры, якія займаліся аздабленнем – ілюмінатарамі.

Для старажытных усходнеславянскіх рукапісаў характэрны так званы старавізантыйскі стыль аздаблення. У гэтым стылі ўпрыгожаны Тураўскае і Астрамірава Евангеллі, Ізборнік Святаслава і шэраг іншых рукапісаў. Старавізантыйскаму стылю, апрача іншых, уласцівы дзьве характэрныя асаблівасці: спалучэнне геаметрычных дэталяў (простакутнікі, ромбы, кругі) і рэалістычных выяваў звяроў, птушак, кветак. Зробленая ў старавізантыйскім стылі застаўка (упрыгожванне над тэкстам, якое малявалі напачатку кнігі ці яе раздзелаў), як правіла, мела выгляд простакутніка, ці іншай геаметрычнай фігуры, у якую былі ўпісаныя кругі, ромбы, упрыгожаныя кветкамі. Вакол застаўкі майстар размяшчаў звяроў, часцей за ўсё ільвоў, а таксама птушак, любімымі былі паўліны. У якасці выявы кветкі ўжываўся стылізаваны малюнак ліліі – чатырохпялёсткавая кветка «крын». Унутры застаўкі ў крузе ці простакутніку змяшчалася назва кнігі ці яе часткі. Меньш пышна аздабляліся канцоўкі, часам замест іх ужываўся калафон – размяшчэнне тэксту ў выглядзе варонкі шляхам скарачэння літар у радках. Ініцыялы – вялікія літары, якія пачыналі абзац – таксама аздабляліся вельмі пышна, яны ўпрыгожваліся раслінным і геаметрычным арнаментам, які, аднак, не закрываў саму літару. Такім чынам аздоблены ініцыялы ў Тураўскім Евангеллі. Яшчэ адным спецыфічным упрыгожваннем былі палявыя кветкі ці маргіналіі (палявыя запісы ці ўпрыгожванні), якія часцей выконваліся ў выглядзе кветкі ці вінаграднай гронкі, але часам уяўлялі самстойныя кампазіцыі.






**Старонка Тураўскага евангелля з ініцыялам.**

**Маргіналіі ў Ізборніку Святаслава**

Асобнае месца ў мастацкім уборы рукапісу займалі мініяцюры. Яны разглядаюцца як асобны жанр жывапісу. Сюжэты мініяцюр, тэхніка пісьма і кампазіцыі мініяцюр нагадваюць тагачасны іконапіс і фрэскавы роспіс. Мастакі выкарыстоўвалі адваротную перспектыву, выяўленчую нагрузку ў мініяцюрах нясе лінія, а не фарба.  Само слова «мініяцюра», якое прыйшло ў нашую мову з Італіі, азначала пісьмо, або рукапіс, у якім контуры літараў размаляваны чырвонай фарбай ( ад *minium* – чырвоная фарба). Пазней, калі развіўся манументальны жывапіс, не толькі кніжныя, а ўсе малюнкі невялікіх памераў пазначаліся гэтай назвай. Фарбы, якія выкарыстоўваліся для стварэння мініяцюр у XI-XIII стст., былі плотнымі, непразрыстымі. Такі малюнак на пергаміне нагадвае эмаль. У тагачасных усходнеславянскіх рукапісах колькасць мініяцюр нязначная, гэта, часцей, выявы евангелістаў, як, да прыкладу, у Астраміравым Евангеллі.

Мініяцюры, застаўкі, ініцыялы, канцоўкі, маргіналіі, размеркаванне тэкстаў на старонках, і іншыя дэталі ўпрыгожвання рукапісу ў розныя перыяды мелі свае асаблівасці. Для майстра-стваральніка кнігі яна ўяўляла своеасаблівы сусвет, падобны храму, дзе ўсё павінна быць дастасаваным, пргожым, мець акрэслены сэнс, не толькі адпавядаць патрабаванням хрысціянскіх канонаў, але таксама мець эстэтычную вартасць, падпарадкоўвацца сваеасаблівай архітэктоніцы, эстэтычнаму ладу.

Форма рукапісных помнікаў, прынцып іх вонкавага аздаблення таксама, як і мастацкія ўпрыгожванні рукапісаў, мела свае адметнасці. Для гэтага часу характэрна наяўнасць скруткаў і кодэксаў. Форма скрутка ўжывалася са старажытных часоў для рукапісаў на папірусе, а затым перайшла ва ўжытак і для дакументаў, напісаных на пергаміне. У сярэднявеччы форму скрутка надавалі дакументам, якія павінны былі доўга захоўвацца, яна была зручнай для аховы дакумента ад фальсіфікацыі, акрамя таго, напісаны такім чынам дакумент зручна было перавозіць. Як правіла, на скрутках пісалі тыя акты, якія не прызначаліся для частага выкарыстання. Пры напісанні тэксту на скрутку пісар імкнуўся як мага шчыльней размясціць тэкст, адваротны бок скрутку выкарыстоўваўся для заўвагаў. Часцей за ўсё агульная паверхня пергаміну, які адразу прызначаўся на скрутак, запоўнена тэкстам больш чым на палову. Для захавання скруткаў рабілі спецыяльныя футаралы, часта да іх прымацоўвалі пячаткі, зробленыя на разнастайных рэчывах і таксама змешчаныя ў футаралы.

Для вялікіх па памерах тэкстаў ужывалася форма кнігі або кодэксу. Форма кодэксу ўзнікла яшчэ ў антычныя часы і ўяўляла сабой збрашураваныя сшыткі, аб’ядналыя пераплётам. Лічыцца, што прататыпам кодэксу былі звязкі драўляных таблічак. Апісанне вонкавага выгляду рукапіснай кнігі вельмі дакладна падае ў сваёй кнізе «Палата кнігапісная» беларускі даследчык М.Нікалаеў. «Першае ўяўленне пра кнігу, таксама, як і першае ўражанне ад кнігі, дае яе пераплёт – тыя элементы канструкцыі, якія служаць для злучэння аркушаў (сшыткаў) і аховы іх ад забруджвання і пашкоджання. Гэта звычайна верхняя і ніжняя крышкі, фарзац, карашковы матэрыял (папера, каптал), ніцяное мацаванне. Першымі пераплёт атрымалі пергамінныя кнігі, якія мелі форму кодэкса (збрашураваных паміж сабой сшыткаў), абавязкова рабіліся зашпількі (завязкі), якія не давалі пергаміну карабаціцца. Тэхніка пераплёту старых кніг амаль да драбніц супадае з той, якая прымяняецца і цяпер пры ручным пераплёце: перапісаныя сшыткі («сэкстэрны» ) майстар падбірае ў блок, потым акуратна выроўнівае і, заціснуўшы ў прэс (струбцыну), робіць уздоўж іх тарцовага боку некалькі (2-6) надрэзаў. Праз надрэзы прапускае вяроўку – яна замацоўвае сшыткі паміж сабой і з крышкамі пераплёту.» Акрамя назвы «сэкстэрн» ужывалася назва «тэтрас», якая ў далейшым ператварылася ў расійскае «тетрадь». Гэтыя назвы паходзяць ад грэчаскіх і рымскіх назваў лічбаў і паказваюць, у колькі разоў быў перагнуты пергамін для сшытка. Першапачаткова замест вяровак для перапляцення ўжываліся скураныя папружкі, драўляныя дошкі таксама абцягваліся скурай. Часам дошкі замест скуры «навалакваліся» тканінай, аксамітам, другім разам гэтыя матэрыялы пакрывалі толькі карэньчык кнігі і частку верхняй і ніжняй дошак («у патыліцу»). Для лепшага захавання найбольш каштоўных кніг, часцей за ўсё БІбліі, на іх рабіліся металічныя абклады. Зашпількі (клаўзуры), зробленыя з металу, ці скураныя завязкі, былі неад’емнай часткай пераплёту. Пергамін вельмі адчувальны на вільгаць матэрыял, у дрэнна абагрэтых сярэднявечных кнігасховішчах ён мог хутка сапсавацца. На кнізе, якую ў XIV ст. ноўгарадскі архіепіскап Майсей

адпраўляў у Юр'еўскі манастыр, ён пакінуў характэрны для тых часоў надпіс: «А которыи поп или диакон, чет, а не застегаит всих застежек, буди проклят». У час раскопак на старажытных беларускіх гарадзішчах археолагамі знойдзены рэшткі абкладаў і металічныя зашпількі, якія вытрывалі там, дзе пажары і вільгаць знішчылі пергамін.

Часам замест абклада пераплёт рукапісу ўпрыгожвалі металічнымі бляшкамі – вугольнікамі, «жукавінамі», «сярэднікамі» – з гравіроўкай або з каштоўнымі або паўкаштоўнымі каменямі.

У кнігасховішчах кнігі стаялі абрэзам да гледача, а карэньчыкамі – да сценкі шафы. Часам на абрэзе пісалі назву кнігі. Каштоўнасць рукапісных кніг была вельмі высокай, таму ў некаторых кнігасховішчах найбольш каштоўныя кнігі прыкоўвалі ланцугамі да паліцы.

На пачатковым этапе развіцця айчыннага пісьменства былі выпрацаваны асноўныя прыёмы пісьма, склалася кнігапісная традыцыя, аформіліся асноўныя прынцыпы ўпрыгожвання рукапісаў. На жаль, колькасць пісьмовых помнікаў, якія вытрывалі ў шматлікіх войнах, спусташэннях, іншых катаклізмах, невялікая. Але можна спадзявацца, што росшукі дазволяць павялічыць колькасць вядомых нам усходнеславянскіх рукапісаў. Амаль штогод адкрываецца новы помнік, даследаванні ўжо вядомых прыносяць новыя адкрыцці і знаходкі.

# Знешнія прыкметы помнікаў пісьменства часоў Вялікага княства Літоўскага (XIV-XVI стст.)

У XIV-XV стст. паступова пачынаюць фармавацца асаблівасці пісьменства трох усходнеславянскіх народаў – беларусаў, украінцаў і рускіх, што было абумоўлена працэсам кансалідацыі гэтых этнасаў у народнасць. Падставай для развіцця пісьмовай культуры, удасканалення сістэмы пісьма, матэрыялаў і прылад, якімі карысталіся пры пісьме, былі развіццё гаспадарчай дзейнасці, ускладненне сацыяльных стасункаў, актывізацыя палітычных адносін. Узмацняюцца сувязі з народамі Еўропы, што прыводзіць да змен у аздабленні рукапісаў, пашырэння лексікі, большай разнастайнасці рэпертуара.

У паўночна-ўсходняй і паўднёвай Русі катастрафічныя наступствы для развіцця пісьменства пакінула татара-мангольскае нашэсце. Былі знішчаны буйныя цэнтры кнігапісання, носьбіты культуры пісьма. Беларусь не дазнала такіх разбурэнняў і спусташэнняў. Гэта спрыяла бесперапыннасці развіцця кнігапіснай традыцыі і культуры пісання. Але з-за крыжацкай пагрозы да пачатку XV ст. павольна развіваліся гарады, якія з'яўляліся асноўнымі цэнтрамі пісьмовай культуры. Для паўднёвых гарадоў беларускіх земляў – Турава, Берасця, Пінска замаруджваючым фактарам эканамічнага, сацыяльнага і культурнага развіцця была пагроза з боку мангола-татараў, што, у сваю чаргу, стрымлівала развіццё пісьменства.

Не гледзячы на неспрыяльныя ўмовы, у гэты час у пісьмовай традыцыі беларускіх земляў пазначыліся кардынальныя зрухі. Развіццё гаспадарчай дзейнасці, складванне і развіццё Вялікага княства Літоўскага і ўскладненне функцый дзяржавы, прыводзілі да росту аб'ёму справаводства. Гэта непазбежна выклікала патрэбу ў паскарэнні пісьма, вынаходніцтве танных і лёгкадасяжных матэрыялаў. На развіццё пісьменства на беларускіх землях апрача цесных сувязеў з Заходняй Еўропай, паўплывалі і паўднёва-славянскія пісьмовыя традыцыі. У канцы XV ст. на землі ВКЛ, ратуючыся ад туркаў, перасяляюцца паўднёваславянскія кніжнікі. Яны прыносяць шэраг асаблівасцяў кірылічнага пісьма, якія замацоўваюцца ў мясцовай пісьмовай традыцыі і становяцца адной з палеаграфічных прыкмет.

Насуперак напружаным знешне- і ўнутрыпалітычнаму становішчу, якое склалася беларускіх земляў, у гэты перыяд узнікаюць і развіваюцца новыя цэнтры пісьменства. Буйнейшымі з іх у гэты перыяд былі Вільня, Наваградак, Лаўрышаўскі манастыр і іншыя. Гэта быў час фармавання кнігазбораў пры манастырах і архіваў, у першую чаргу, Архіва ВКЛ (Літоўскай Метрыкі). Пашырэнне сувязей з Заходняй Еўропай прыводзіць да большай разнастайнасці літаратурных, тэалагічных твораў, якія трапляюць на беларускія землі з вандроўнымі манахамі і гандлярамі, а затым тут перапісваюцца. У гэты час пачынаецца распаўсюджанне лацінскай графікі і лацінскай кнігі, што было цесна звязана з пашырэннем каталіцтва.

У параўнанні з XI-XIII стст. у гэты час сярод рукапісаў павялічваецца доля актавых помнікаў – прывілеяў, даравальных грамат, дагавораў, што было абумоўлена развіццём сацыяльных стасункаў і ростам бюракратычнага апарата. Найважнейшай інстанцыяй ВКЛ, дзе вялося справаводства вялікага князя, рады, сейма, была Вялікакняская канцылярыя. Яна пачала складывацца ў канцы XIV ст. пры Вітаўце. Узначальваў Вялікакняскую канцылярыю канцлер (пячатар), у якога захоўвалася вялікакняская пячатка. Намеснік канцлера – падканцлер – быў захавальнікам малой дзяржаўнай пячаткі. Справаводствам у канцылярыі займаліся пісары, дзякі, перакладчыкі-драгаманы. Пасада пісара ў ВКЛ з'яўлялася ганаровай. Годнасць і жыццё пісараў абаранялася спецыяльнымі артыкуламі ў Статутах ВКЛ, злачынствы супраць іх жорстка караліся. З цягам часу пісары пачалі не толькі перапісваць дакументы, але бралі на сябе функцыі складальнікаў і рэдактараў. Пасаду пісара маглі займаць людзі нешляхецкага паходжання, якія вылучаліся адукаванасцю і розумам. Часта гэтая пасада станавілася першай прыступкай да палітычнай, дзяржаўнай кар'еры. З пісарскай пасады пачыналі сваю дзейнасць Эразм Цёлак, Міхал Гарабурда, Леў Сапега і інш.

Штат пісараў існаваў таксама пры Галоўным Літоўскім Трыбунале, замкавых і земскіх судах, пісары працавалі пры магістратах, пры старастах велікакняскіх земляў і ў іншых установах. Прозвішча пісараў і тэрмін іх знаходжання на пасадзе з'яўляюцца спецыяльным аб'ектам вывучэння гісторыкаў – для палеагарафічнага вывучэння рукапісаў гэтыя звесткі даюць магчымасць па почырку пісара і ягоным подпісы датаваць рукапіс, установіць яе аўтэнтычнасць і паходжанне.

У адпаведнасці з развіццём справаводства пачынае складвацца своеасаблівая мова дакументаў, правілы напісання актавых запісаў. Многае тут было перанята ў заходнееўрапейскіх правазнаўцаў і пісараў, якія самі звярталіся да антычных традыцый. Веданне канцылярскай мовы, форм і правіл напісання афіцыйных лістоў дае магчымасць палеографу дакладней і хутчэй чытаць старажытныя рукапісы, дазваляе часам акрэсліць іх паходжанне, дапамагае вызначыць дату іх напісання.

***Матэрыялы і прылады пісьма*** У XIV ст. асноўным матэрыялам пісьма яшчэ быў пергамін. Пергамін беларускіх рукапісаў гэтага перыяда добра выраблены, але ён не такі глянцава-белы і паўпразрысты, як тагачасны заходнееўрапейскі. У Заходняй Еўропе да XIII ст. бялізна і гладкасць пергаміна дасягаліся шляхам уцірання ў паверхню апрацаванай скуры яечнага бялка і свінцовых бялілаў, пазней практыкавалася паліроўка пемзай..Як правіла, пергамінныя аркушы былі даволі буйныя па памеру – у кнігах часцей за ўсё трапляюцца аркушы памерам 26 на 29, 5 см. Перавага такой кнігі ў тым, што яна не была вельмі тоўстай і ёй лягчэй было карыстацца пры чытанні. У гэты час даволі рэдка трапляюцца «дзіравыя» рукапісы – цяпер перад пачаткам пісання тэксту дзіркі старанна зацыроўвалі. Паралельна з пергамінам для гаспадарчых запісаў, як і раней, выкарыстоўвалі бяросту. Часам яна ўжывалася ў якасці матэрыяла для пісьма нават тады, калі

ўжо з'явілася папера – гэтаму спрыяла таннасць матэрыяла і яго дасяжнасць у тых мясцінах, куды папера трапляла рэдка.

Пачынаючы з XIV ст паступова на беларускія землі з Заходняй Еўропы прыходзіць папера. З'яўленне паперы зрабіла сапраўдную рэвалюцыю ў гісторыі пісьма. У параўнанні з пергамінам гэта быў танны, лёгкі для вырабу і пісьма матэрыял. Вынаходніцтва паперы і яе шырокае распаўсюджванне зрабіла магчымым пераход ад рукапісных кніг да друкаваных.

Вынаходніцтва паперы традыцыя звязвае з імем кітайца Цай Люна і датуе III ст. н.э. Першую паперу выраблялі з кары шаўковіцы і канапляных валакон. У VIII ст. тэхніку вырабу паперы ў кітайцаў пераняли арабы, якія ўдасканалілі яе выраб, уводзячы адбельванне і цыраванне раслінным клеем. Першая папера трапіла на ўсходнеславянскія землі з Італіі. А сярод еўрапейскіх краін першынства ў вытворчасці новага матэрыялу для пісьма належыць Гішпаніі, куды гэтае вынаходніцтва было прынесена арабамі.

Для новага матэрыяла ў ВКЛ ўжывалася назва «попер» або «паперь» – этымалогія слова, хутчэй за ўсё звязана з папірусам. На землях Маскоўскага княства замацавалася назва «бумага» - ад італьянскага «бамбагіа» (бавоўна).

Якасць паперы з'яўляецца адной з палеаграфічных прыкмет. Прынцыпы стварэння паперы засталіся нязменнымі яшчэ з часоў старажытных кітайцаў, змянялася толькі тэхналогія. Цэлюлозную масу, сыравінай для якой служылі лён, баваўна, пянька, пасля апрацоўкі на вадзяных млынах і адбельвання вылівалі на сіты, каторыя раўнамерна гойдаліся. Пасля сцёку вады атрымлівалася порыстая і вільготная папера. Яе перакладвалі войлакам, цыравалі, клалі пад прэс, а затым выглажвалі. Цыраванне паперы адбывалася з ужываннем розных рэчываў. Арабы выкарыстоўвалі крухмал, еўрапейцы – жэлацiну.

Сеткі, праз якія працэжвалі папяровую масу, пакідалі на ёй след: там, дзе быў прасвет паміж дротамі, папяровая варства клалася больш тонкім слоем – на прасвет можна было ўбачыць выразныя вертыкальныя (панцюзо) і гарызантальныя (вяржэр) лініі. У канцы XIII ст. у італьянскай паперні ў Фабрыяна быў вынайдзены прынцып стварэння на паперы фігурных вадзяных знакаў – філіграняў. Гэта дасягалася шляхам прымацавання да драцянога дна сіта спецыяльна зробленага малюнку з дроту. Папяровая маса, асядаючы на такім сіце, захоўвала не толькі звычайныя адбіткі гарызантальных і вертыкальных ліній дрота, але і гэтую выяву ў выглядзе малюнка, які можна ўбачыць на прасвет. Найбольш ранні вядомы вадзяны знак датуецца 1285 г. У хуткім часе практыка стварэння вадзяных знакаў распаўсюдзілася ў Заходняй Еўропе. Адной з першых і найбольш папулярных філіграняў – як яшчэ называюць вадзяныя знакі (ад назвы тэхнікі вырабаў з тонкага дроту) – была выява галавы быка з крыжом або кветкай паміж рагоў. Гэты вадзяны знак выкарыстоўваўся амаль ва ўсіх еўрапейскіх краінах. Мяркуюць, што выкарыстанне такой выявы было звязана з прыналежнасцю вытворцаў паперы да цэху перапісчыкаў кніг, патронам якіх быў св.Лука, сімвалам каторага з'яўляўся цёлак.

Філіграні з'яўляюцца добрай палеаграфічнай прыкметай. Кожны папяровы млын, а пазднней фабрыка мелі свой вадзяны знак. Акрамя таго, асобныя філіграні ўжывалі майстры, якія займаліся вырабам паперы, розныя філіграні выкарыстоўвалі для розных гатункаў паперы. Пры замене сіта новым змяняўся і выгляд філіграні. Нават падобныя паміж сабой філіграні, калі яны выкарыстоўваліся на розных варштатах, мелі адрозненні. Вадзяныя знакі мянялі і ў з сувязі з удасканаленнем тэхнікі – ставілі год вытворчасці, дадавалі ініцыялы новага ўладальніка і г.д. Колькасць вядомых філіграняў, на думку савецкага палеографа С.Клепікава, ад стагоддзя да стагоддзя павялічвалася ў геаметрычнай прагрэсіі.




**Філіграні на паперы: 1, 2, 3 – італьянскай; 4, 5 – французскай; 7 - Полацкага Евангелля 15 ст.; 6 - "Апостала" 1460 г.; 8 - "Псалтыра" Ф. Скарыны ; 9 – рукапіснага зборніка 1570 г. з тэкстам В.Цяпінскага.**

Філіграні таксама даюць інфармацыю для іншых гістарычных дысцыплін – геральдыкі (гербы ўжываліся ў якасці вадзяного знака), гісторыі эканомікі і інш. Таму менавіта ў першай палове XIX ст. пачала фармавацца дапаможная дысцыпліна – філіграналогія, якая займаецца вывучэннем філіграняў. Пачалі ствараецца спецыяльныя альбомы філіграняў, якія даюць магчымасць даследчыку вызначыць час і месца вытворчасці паперы, а значыць – акрэсліць прыблізную дату стварэння дакумента. Для беларускіх і літоўскіх палеографаў адметнае значэнне мае работа літоўскага даследчыка Э.Лаўцявічуса «Popierius Letuvoje XV-XVIII a.», якая выдадзена ў Вільнюсе ў 1967 г. У ёй змешчаны выявы філіграняў, якія ўжываліся на беларускіх землях ў часы ВКЛ і Рэчы Паспалітай. Пэўную вартасць таксама яшчэ не

страцілі працы Францішка Пекасіньскага, зробленыя на падставе аналізу дакументаў з польскіх бібліятэк і архіваў і прысвечаныя заходнееўрапейскай паперы. ( Piekosiński F. Średnioweczne znaki wodne, zebrane z rękopisów w archiwach i bibliotekach polskich głównie krakowskich z XIV w, - Kraków, 1893; Wybór znaków wodnych średniowiecznych – Kraków, 1896). Для даследчыка беларускіх крыніц будуць карыснымі і работы ўкраінскіх палеографаў, у тым ліку, кніга І.Каманіна і О.Вітвіцкай (І.Каманін і О.Вітвіцка Водяні знаки на папери украінских документів XVI-XVII в. (1566-1651) – Київ, 1923). Пры даціроўцы і акрэсленні паходжання заходнееўрапейскай паперы можна выкарыстаць альбом Шарля Брыке (C.Briquet Les filigranes. Dictionaire historiqe des marques du papier dès leur apparation vers 1282 jusqu'en 1600. 4 v. Gènève, 1907), які ўтрымлівае 16112 выяваў філіграняў, датаваных 1285-1600 гадамі і дагэтуль не страціў навуковай значнасці.

Для акрэслення часу напісання дакумента з дапамогай філіграні, трэба ўлічваць каэфіцыент залежнасці паперы. У XIV-XV стст. папера, перш чым на ёй з'явіцца запіс, магла захоўвацца ў заходнееўрапейскіх краінах 10-15 год, а на абшарах усходнеславянскіх краін — дзесяцігоддзямі.

Тэхніка вытворчасці паперы давала магчымасць увесці стандартызацыю рукапісаў, а таксама выкарыстоўваць разнастайныя фарматы. З XIII ст. у еўрапейскай практыцы склаліся два параўнальна аднастайныя фарматы паперы: амаль роўны сучаснаму пісчаму аркушу і ў два разы большы. Гэтыя фарматы звычайна адзначаюць значкамі адпаведна 2° і 1°.

Першапачаткова на беларускіх землях ужывалася замежная папера – пераважна італьянская, галандская, нямецкая.

Як і ў папярэдні перыяд галоўнай прыладай для пісьма заставаліся птушыныя пер'і. Па-ранейшаму захоўваюцца асноўныя прынцыпы вырабу чарнілаў і фарбаў, якія выкарыстоўвалі для напісання і аздаблення рукапісаў. Яны рабіліся часцей на падставе камедзі, дубільных арэшкаў і мінеральных рэчываў. Для напісання загалоўкаў побач з кінаварай ужываецца сурык, Кінавар рабілася на падставе іртуці, простым перапальваннем алавяных бялілаў. Кінавар мела малінавае адценне, сурык – ружовае. Загалоўкі, напісаныя сурыкам, даволі добра пазнаюцца, адрозніваючыся ад цёмных кінаварных надпісаў. Яны могуць служыць у якасці палеаграфічнай прыкметы.

***Графіка пісьма*** Ужо ў канцы XIII ст. змены, якія на працягу доўгага часу назапашваліся ў прыёмах напісання літар і графіцы пісьма, прывялі да пераходу ад устава да позняга ўстава, які ў XIV ст. ператварыўся ў паўустаў. Аднак і ў гэты час устаў яшчэ не выйшаў цалкам з ужытку, яго выкарыстоўвалі для ўрачыстых выпадкаў, часцей за ўсё, для рукапісаў рэлігійнага зместу. Позні ўстаў характарызуецца меньшай геаметрычнасцю літар, яны становяцца больш выцягнутымі, гарызантальныя лініі ў літарах «іжа», «ю», «е ётаванае» становяцца больш касымі. Літары, у якіх раней верхняя і ніжняя часткі былі сіметрычнымі – «жывеце», «како», «ведзі» – губляюць гэтую сіметрычнасць, верхняя іх частка цяпер меньш за ніжнюю.

Літара «чэрв» становіцца падобнай на варонку ( V ), а ў літарах «яць», «ер», «ерь» мачта выходзіць паверх радка.

Згодна з меркаваннем шэрагу даследчыкаў, ужо ў познім уставе пачалі акрэсліваецца асаблівасці старабеларускай графікі пісьма. У помніках, напісаных на беларускіх землях у XIII ст. з выкарыстаннем устава, звяртае на сябе ўвагу нпісанне літары «есць». Захоўваючы ў агульных рысах старую форму, гэтая літара пішацца больш шырока ў пачатку слова і пасля галосных, а больш вузка – у сярэдзіне. У літары «іжа» гарызантальная рыса пішацца пасярэдзіне ў пачатку XIII ст., а ў помніках канца XIII ст. – падымаецца вышэй за сярэдзіну. Характэрнай прыкметай з’яўляецца літара «мысліце» – яна звычайна вельмі шырокая, часам сярэдняя частка апускаецца ніжэй радка. Адрозненні назіраюцца і ў напісанні іншых літар.

У XIV –пачатку XV ст. устаўное пісьмо на беларускіх землях набывае новыя адрозненні ў напісанні літар. Так, літара «еры» набывае злучальную рыску паміж дзьвюмя часткамі; літара «есць» пачынае нахіляцца ўлева, а гарызантальная рыска пасярэдзіне літары пішацца вышэй за сярэдзіну. Часам асобныя літары падымаюцца за радок – «цверда», «ер», над літарамі «і дзесятарычнае», «от», «наш» часам ставіцца дзьве кропачкі.

Ранні паўустаў характарызаваўся меньшай геаметрычнасцю літар, меньшымі іх памерамі. Ніжнія часткі літар «ук», «рцы», «зямля», «цы» апускаюцца за радок. Назіраецца падзел тэксту на словы. Адрозненнем ранняга, або старэйшага паўуставу ад больш позняга з’яўляецца, між іншым, выкарыстанне «юсаў», што служыць добрай палеаграфічнай прыкметай. Даследчыкі адзначаюць блізкасць старэйшага паўустава, які бытаваў на беларускіх землях, да устаўнога пісьма XIV ст., што было адным з адрозненняў яго ад маскоўскага пісьма.

Калі ўстаў і ранні паўустаў мелі не шмат адрозненняў на ўсёй тэрыторыі ўсходніх славянаў, то пачынаючы з позняга, або малодшага паўустава адбываецца вылучэнне асобных школ пісання на тэрыторыі дзьвюх краін – Вялікага княства Літоўскага і Маскоўскага княства, гэтыя школы можна акрэсліць як літвінскую (беларускую) і маскоўскую. Гэта было звязана як з асаблівасцямі сацыяльна-эканамічнага і культурнага развіцця дзьвюх краін, так і з міжнароднымі культурнымі стасункамі.

Канец XIV ст. быў пазначаны моцным паўднёваславянскім уплывам на землі ўсходніх славян, найперш, на пісьменнасць і кніжную культуру. Змены, якія адбыліся ў графіцы ў сувязі з гэтым, часам называюць «палеаграфічнай рэвалюцыяй». У канцы XIV - XV стст. дзяржавы паўднёвых славянаў – Балгарыя, Сербія, Македонія, Боснія, Харватыя - трапілі пад уладу Асманскай імперыі. Ратуючыся ад турэцкага прыгнёту, на землі ўсходніх славянаў пачалі перабірацца праваслаўныя кніжнікі. У Маскоўскую дзяржаву пераехалі мітрапаліт Кіпрыян, Пахомій Лагафет. У Вялікае княства Літоўскае адным з першых прывандраваў выдатны літаратар і вучоны-багаслоў Рыгор Цамблак, які заснаваў мітраполію ў Вільні. Паўднёваславянскія кніжнікі прынеслі з сабою прыёмы пісьма, якія ўжываліся ў іх краінах.

Уплыў паўднёваславянскай графікі пісьма на паўустаў усходніх славянаў выявіўся, найперш, у падоўжанні вертыкальных дэталяў літар. І ў маскоўскім, і ў літвінскім паўуставах узнікае «цверда» з падоўжынымі ўніз да ніжнягя радка бакавымі крыламі, так званае «цверда трохногае» ( ͳ ), «дабро» з падоўжанымі за ніжні радок канцамі ( д ) , «чэрв» сучаснага выгляду. Мачты ў «ер», «еры», «ерь» і «яць» уздымаюцца над радком. Разам з паўднёваславянскімі кніжнікамі на землі ўсходніх славянаў трапляе новы знак прыпынку – коска.

Маскоўскі паўустаў добра прадстаўлены ў даследаваннях расійскіх аўтараў, у тым ліку, У.Шчэпкіна, А.Мураўёва, М. Ціхамірава і іншых. У маскоўскім паўуставе словы пісаліся асобна, літары былі невялікія па памеру. Добрымі палеаграфічнымі прыкметамі маскоўскага паўуставу, па меркаванню У.Шчэпкіна, з’яўляюцца літары «ведзі», якая пісалася «калачыкам» ( в ), і літара «зямля», якая мела выгляд арабскай тройкі ( з ). У гэты час у маскоўскім паўуставе з’яўляюцца першыя лігатуры. ***Лігатура*** – спосаб злітнага напісання літар, пры якім яны спалучаюцца паміж сабой асобнымі часткамі, або пры злітным напісанні змяняюць свой звычайны выгляд. Для гэтага часу вядома больш за дзесятак лігатур, асабліва былі распаўсюджаны спалучэнні «і дзесятарычнае» і «ведзі» ( ιв ) , а таксама «цверда» і «ведзі» ( тв ). Адначасова пашыраецца вынас літар над радком. Скарачэнні ў маскоўскім паўуставе ўжываюцца значна часцей, чым ва ўставе. Пісары выкарыстоўвалі ўсе прыёмы скарачэння слоў, уключаючы сіглу.

Паўустаў, які выкарыстоўваўся ў Вялікім княстве Літоўскім, вылучаўся невялікімі памерамі літар, рэдкім ужываннем лігатур і скарачэнняў, літары былі роўнымі, невялікімі, мелі даволі просты дукт. Гэты тып пісьма вылучаецца наступнымі асаблівасцямі ў напісанні графем. Блізкасць да устаўнога пісьма XIV ст. адбіваецца ў нязначным нахіле вертыкальных рысаў ў літарах «іжа», «наш», «пакой», «цверда» і іншых. Адначасова сустракаецца дастаткова свабоднае напісанне асобных літар. Так, літара «аз» магла росчыркам выходзіць уверх і ўніз за радок, звычайным было напісанне літары «ведз» ў выглядзе перакрэсленага па дыяганалі простакутніка, а літары «он» – у выглядзе трохкутніка. Літара «цверда», апрача звыклай формы і формы «цверда трохногае», магла пісацца ў выглядзе арабскай лічбы ( 7 ), адрозненні можна заўважыць і ў напісанні іншых літар.

Гэты паўустаў быў пакладзены ў аснову першых друкарскіх шрыфтоў у пачатку XVI ст. Найлепей ён прадстаўлены ў выданнях Ф.Скарыны. Даследаванне шрыфта скарынінскіх выданняў зроблена ў спецыяльнай працы беларускага даследчыка А.Жураўскага. Першадрукаром было выкарыстана 40 літар кірылічнага алфавіту – адсутнічалі «е» «юс вялікі», «юс вялікі ётаваны», «іжыца». Літара «зяло» ўжывалася толькі для азначэння лічбы «6». Адначасова ўжывалася два напісання літары «ук» – «ѵ» і « ȣ »; «есць» –« е » і« э ». Літара «есць» ў другім варыянце ( э ) выкарыстоўвалася ў канцы слова пасля галоснай літары, а таксама ў слове

«есць», дзе ўтварала своеасаблівую лігатуру. Выкарыстанне графемы ( Э ) для пазначэння літары «есць» характэрна не толькі для скарынаўскіх выданняў, а з'яўляецца адметнай прыкметай літвінскага (беларускага) паўустава. Літара «і дзесатарычнае» служыла для азначэння лічбы, а таксама для передачы пачатковага гука «і» ў іншамоўных словах. У гэты час у літвінскім паўуставе літары «ер» і «ерь» губляюць сваё гукавае значэнне. «Ер» часцей выкарыстоўваецца ў канцы слова для пазначэння цвёрдасці апошняй літары і як раздзялялны знак, ці ў спалучэнні зычных у сярэдзіне слова. Часта замест яе ўжываецца паярык (‘). «Ерь» таксама можа замяняцца на паярык і паказвае мяккасць зычнай. Для азначэння гука «е» адначасова з літарай «есць» ужывалася «яць». Шрыфты на падставе паўустава выкарыстоўвалі таксама В.Цяпінскі і С.Будны.

У літвінскім паўуставе практыкаваўся вынас канцавых зычных над радком. Як правіла, гэта літары «мысліце», «слова». «хер». Сярод лігатур, акрамя згаданай вышэй лігатуры ў слове «есць», ужывалася традыцыйнае напісанне прыназоўніка і прыстаўкі «от» — ѿ. Скарачэнняў у гэтым пісьме было нямнога, у іх практыкавалася напісанне пад тытлай некаторых літар, якія меліся ў скарочанай частцы слова ( гдь — господь, срце — сердце). У малодшым літвінсікім паўуставе практыкавалася ўжыванне шматлікіх надрадковых значкоў, часам амаль непрыкметных.

У гэты час у беларускіх дакументах упершыню пачынаюць сустракацца арабскія лічбы. Першапачаткова яны вельмі рэдка выкарыстоўваліся ў актавых запісах, але з другой паловы XV ст. іх можна ўбачыць і ў канцылярскіх дакументах.

Літвінскі паўустаў ужываўся досыць доўга. Нават калі ўжо ў справаводстве панаваў скорапіс, яго выкарыстоўвалі для напісання рэлігійных кніг, багаслоўскіх трактатаў, урачыстых свецкіх твораў. Тэксты, напісаныя паўуставам, сустракаюцца на Беларусі яшчэ ў XVII ст. Сярод славутых помнікаў беларускага пісьменства, напісаных паўуставам, — «Чацця» (1489 г.), перакладзеныя на старабеларускую мову «Александрыя», «Аповесць аб трох каралях» (XV ст), Нікіфараўскі, Супрасльскі летапісы ((XV -XVI стст.)

На мяжы XIV-XV стст. і ў Вялікім княстве Літоўскім, і ў Маскоўскай дзяржаве пачынае ўжывацца новы тып кірылічнага пісьма – скорапіс. Гэты тып пісьма дазваляў значна паскорыць тэмп пісання, што дасягалася за кошт выкарыстання скарачэнняў, лігатур, спрашчэння дукту літар, меньшай іх каліграфічнасці. Скорапіс ужываўся пачаткова пераважна ў судовым і гаспадарчым справаводстве, адміністратыўных дакументах. У XV ст. пачынаецца фармаванне трох відаў кірылічнага скорапісу – беларускага, украінскага і маскоўскага.

Спецыфічным відам пісьма з'яўляецца ***вязь***. Вязь – кірылічнае дэкаратыўнае пісьмо, галоўнай мэтай якога з'яўляецца размяшчэнне літар у радку такім чынам, каб яны ўтварылі непарыўны арнамент, каторы б упрыгожваў рукапіс. Вязь з'явілася ў славянскім пісьме вельмі рана, амаль

што з узнікненнем самаго славянскага пісьменства. У Вялікім княстве Літоўскім і ў Маскоўскай дзяржаве вязь з’яўляецца ва ўжытку пры пасярэдніцтве паўднёваславянскіх кніжнікаў. Найстарэйшы з вядомых на ўсходнеславянскіх землях помнік пісьменства, у якім для ўпрыгожвання ўжыта вязь – Стыхірар 1380 г., напісаны ў Троіца-Сергіевай лаўры пад Масквой. Але ў ім вязь яшчэ не выступае як сфармаваная сістэма каліграфічнага пісьма.

Часам шырокага выкарыстання вязі на ўсходнеславянскіх землях стала XV ст. У гэты перыяд складываюцца дзьве сістэмы вязі – літвінская (беларуская) і маскоўская. У Маскоўскай дзяржаве сфармавалася некалькі цэнтраў, дзе развівалася мастацтва вязі – Троіца-Сергіева лаўра пад Масквой, Ноўгарад, Цвер, Пскоў. Маскоўская вязь рана пачала ўжываць штамбаванне (ператварэнне круглых частак у прамыя) і стылізацыю літар, распрацаваны былі прыёмы спалучэння літар, якія рабілі маскоўскую вязь даволі складанай для прачытання. Часцей за ўсё выкарыстоўваліся скарачэнні частках літар з мэтай зблізіць іх у радку, напісанне адной літары ў другой, ці ўнутры другой, супадзенне падобных часцін літар і інш. Маскоўская школа вязі вылучаецца значнай выцягнутасцю літар, пры тым, чым маладзейшая вязь, тым вялікшы каэфіцыент вязі (адносіны вышыні літары да яе шырыні). Каэфіцыент 2 паказвае, што гэта вязь ранняя, 3 і 4 – каэфіцыент, характэрны для другой паловы XV - XVI стст.



**Вязь**

На Беларусі вязь была меньш геаметрычнай, літары мелі больш простае напісанне, нагадвалі раслінны арнамент. Прабелы паміж літарамі запаўняліся выявамі кветак, галінак, лісця. Тут рэдка ўжываўся прыём штамбавання літар, калі акруглыя часткі пісаліся ў выглядзе вертыкальных ліній.

Як правіла, вязь выконвалася кінаварай. Часцей за ўсё гэтае аздабленне выкарыстоўвалі для напісання рэлігійных кніг, але вядомы і некаторыя свецкія рукапісы, упрыгожаныя вяззю. З пачаткам кнігадрукавання вязь пачала выкарыстоўвацца ў выданнях. Узоры літвінскай (беларускай) вязі ёсць у «Псалтыры» XVI ст., Статуце Вялікага княства Літоўскага 1866 і 1588 гг., выданнях Ф.Скарыны, С.Буднага, іншых помніках беларускай кніжнасці.

Разам з распаўсюджаннем пісьменнасці на землях усходніх славян з’явілася тайнапіс – крыптаграфія. У часы сярэднявечча яна набывае асаблівы росквіт. Крыптаграфія ўжывалася для шыфроўкі не толькі палітычных або маёмасных дакументаў, але і ў іншых мэтах. Часам перапісчык, жадаючы пакінуць сваё імя ў перапісанай ім кнізе і каб не

ўваходзіць у супярэчнасць з тагачаснай традыцыяй ананімнасці, зашыфроўваў яго. Патрабаванне ананімнасці выцякала з уяўлення, што чалавек – толькі прылада ў руках бога, які водзіць пяром ці пэндзлем па матэрыяле. Часам шыфр ужываўся дзеля забавы. У адной з кніг перапісчык Марцін з Гальшан ужыў сістэму адваротнага запісу тэксту, напісаўшы: «Ъшорг ан ъшург мад умат ътетчорп еис отк».

Тайнапіс, які ўжываўся ў кірылічных рукапісах, меў шэраг сістэм. Сістэма чужых пісьмен была пабудавана на прынцыпе перадачы славянскіх словаў некірылічнымі літарамі. У гэтых мэтах у першыя стагоддзі славянскага пісьменства, а пазднеей – на харватскіх і мараўскіх землях – магла ўжывацца глаголіца. Больш папулярным быў грэцкі алфавіт, а ў позднім сярэднявеччы – лацінскі. Часам шыфравальшчык мог прыдумаць уласны алфавіт для перадачы шыфраванага тэксту. Так, да прыкладу, прыдуманы алфавіт ужыў перапісчык Анежскага (Мсціслаўскага) псалтыра Лука ў 1395 г., зашыфраваўшы сваю малітву да Бога : «Господи, помози рабу своему Луце», а князі Барацінскія мелі ўласны радавы тайны шрыфт, якім карысталіся, да прыкладу, для уладальніцкіх запісаў на кнігах.

Сістэма замененых знакаў выкарыстоўвала зменены літары кірылічнага алфавіта. Часцей за ўсё пісаліся іх элементы, у гэтым выпадку тайны алфавіт называўся «паўсловіцай», таксама літары маглі паварочвацца – пісацца наадварот, дагары нагамі і іншым чынам. «Паўсловіца», апрача крыптаграфічных мэтаў, магла выкарыстоўвацца для паскарэння пісьма, а таксама дзеля забавы. У ватыканскай бібліятэцы захоўваецца псалтыр XIV-XV, цалкам напісаная «паўсловіцай».

Вельмі папулярнай сістэмай тайнапісу ў сярэднявеччы была «тарабарская азбука» або літарэя. У гэтай сістэме кірылічныя знакі замяняюцца на другія, таксама кірылічныя адпаведна акрэсленаму прынцыпу, або бессістэмна. Літарэя падзяляецца на простую і мудрую. Простая літарэя пакідае без змен усе галосныя літары, а зычныя падзяляе на дзьве часткі і літары адной часткі замяняе літарамі з другой часткі. Так, замест «букі» пішацца «шта», замест «ведзі» – «ша». Замест «глаголь» – «чэрв» і г.д. Мудрая літарэя базуецца на замене ўсіх літар алфавіту па згаданаму вышый прынцыпу, або зычныя і галосныя мяняюцца адна на другую безсістэмна. Так, у Псалтыры канца XIVст. са збораў Васкрасенскага манастыра г.Істры, якая захоўваецца ў Гістарычным музеі ў Маскве, маецца маргінальная надпіс бессістэмнай літарэяй: «олноцину тимфу ишапу оцмеешичу щеснъ госоръ симока къшо…» («осподину князю Ивану Ондреевичу беетъ челом сирота твоя…»). Літарэю выкарыстаў у адным з эпізодаў рамана «Чорны замак Альшанскі» Ул.Караткевіч.

Яшчэ адна сістэма танапісу – лікавая – была пабудавана на асаблівасці напісання лічбаў у кірыліцы. Паколькі большасць літар у кірылічным алфавіце маюць лічбавае значэнне, словы могуць разглядацца паводле гэтай сістэмы як набор лічбаў. «Аз» і літары, якія не маюць лічбавага значэння, пакідаюць без змены, а ўсе астатнія літары-лічбы раскладваюцца паводле іх лічбавага значэння. Так, напрыклад, слова «амінь» ў лічбавым значэнні

выглядае так: 1(а), 40, 8, 50, ь. Лічбы, якія атрымаліся ў выніку гэтай аперацыі, прадстаўляліся ў выглядзе сумы і раскладаліся на складаемыя: 1; 20 і 20; 4 і 4; 30 і 20, а таксама не маючы лічбавага значэння «ь». Пасля гэтыя лічбы запісваліся : А, КК, ДД, ЛК, Ь. Каб расшыфраваць такі запіс, трэба зрабіць адваротную аперацыю. Лічбавае значэнне літар можна было перадаць словамі. Так, у румянцаўскім рукапісу 1371 г. імя перакладчыка зашыфравана ў наступным складзе: «В инокых мене худого аще хощеши увидети, начало тому есть осмеричное число, среда же двусотное и первое, кнец же десято з единем накончевается.» Гэта азначае лічбы 8, 200, 1, 10, 1, што дае імя «Исаія». Часам замест апісання літар-лічбаў лічбавыя значэнні асобных літар перадаваліся значкамі: адзінкі – кропкамі; дзесяткі – рыскамі; сотні – кругамі. Акрамя вышэй названых, існавалі і іншыя сістэмы тайнапісу.

***Знешні выгляд пісьмовых помнікаў*** Мастацтва аздаблення рукапісаў у XIV-XV стст. працягвае развівацца. У пачатку гэтага перыяду большасць кніг, як і раней, пісалася на пергаміне. Амаль нязменным заставаўся пераплёт такіх кніг. У XIV ст. пачынае распаўсюджвацца гатычны тып пераплёту. Дзеля гэтага асобныя рукапісныя сшыткі будучай кнігі збіралі ў кніжны блок, карэнчык сабранага рукапісу абгортывалі дадатковым аркушам пергаміну і сшывалі авечымі жыламі, абкручваючы іх вакол дадатковых раменьчыкаў на карэнчыку кнігі. Затым берагі аркушаў старанна і роўна абцінали з дапамогай нажа ці спецыяльнага пераплётнага струга. Часам, калі ў адну кнігу збіраліся рукапісы рознага фармату, такое абцінанне было немагчымым і яго не рабілі.



**Умацаванне карэнчыка кнігі з дапамогай авечых жыл і раменчыкаў**



**Абклад Лаўрышаўскага евангелля**

Кніжны блок, перш чым яго закладваць у абклад, умацоўвалі. Дзеля гэтага карэнчык будучай кнігі ўнізе і ўверсе абшывалі т.зв. «капіталкамі» – кавалкамі пергаміну, якія выступалі за абклад і таму спецыяльна ўпрыгожваліся з дапамогай шаўковых нітак ці іншым чынам. Затым на кніжны блок накладалі абклад. Канструкцыяй сваёй ён уяўляў дашчаныя накрыўкі, абцягнутыя скурай, абрэзаныя наўзроўні з блокам кнігі. Зашпількі

выконваліся ў выглядзе металічных кольцаў на скураных раменчыках, якія накідваліся на медзяныя цвікі, ўвагнаныя ў абрэз верхняй накрыўкі. Скура пераплёту ўпрыгожвалася, ў сярэднявечччы дзеля гэтага шырока выкарыстоўвалася тэхніка сляпога ціснення з дапамогай спецыяльных штэмпеляў. На вуглах верхняй вокладкі рабіліся навугольнікі рамбічнай формы, у цэнтры часта змяшчаўся ромбападобны срэднік. На ніжняй дошцы пераплёту накладаліся металічныя полусферычныя «гузы» («пуклі», «жукі»). У гэтым стылі зроблены адзін з найстарэйшых беларускіх, які дайшоў да нашых дзён, — абклад Лаўрышаўскага евангелля XIV ст. Для яго аздаблення былі выкарыстаны аксаміт, каштоўныя камяні, зроблена гравіроўка на метале.

Пры даследаванні пераплёту палеограф павінен па меры магчымасці вывучыць матэрыялы, якія выкарыстоўваліся для ўмацавання кніжнага блоку. У сярэднявечччы практыкавалася ўжыванне для карэнчыка кнігі выкарыстаных раней пергамінных аркушаў. Гэта могуць быць часткі рукапісаў, якія маюць уласную каштоўнасць, часам больш важныя для навукі, чым рукапіс, для пераплёту якой яны былі выкарыстаны.

Асноўным стылем упрыгожвання рукапісных помнікаў у XIV- XV стст. быў тэраталагічны, або пачварны (ад гэч «тэрас» – пачвара). Аснову гэтага стылю складалі выявы фантастычных звяроў, раслін, разнастайных пляцёнак з раменчыкаў. Іх перапляценне ўтварала ініцыялы, застаўкі, канцоўкі, маргіналіі. Выявы звяроў-пачвар, разнастайныя пляцёнкі былі папулярнымі на ўсходнеславянскіх землях здавён. У XIV ст яны становяцца асноўным матывам

упрыгожвання рукапісаў. Акрамя раслін і жывёл, у тэраталагічных ініцыялах даволі часта выкарыстоўваліся выявы чалавека, так званыя «тэраталагічныя чалавечкі». Даследчыкі сярэдневучнай кнігі, у тым ліку, Я.Карскі, Т.Ільіна і А.Някрасаў, беларускі мастацтвазнавец В.Шматаў вылучаюць ў XIV-XV стст. дзьве буйныя школы кнігапісання, якія распрацоўвалі тэраталагічны стыль – ноўгарадскую і полацка-смаленскую. Гэтыя школы мелі падобныя сюжэты і матывы, а таксама блізкую манеру выканання: контурнасць, мадэліроўка чырвоным і жоўтым колерамі, ужыванне шэра-блакітнага фону і г.д. Часам вылучаюць яшчэ разанскую школу тэраталагічнага стылю, у якой у якасці фона выкарыстоўваўся зялёны колер.



**Застаўка ў тэраталагічным стылі.**
**Аршанска евангелле. XIII ст**



**Фрагмент Шарамецеўска трэбніка з**
**тэраталагічным ініцыялам. XIV ст.**

У XV ст на ўсходнеславянскіх землях пачынаюць ужывацца два новых стылі афармлення рукапісаў – новавізантыйскі і балканскі. У падставе гэтых стыляў ляжалі пляцёнкі (балканскі) і выявы раслінаў (новавізантыйскі). З’яўленне балканскага стылю ў аздабленне рукапісаў супадае з паўднёваславянскім уплывам на развіццё пісьменства. Але, як вядома, ужыванне рознага кшталту пляцёнак было характэрна для ўсходнеславянскага мастацтва яшчэ са старажытнасці. Балканскі арнамент ужываўся для аздаблення кніг і рукапісаў, напісаных на паперы. Як правіла, у ім выкарыстоўваліся кругі, простакутнікі, складаныя пляцёнкі ў выглядзе бясконцай васьмёркі. Застаўкі, якія нагадвалі рознакаляровыя карункі, акантоўваліся кветкамі, галінкамі, птушкамі. Гэтая манера выкарыстоўвалася і пры напісанні ініцыялаў. У спалучэнні з вяззю такое аздабленне рукапісу выглядала вельмі прывабна. Самым вядомым рукапісным помнікам на Беларусі, у якім ужываецца балканскі стыль аздаблення, з’яўляецца Шарашэўскае евангелле.

Новавізантыйскі стыль часам называюць «раслінным», у адпаведнасці з матывамі, якія ў ім найчасцей сустракаюцца. Генетычна гэты стыль быў звязаны з візантыйскім мастацтвам X-XI стст., але ў ім таксама можна ўбачыць праяву перадрэнесансных тэндэнцый. У аснове новавізантыйскага арнамента ляжаць стылізаваныя выявы кветак, галінак, якія пераплятаюцца ў адмысловыя гірлянды, утвараючы застаўкі, канцоўкі, ініцыялы. Такія прыёмы ўпрыгожвання рукапісаў зведалі амаль што ўсе краіны, якія мелі цесныя кантакты з Канстантынопалем, або ў якіх было распаўсюджана праваслаўе. У ВКЛ новавізантыйскі стыль набыў свае адметныя рысы – тут бутоны, галінкі і кветкі ствараюць асабліва пышныя гірлянды і пляцёнкі, часам уключаючы ў сябе выявы птушак і звяроў, намаляваных дастаткова рэалістычна. Некаторыя даследчыкі лічаць, што новавізантыйскі стыль, у адрозненні ад балканскага, ужываўся для аздаблення найбольш парадных, святочных урачыстых рукапісаў.

У XIV-XV стст. далейшае развіццё атрымала мастацтва ілюмінавання (аздаблення мініяцюрамі) кніг. З’яўленне новага матэрыялу для пісьма – паперы – змяніла тэхніку выканання мініяцюр. На пергаміне фарбы клаліся плотнай варствай, а высыхаючы, нагадвалі эмаль. У адрозненне ад яго папера даволі добра ўбірае фарбы, што робіць малюнак на ёй празрыстым, падобным на акварэль. Мініяцюры ў гэты час становяцца больш складанымі па кампазіцыі, часам малююцца ў некалькі ярусаў, на якіх паступова разгортваецца ілюстрацыя падзей, якія даюцца ў тэксце рукапіса. Асобныя прытчы можа ілюстраваць алегарычны малюнак. Па кампазіцыях, сюжэтах, тэхніцы малюнку, графіцы, мініяцюра XIV-XV стст. нагадвае тагачасны фрэскавы роспіс і іконапіс.

Як адзначае М.Нікалаеў, адной з тэхналагічных навінак вытворчасці рукапіснай кнігі ў канцы XV ст. стала пракладка з тканіны, размешчаная на развароце насупраць застаўкі або мініяцюры. Яна выконвала ахоўную і эстэтычную функцыі. Пракладка рабілася з каляровага шоўку, і закрываючы радкі, напісаныя на супрацьлеглай мініяцюры старонцы, дапамагала засяродзіць увагу на ўспрыняцці малюнка.

У XV ст. у мініяцюры пачынае назірацца імкненне да перадачы рэальнага жыцця. Асабліва характэрны ў гэтым сэнсе Радзівілаўскі летапіс – адна з найбольш багата аздобленых рукапісных кніг Беларусі, спісаная ў канцы XV ст. з тэксту, складзенага ў XIII ст. Вялікую мастацкую каштоўнасць маюць размешчаныя ў тэксце і звязаныя са зместам 617 каляровых мініяцюр. Гэтыя мініяцюры з’яўляюцца выдатнай ілюстрацыяй сярэднявечнага жыцця: у іх адлюстраваны побытавыя сцэны, паказы батлейкі і нават гульні скамарохаў, батальныя сцэны, выявы гарадоў, эпізоды палітычных падзей і іншае. Мініяцюры часта малююцца на старонцы, значная частка якой занятая тэкстам. Беларускія даследчыкі даказалі, што ілюмінацыя Радзівілаўскага летапісу зроблена двумя аўтарамі, іх манера адчувае на сябе ўплыў старажытных традыцый і новыя заходнееўрапейскія павевы. Сёння гэты рукапіс знаходзіцца ў бібліятэцы АН Расіі ў Санкт-Пецярбургу. Радзівілаўскі летапіс адносяць да Полацка-Смаленскай школы мініяцюры.

Такім чынам, у XIV-XV стст. адбыліся важныя змены ў напісанні і аздабленні рукапісаў. Найбольш адчувальнай з іх было ўваходжанне ва ўжытак новага матэрыяла для пісьма – паперы. Адметнымі рысамі сістэмы пісьма ў гэты час былі паўустаў, вязь, тэраталагічны, балканскі і неавізантыйскі стылі аздаблення рукапіса; блізкая да рэалізму мініяцюра.

# Пісьменнасць у Вялікім княстве Літоўскім у часы Рэнесанса і барока (XVI-XVIII стст.)

Час Рэнесанса і барока (XVI- першая паловаXVIII стст.) у Вялікім княстве Літоўскім стаў новым этапам развіцця пісьменства. Надзвычай актыўная ўнутраная і знешняя палітыка, якую вяла ў гэты час дзяржава, ускладненне сацыяльных стасункаў у тагачасным грамадстве вымагалі развітай пісьмовай культуры. Справаводства паступова ператвараецца ў асобную галіну ведаў, маючую свае правілы. Вялікая колькасць прывілеяванага насельніцтва, шматлікія прававыя інстытуты, якія рэгулявалі стасункі паміж саслоўямі і ў межах шляхецкага саслоўя (трыбуналы, сеймы і сеймікі, суды і г.д.) забяспечывалі попыт у пісьменных людзях, у пісарах. Развітая, у параўнанні з некаторымі суседнімі краінамі сістэма адукацыі, якую ўтваралі ордэнскія і братскія школы, пастаўляла грамадству пісьменных людзей, спрыяла развіццю пісьмовай культуры.

Развіццё пісьменства ў значнай ступені было абумоўлена новымі павевамі ў культурным жыцці ВКЛ, якія нёс Рэнесанс. Ідэі пашырэння асветы "на ўвесь люд просты", як адзін з пастулатаў Рэнесанса, яскрава праявіліся ў дзейнасці асветнікаў-кніжнікаў, знайшлі адбітак у распаўсюджванні пісанага і друкаванага слова на народных мовах, у інтарэсе розных варстваў грамадства да гісторыі, літаратуры, філасофіі. Вострая барацьба паміж рознымі рэлігійнымі плынямі, якая вялася ў час Рэфармацыі і Контррэфармацыі, выклікала да жыцця цэлую скібу палемічнай літаратуры, спрыяла нараджэнню новых літаратурных жанраў.

Не гледзячы на распаўсюджванне друкаванага слова, перапісванне кніг і рукапіснае справаводства застаюцца яшчэ вельмі актуальнымі – памеры друкаванай прадукцыі не дазвалялі забяспечыць усе патрабаванні грамадства ў кнігах. Часам развіццё кнігадрукавання спрыяла пашырэнню рукапісных помнікаў, паколькі дазваляла пашырыць рэпертуар друкаваных кніг, давала ў рукі перпісчыкаў дасканалыя ўзоры кніжнага мастацтва.

Большасць літургічных і царкоўна-багаслоўскіх рукапісаў XIV-XVIII стст. ствараліся ў царкоўных і манастырскіх скрыпторыях. Заможныя рэлігійныя цэнтры валодалі значнымі грашавымі сродкамі для пакупкі матэрыялаў для кнігапісання, мелі спецыяльных пісараў, рамеснікаў, мастакоў, якія былі занятыя стварэннем кніг і рукапісаў. Самыя адукаваныя святары нярэдка прымалі ўдзел ў перакладанні, рэдагаванні, перапісванні рукапісаў, выступалі творцамі арыгінальных сачыненняў. У вялікіх скрыпторыях з часоў Рэнесанса практыкаваўся падзел працы: у стварэнні кніг прымалі ўдзел пісцы-манахі, мастакі, пераплётчыкі.

Буйнейшым цэнтрам стварэння рукапіснай кнігі, актавых крыніц была сталіца Вялікага княства Літоўскага – Вільня. Рукапісы ствараліся у вялікакняскай канцылярыі, пры двары мітрапаліта, у Троіцкім манастыры і Успенскай Багародзіцкай сабornай царкве. З даўніх часоў былі вядомыя сваімі кнігапіснымі традыцыямі Полацк, Пінск, Тураў, Гродна, Віцебск. З

XVI ст. адным з буйнейшых цэнтраў кнігапісання становіцца Супрасльскі манастыр, дзе знаходзілася буйная бібліятэка., у 30-50-я гг.XVII ст. буйная кнігапісная майстэрня працавала ў мужчынскім Куцеінскім манастыры непадалёк ад Оршы. Тут апрача іншага, перапісваліся зборнікі царкоўных спеваў, для якіх выкарыстоўвалася крукавое пісьмо.

Апрача рэлігійных цэнтраў, у гэты час дзейнічалі свецкія майстэрні па стварэнню рукапісаў, работалі і асобныя пісары. Рукапісы прыходзілі на свет ў маёнтках свецкіх феадалаў, кірылічнае кнігапісанне падтрымлівалі Алелькавічы, Солтаны, Саламірэцкія і іншыя праваслаўныя магнаты. Перапісваннем кніг займаліся пісары Вялікакняскай канцылярыі, магдэбургскіх гарадскіх канцылярый, судовыя пісары, настаўнікі і шкаляры. Па-ранейшаму буйной інстанцыяй, дзе ствараліся актавыя матэрыялы і праводзілася перапісванне рукапісных кніг, заставалася Вялікакняская канцылярыя. Менавіта тут складвалася і ўдасканальвалася новая графіка пісьма, развівалася мастацтва афармлення афіцыйных папер, іх аздабленне, распрацоўваліся нормы справаводства.

Да 1696 г. усё справаводства ў Вялікім Княстве Літоўскім вялося на старабеларускай мове, што было замацавана ў Статуце ВКЛ 1566 і 1588 гг.: «А пісар земскі маець по-руску литерами и словы рускими вси листы, выписы и позвы писати, а не иншым языком и словы».

У гэты перыяд старабеларуская мова атрымлівае новую графіку пісьма, новую азбуку. Беларускія татары, якія пасяліліся ў Вялікім княстве Літоўскім у XIV ст., успрынялі мову мясцовага насельніцтва і пераклалі на яе свае свяшчэнныя кнігі, перш за ўсё, Каран. Гэтыя кнігі (Кітабы) сталі адметнай з'явай культуры беларускіх татар, а таксама унікальнай падзеяй ў гісторыі славянскіх моваў – для запісу свяшчэнных тэкстаў старабеларускай мовай быў выкарыстаны арабскі алфавіт. Пры гэтым графічнае ўвасабленне знайшлі гукі старабеларускай мовы, для якіх ў той час у кірыліцы не было адпаведных знакаў – «дз» і мяккі «ць». Для перадачы на пісьме гука «дз», якому не было адпаведніка ў арабскім алфавіце, татарскімі кніжнікамі быў вынайдзены новы знак ڙ, а для перадачы мяккага «ць» маглі ўжывацца літары ڇ і ڞ. Менавіта гэтая акалічнасць дапамагла мовазнаўцам, якія вывучалі старабеларускую мову, удакладніць яе фанетычны лад.

З сярэдзіны XVI ст. у пісьмовай культуры Вялікага княства Літоўскага пачынаецца хуткае распаўсюдвжанне лацінскага алфавіта. Паступова, разам з дамінаваннем польскай мовы ў палітычным і культурным жыцці краіны, лацінскі алфавіт і лацінская сістэма пісьма таксама займаюць дамінуючае месца на беларускіх землях. Паводле агульнага акта Прававога зраўнання станаў ВКЛ з Каронай польскай, прынятага 26 жніўня 1696 г. генеральнай канфедэрацыяй Польшчы і ВКЛ, польская мова, якая з XVII ст. паступова выціскала старабеларускую з афіцыйнага справаводства і прыватнага ўжытку, была афіцыйна замацавана ў якасці дзяржаўнай мовы Рэчы Паспалітай. З гэтага часу графіка кірылічнага пісьма на беларускіх землях развівалася вельмі марудна, затрымаўшыся на этапе выкарыстання

старабеларускага скорапісу і паўустава. Старабеларуская мова не знікла цалкам з культурнага і грамадскага жыцця Беларусі. Яна была не толькі мовай непрывілеяваных варстваў грамадства, але выкарыстоўвалася і шляхтай - у хатнім ужытку, у прыватным ліставанні, у дыярыушах, асабістых нататках і іншых дакументах. На беларускіх землях захавалася і практыка навучання чытанню старажытных кірылічных тэкстаў. Гэтаму былі прысвечаны спецыяльныя курсы ў навучальных установах, якія дзейнічалі пры базыльянскіх і праваслаўных манастырах. У XVII-XVIII стст.

Дастаткова шырокае распаўсюджанне атрымлівае беларуская лацінка. Як правіла, найбольш часта яна ўжывалася пры капіраванні старых тэкстаў, напісаных кірылічным пісьмом. У гэты час пастурова фармуюцца асаблівыя тыпы беларускага лацінскага пісьма, але гэты працэс не быў завершаны.

***Матэрыялы і прылады пісьма*** У XVI-XVII стст. ва ўжытак шырока ўваходзяць вырабы мясцовых папяровых млыноў. Часцей за ўсё гэта была папера, выраблены на мануфактурах ці майстэрнях, якія належалі буйнейшым феадалам. У Слуцку, Алыку, Любані адкрылі паперні Радзівілы, у Нясвіжы і Уздзе –Кавячынскія, у Гальшанах – Сапегі. У гэты час працавалі папяровыя млыны ў Ружанах, Смаргоні, Дуброўне, Заслаўі, другіх мясцінах Беларусі. У якасці філіграняў беларускія майстры ўжывалі магнацкія і шляхецкія гербы, эмблемы, выявы жывёл і раслін, часам пазначалі месца стварэння паперы («У Свіслачы», «У Нясвіжы»), пісалі ініцыялы майстроў і ўладальнікаў мануфактур. Так, да прыкладу, для першага выдання Статута 1588 г. была выкарыстана папера, якая мела восем розных філіграняў: гербы «Любіч», «Тры кароны», «Еліта» і інш. У другім выданні выкарыстана папера з 13 філігранямі, ў тым ліку, з гербамі Сапегі «Ліс» і Радзівіла «Арол». Значная колькасць рукапісаў пісалася і на заходнееўрапейскай паперы, а таксама вытворчасці польскіх майстроў. У нашых рукапісах можна сустрэць галандскую паперу з філігранямі «Герб Амстэрдама» ( два ільвы трымаюць увенчаную каронай тарчу), «Pro patria» (выява кабеты на троне, якая пасылае ў бой ільва), выявай арла і інш. Для нямецкай паперы найчасцей ўжываюцца філіграні з выявай кабана, галавы быка з кветкай паміж рагамі, ціара з крыжом, аднагаловы арол. Італьянская папера адметна вадзянымі знакамі, на якіх сустракаюцца наступныя выявы: два кругі, перакрэсленыя простай рысай з крыжом на канцы, жбанок, карабель, нажніцы і інш.

Асноўнай прыладай пісьма, як і ў папярэднія часы, заставалася птушынае пер’е. Для пісання скорапісам спатрэбілася новая заточка птушынага пяра: яно мела просты канец, расчэп рабіўся на палову зрэза.

У XVI ст. у рукапісах, створаных на беларускіх землях, пачынаюць сустракацца паметкі алоўкам. Першапачаткова аловак ужываўся, галоўным чынам, для стварэння накідаў пры аздабленні кніг. Найстаражытнейшыя алоўкі ўяўлялі сабой тонкую палачку з срэбра, свінца, волава ( адсюль назва). У XV ст. у заходняй Еўропе з’явіўся новы тып алоўка – так званы італьянскі аловак, які вырабляўся з парашку спаленай косці ці іншага вуголля і замацоўваўся раслінным клеям. Ужо ў XVI ст. ён пачынае выкарыстоўвацца і

на нашых землях. У гэтыя ж часы былі адкрыты ўласцівасці графіта, але графітны аловак быў вынайдзены толькі ў 1790 г. ў Францыі.

***Графіка пісьма*** Парадным тыпам пісьма, які ўжываўся ў Вялікім княстве Літоўскім – пераважна для рэлігійных рукапісаў – заставаўся паустаў. Але скорапіс, які з’явіўся ў папярэдні прыяд, набывае тут дамінуючае становішча ў актавых матэрыялах, асабістых нататках і іншых свецкіх рукапісах. Паскарэнне пісьма ў скорапісу дасягалася за кошт новых прыемаў напісання: тут былі вынайдены новыя графічныя формы літар, якія пісаліся ў адзін-два прыёмы, уводзіліся новыя формы злучэння літар паміж сабой. З’яўлення скорапіса на мяжы XIV-XV ст.ст. тлумачыцца не толькі неабходнасцю паскарэння пісьма, але і новым матэрыялам. Меньш порысты, гладкі навошчаны пергамін павольна ўбіраў чарнілы, таму некаторыя прыёмы пісьма былі проста немагчымымі. Паўуставам пісалі асцярожна, невялікімі фрагментамі, чакаючы, пакуль высахне папярэдні фрагмент. Папера дазваляла пісаць хутчэй.

Старабеларускі, або віленскі скорапіс базаваўся на паўуставе, а таксама адчуў на сабе значны ўплыў паўднёваславянскай манеры пісьма. Месцам, дзе гэты тып пісьма пачаў фармавацца, і дзе атрымаў найбольш развітыя формы, была вялікакняская Кацылярыя ў Вільні, што адбілася і на назве дадзенага тыпа пісьма. Старабеларускі скорапіс адрозніваецца каліграфічнасцю, літары выпісваюцца дакладна, амаль што без лішніх упрыгожванняў. Віленскі скорапіс, як правіла, дробны, вельмі роўны. Колькасць лігатур невялікая, а скарачэнняў і вынасных літар няшмат. Для яго характэрна парушэнне просталінейнасці літар, свабодны рух пяра, шматварыянтнасць дукту ў напісанні адной і той самай літары, падобнае напісанне розных літар. Яму ўласціва спецыфічнае напісанне асабных літар. Адной з найлепшых палеаграфічных прыкмет з’яўляецца ў дадзеным выпадку напісанне літары «дабро». Дзякуючы паўднёваславянскаму ўплыву, у віленскім скорапісу яна атрымала доўгія, манерныя, загнутыя ўніз хвасты (  ). Характэрны выгляд набыла таксама літара «жывеце» – яна звычайна пісалася ў выглядзе ляжачай васьмёркі, перарэзанай вертыкальнай рысай ( ). У гэтым тыпе пісьма былі свае асаблівасці ў вынасе літар над радком. У большасці вынасіліся зычныя літары – в, д, ж, з, л, м, н, р, с, т, х, ц, ч; літары б, г, п, ф, ш ,як правіла, пісаліся толькі ў радку. Асаблівасцю пісьма было памкненне падоўжыць выходзячыя за радок літары ўніз, пад радок. Такія літары, як «ведзі», «букі», «еры», «яць» і іншыя, цалкам змяшчаліся ў радку, не ўздымаючыся над ім. У каліграфічным скорапісу амаль не ўжываліся лігатуры, літары пісаліся паасобку.

Скорапіс фармаваўся паступова, на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Гэты тып пісьма меў свае адмены не толькі ў залежнасці ад часу напісання, але таксама ў адпаведнасці з месцам стварэння рукапісу і яго прызначэннем. Урачыстыя дакументы, а таксама тыя, якія павінны былі доўга захоўвацца, пісаліся звычайна каліграфічным скорапісам.



**Узор віленскага скарапісу**

Старабеларускі скорапіс быў вельмі зручным не толькі для напісання, але і для чытання, у адрозненне, да прыкладу, ад маскоўскага пісьма гэтага перыяда.

Віленскім скорапісам напісаны актавыя кнігі гарадскіх, земскіх і замкавых судоў, каморныя кнігі, пераважная частка кірылічных дакументаў Літоўскай Метрыкі, Статуты ВКЛ 1529 і 1566 г. Асабліва шырокае распаўсюджанне беларускі скорапіс атрымлівае ў другой палове XVI-XVII стст. У гэты час ён становіцца асноўным пісьмом не толькі актавай пісьменнасці, але таксама і свецкай літаратуры.

Зручнасць і лёгкасць для прачытання беларускага скорапісу зрабіла магчымым стварыць на яго падставе друкарскі шрыфт. У друкарні Мамонічаў з дапамогай яго быў выдадзены Статут ВКЛ 1588 г. Шрыфт на базе скорапісу падкрэсліваў свецкі характар выдання, паколькі ў царкоўнай літаратуры, як друкаванай, так і рукапіснай, ужываўся толькі паўустаў. Шрыфт на базе скорапісу выкарыстоўваўся пры выданні і іншых помнікаў права і актавых дакументаў, у тым ліку, «Трыбунала абываталям Вялікага княства Літоўскага».

Адначасова з віленскім скорапісам фармуюцца маскоўскі і украінскі.

Украінскі скорапіс быў роднасны віленскаму. У яго фармаванні відавочны ўплывы паўднёваславянскай письмовай традыцыі, а таксама лацінскага пісьма. У гісторыі ўкраінскага скорапісу можна вылучыць тры ўмоўныя этапы. Для перашага (XV-сяр.XVI стст) характэрны ўплыў лацінскага і польскага гатычнага пісьма. Гэта так званае курсіўнае пісьмо, літары ў ім невялікія па памеру, выцягнутыя і маюць завостраныя вуглы. Другі этап звязаны з дзейнасцю асобных школ пісьма – кіеўскай, луцкай, львоўскай, астрожскай. Пісьмо гэтага часу (сяр. XVI- сяр. XVII стст.) характэрызуецца пэўнай каліграфічнасцю, літары роўныя і маюць аднолькавую вышыню. На трэцім этапе (сяр. XVII – XVIII ст) ва ўкраінскім пісьме заўважальны ўплыў маскоўскага скорапісу. Падрабязнае апісанне ўкраінскага скорапісу прадстаўлена ў рабоце М.Крыля «Основи палеографії», які вылучае ў ім, апрача згаданых вышэй перыядаў, асобныя школы і традыцыі – звычайнае пісьмо, якім карысталіся на Леваўзбярэжнай Украіне, парадное пісьмо, каліграфічнае і нядбалае. Адрозненнем украінскага скорапісу з'яўляецца спецыфічнае ўжыванне некаторых літар. Так, ў ім адсутнічае «і дзесатарычнае», літара «зяло» выкарыстоўваецца, галоўным чынам, для пазначэння лічбы «6», вялікая літара «глаголь» ужываецца для пазначэння «г выбухнога», маленькая – для «г фрыкатыўнага».



**Узор украінскага скарапісу**

Маскоўскі скарапіс сфармаваўся як асобны тып пісьма ў XV ст., яго развіццё працягвалася і далей, да пачатку XVIII ст., калі ён быў заменены так званым «грамадзянскім пісьмом». Галоўныя асблівасці маскоўскага скарапісу – вялікая колькасць вынасных літар, разнастайнасць і шматлікасць лігатур, скарачэнняў, пры чым нават без тытлаў, наяўнасць разнастайных варыянтаў напісання літар. Лігатуры, скарачэнні ніколі не ўтваралі акрэсленай стабільнай сістэмы, многае залежала ад жадання і звычкі пісара ці дзяка, ад атрыманых імі індывідуальных навыкаў напісання. У маскоўскім скарапісу з пачатку яго фармавання склалася свабода ва ўзмахах пры напісання літар, як правіла, літары імкнуцца ўзняцца над радком, атрымліваючы высокія мачты. Характэрнымі прыкметамі маскоўскага скарапісу можна лічыць напісанне літары «дабро» ў выглядзе падоўжанай уніз васьмёркі ( ), напісанне літары «ведзі» ў трох варыянтах нават у тым самым тэксце – у выглядзе простакутніка ( ), калачыка ( ) і двух пастаўленых побач трохвугольнікаў ( ). Літара «рцы» вельмі часта пісалася гарызантальна над радком ( т.зв. «рцы ляжачае» ).



**Узор маскоўскага скарапісу**

У канцы XVII ст. маскоўскі скарапіс паратварыўся ў складанае для прачытання пісьмо, таму для зручнасці справаводства і магчымасці друкавання свецкіх кніг Пётр I у 1710 г. вымушаны быў увесці новы тып пісьма – простае напісанне кірылічных літар у т. зв. «гражданке» было зроблена на падставе лепшых узораў маскоўскага каліграфічнага скарапісу і лацінскай антыквы.

***Фармат і ўпрыгожванні рукапісаў*** Мастацтва аздаблення рукапісных кніг развівалася адпаведна змене ідэйна-стылявых накірункаў у культурным жыцці грамадства. Рэнесанс прынёс ў пісьмовую культуру памкненне да рэалізму ў кніжнай мініяцюры і афармленні заставак, канцовак, ініцыялаў і маргіналій. Эстэтыка барока патрабавала пышнасці, вычварнасці,

кантрастаў. У адпаведнасці з гэтым фармуецца і мастацтва аздаблення рукапісаў. Шырокія культурныя сувязі беларускіх земляў у часы Рэнесансу і барока спрыялі засваенню і перапрацоўцы ў адпаведнасці з патрабаваннямі мясцовай культуры здабыткаў заходнееўрапейскіх і паўднёваславянскіх майстроў-кніжнікаў.

Для ўпрыгожвання тэксту рукапісаў, як і раней, выкарыстоўвалася вязь. У XVI ст. адбываецца карэннае адмежаванне старабеларускай і маскоўскай вязі. Беларуская вязь захоўвае натуральны выгляд літар, вельмі рэдка ўжывае іх штамбаванне, выкарыстоўвае раслінны арнамент для запаўнення прабелаў паміж літарамі.

Маскоўская школа вязі ў гэты час знаходзіцца ў перыядзе свайго росквіту, увабраўшы ў сябе прыёмы, распрацаваныя наўгародцамі і давёўшы тэндэнцыі ў складванні гэтага тыпу ўпрыгожвання да іх лагічнага завяршэння. Ужо ў XVIII ст. пачынаецца мастацкае падзенне школы маскоўскай вязі.

У XVI-XVII стст. для маскоўскай вязі характэрна ужыванне штамбаў замест закругленых часткаў літар, з петляў утвараюцца паўштамбы (  ), адбываецца спалучэнне частак літар, якія раней цяжка і рэдка спалучаліся. Таксама, як і ў беларускай вязі, у маскоўскай вязі прабелы паміж літарамі і часткамі літар запаўняюцца стылізаванымі выявамі раслін, што ў спалучэнні з строга геаметрычнымі выявамі літар дае значны мастацкі эфект. Маскоўскую вязь на беларускіх землях ўжывалі веткаўскія стараверы.

Для ініцыялаў, заставак і канцовак, як ў папярэдні перыяд, у старабеларускай кірылічнай кніжнасці працягвалі выкарыстоўвацца балканскі і неавізантыйскі стылі. Апошні ў час Рэнесанса пацярпеў значныя змены: мастакі выкарыстоўваюць розныя элементы жывой прыроды, перш за ўсё, пышныя гірлянды кветак, выявы featured рознакаляровых птушак, галінак. Папулярнымі ў аздабленні былі малюнкі разнастайных ваз, пуццi, лісця аканіту.

У часы Рэнесансу у тэхніку мастацкага аздаблення рукапісаў пачынаюць пераносіца прыёмы, запазычаныя з друкаваных выданняў. Мастакі выкарыстоўваюць двухколерную – чорна-белую ці чырвона-белую расфарбоўку, светлацені. Шырока распаўсюджваецца гравюра. Часам у рукапісную кнігу ўстаўляліся гравіраваныя ці друкаваныя застаўкі, тытульныя аркушы, куды ўпісываліся назвы кнігі ці раздзела. Гэтая практыка засталася актуальнай і ў часы барока, набыўшы шырокае распаўсюджанне. Для рукапісаў XVII-XVIII стст. характэрна ўжыванне раслінных кампазіцый на палях рукапісаў, якія паступова ператварыліся ў цэласныя адмысловыя ліштвы, ў якіх размяшчаўся тэкст або мініяцюра.



**Друкаваны тытульны аркуш Супрасльскага зборніка 1714 г.**

Важным сродкам упрыгожвання рукапіснай кнігі ў часы Рэнесанса і першыя дзесяцігоддзі барока былі мініяцюры. Асноўныя асаблівасці ілюмінацыі кніг адпавядалі стылістычным накірункам эпохі. Мініяцюры паўтаралі прыёмы, кампазіцыі, каларыт і сюжэты станковага і фрэскавага жывапісу. У мініяцюрах на біблейскія сюжэты пазнаюцца адметнасці беларускай школы іконапісу, якая пачала складвацца ў часы Рэнесанса – светлы, святочны каларыт, выкарыстанне залатога фону, рэалістычнасць у паказе дэталяў інтэр’еру і інш.



**Друйскае евангелле XVI ст. Мініяцюра і застаўка.**

На развіццё ілюмінацыі рукапісаў вялікі ўплыў аказала фармаванне свецкага жывапісу, а таксама шырокая папулярнасць гравюры, ўдасканаленне тэхнікі гравіравальнага мастацтва. Малюнкі ў кнігах становяцца больш рэалістычнымі, адначасова шырока ўжываюцца разнастайныя эмблемы, гербы, алегорыі. Апошняе набыло асаблівае распаўсюджанне ў часы барока. Характэрнай прыкметай гэтага перыяду з’яўляецца зварот да лавіраванай (размаляванай) гравюры.

У XVII-XVIII стст. на беларускіх землях пашыраецца новы тып кірылічнай кнігі, які дагэтуль рэдка сустракаўся – ірмалоі (зборнікі ірмасаў, спеўнікі), навучальныя і гаспадарчыя кнігі. Іх упрыгожванне значна адрозніваецца ад іншых рукапісных кніг. Навучальныя і гаспадарчыя кнігі, як правіла, сціпла ўпрыгожаны. Функцыю ўпрыгожванняў выконваюць у іх каліграфічна напісаныя загалоўкі, чарцяжы, табліцы, спісы. Ірмалоі пісаліся спачатку з дапамогай крукавога пісьма, а затым з ужываннем нотнай сістэмы. Гэтыя кнігі адрознівае прымеркаванне аздобленых элементаў да галасоў-раздзелаў, на якія разбівалася кніга адпаведна традыцыі.

У XIV ст. выкарыстоўваецца так званы «рэнесансны» тып пераплёту. Для яго характэрна ўжыванне добра выробленай цісненай скуры для абцягвання дошак і тоўстай, больш грубай скуры для карэньчыкаў. Абрэз выконваўся не на ўзроўні з блокам кнігі, як гэта было характэрна для готыкі, а выступаў на 2-3 мм за блок, краі яго пачалі зрэзвацца на вугал. Як адзначаў М.Нікалаеў, аналагі такой канструкцыі пераплёту можна знайсці сярод нямецкіх і польскіх пераплётаў таго часу. Для перыяду Рэнесансу характэрна выкарыстанне побач з залатымі і срэбрнымі навугольнікамі і сярэднікамі залатога і срэбрнага ціснення, імітуючага металічныя навугольнікі. Для такой работы ужывалі штампы, якія выконвалі прафесійныя ювеліры. У гэты час змяняецца канструкцыя зашпілек: яны набываюць форму металічных зашчэпак. Адна мацуецца на правым баку верхняй дошкі пераплёту ў выглядзе накладкі, а другая – да раменчыка ніжняй дошкі. Часам на зашпільках, якія выраблялі ювеліры, можна ўбачыць лацінскія літары і манаграмы.





**Абклад напрастольнага евангелля XVI ст     Евангелле з абкладам XVI ст.**

У канцы XVI- XVII стст. на беларускіх землях пашырыўся тып абкладу, у якім навугольнікі мелі гравіраваныя выявы евангелістаў, або іх сімвалаў, а сераднік – выяву ўкрыжавання ў выглядзе планкеткі.

Адна з найбольш прыгожых кніг беларускага пісьма гэтага перыяда – «Дзесятаглаў» Мацвея Дзесятага, створаны напачатку XVI ст. На напісанне і аздабленне кнігі ў майстра пайшло амаль пяць гадоў Для напісання тэксту Мацьвей Іванавіч выкарыстоўваў чарнілы чатырох колераў. Кніга ўпрыгожана 250 шматколернымі ініцыяламі, а таксама некалькімі дзесяткамі драбнейшых кінаварных ініцыялаў.

  

**Ініцыялы з «Дзесятаглава»  Мацвея Дзесятага. XVI ст.**

На палях зроблены каляровыя маргіналіі ў выглядзе літар яўрэйскага алфавіта, малюнка рукі, манаграмы. Тут размешчана 18 заставак у

неавізантыйскім стылі, а таксама адна мініяцюра, якая лічыцца шэдэўрам ілюмінатарскага мастацтва. Мініяцюра падзелена на тры часткі, у кожнай з якіх свой сюжэт і кампазіцыя. Мастак зрабіў гэтую мініяцюру шматфігурнай, выкарыстаў яркія, святочныя фарбы і залаты фон. Даследчыкі часам знаходзяць роднасныя рысы ў аздабленні «Дзесятаглава» з Ноўгарадскай школай іконапісу і ілюмінацыі. Кніга ствралася ў Вільні і Супраслі. Сёння яна знаходзіцца ў Санкт-Пецярбургу.

# Асаблівасці кірылічнага пісьменства на беларускі х землях ў канцы XVIII- XX стст. (Неаграфія)

У гісторыі кірылічнага пісьма на Беларусі асаблівае месца займае XVIII- XIX стст. Гэты перыяд можна аднесці да сферы вывучэння роднаснай палеаграфіі дысцыпліны – неаграфіі ( ад «неа» – новы, «графіа»— пісаць). Кірылічная неаграфія, згодна з распрацоўкамі С.А.Рэйсера, мае ніжэйшай храналагічнай рысай пачатак XVIII ст., калі расійскім імператарам Пятром I быў уведзены ва ўжытак грамадзянскі шрыфт. Але на Беларусі распаўсюджанне новай графікі кірылічнага пісьма пачалося толькі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай – г. зн. з другой трэці XVIII ст. Пачатак кірылічнай неаграфіі ў гісторыі пісьма на беларускіх землях, такім чынам, не супадае з вызначанай А.С.Рэйсерам рысай.

На працягу XVIII ст. на беларускіх землях сфера ўжывання беларускай мовы пастаянна звужвалася, што адбілася ў павольным, марудным развіцці кірылічнай графікі пісьма, кансерваванні традыцый літвінскага паўустава і старабеларускага скорапісу. Кірылічныя запісы можна ў гэты час сустрэць у асобных дыярыўшах, гаспадарчых кнігах, праваслаўнай рэлігійнай літаратуры.

З XVII ст. пачынаецца ўжыванне лацінскага алфавіту для перадачы старабеларускай мовы. Гэта рабілася, перш за ўсё, у копіях, якія здымаліся са старых дакументаў, напісаных кірыліцай. Часам лацінкай запісваюцца і літаратурныя творы, фальклор беларускага народа. Да 1850-х гадоў для беларускай мовы ўжываўся пераважна лацінскі алфавіт. У 1853 г. спецыяльным цыркулярам царскія ўлады забаранілі выкарыстанне лацінскага алфавіту для ўсходнеславянскіх моваў. Аднак ў прыватным ліставанні, у прыватных архівах і нататках, бесцэнзурнай літаратуры лацінскі алфавіт выкарыстоўваўся яшчэ вельмі доўга – да першых дзесяцігоддзяў XX ст.

Уключэнне беларускіх земляў у склад Расійскай імперыі ў апошняй трэці XVIII ст. прывяло да паступовага распаўсюджання на нашых землях расійскай сістэмы кірылічнага пісьма, якое выкарыстоўвалася спачатку ў афіцыйным справаводстве, а затым і ў іншых галінах жыцця. Але да афіцыйнай забароны ў 1863 г. на тэрыторыі Беларусі польскай мовы шмат рукапісных крыніц, у тым ліку, актавых матэрыялаў, стваралася менвіта на ёй. Гісторыку-даследчыку, які працуе з дакументамі па гісторыі Беларусі XVIII - першай паловы XIX стст., у сувязі з гэтым трэба ведаць не толькі беларускую і расійскую, але таксама польскую неаграфію.

Для канца XVIII- XIX стст. кола крыніц, якімі карыстаецца гісторык, значна пашыраецца, мяняецца іх структура. Сярод вядомых ужо відаў пісьмовых помнікаў – царкоўна-рэлігійнага характару, літаратурных, актавых – невымяральна ўзрастае доля апошніх. Акрамя таго, расце колькасць прыватных пісьмовых крыніц – дзённікаў, лістоў, чарнавікоў літаратурных і навуковых твораў, разнастайных нататак і г.д. Гэта было абумоўлена новым этапам у развіцці грамадства, паступовым пераходам да адносін,

характэрных для Новага часу, ростам нацыянальнай свядомасці, рэвалюцыйна-вызваленчай барацьбы, зменамі ва ўзроўні і якасці адукацыі і інш.

XVIII-XIX ст. – перыяд складвання разгалінаванага бюракратычнага апарата Расійскай імперыі, які павінен быў забяспечыць функцыянаванне велізарнай дзяржавы. У гэты час уводзіцца еўрапейская сістэма справаводства, распрацоўваюцца складаныя і часам вельмі заблытаныя правілы вядзення канцылярскіх справаў. Разам з ростам актавых крыніц ў гэты час значна памяншаецца колькасць рукапісных літаратурных, публіцыстычных і навуковых твораў, што было абумоўлена шпаркім развіццём выдавецкай справы. Рукапісы былі сродкам распаўсюджання бесцэнзурных твораў. Так, шматлікія «Гутаркі», паэмы «Тарас на Парнасе», «Энеіда навыварат» і іншыя ананімныя творы беларускай літаратуры распаўсюджваліся на беларускіх землях менавіта ў рукапісным выглядзе. У рукапісах даходзілі да чытача шматлікія антыўрадавыя вершы, публіцыстычныя творы і інш.

Пашырэнне адукацыі, наданне паўсядзённаму жыццю больш свецкага характару выклікалі рост прыватных архіваў. XVIII-XIX стст. часам называюць «залатым векам» эпісталярнага жанру і мемуарыстыкі. Гэтыя рукапісныя матэрыялы – лісты, нататкі, мемуары, дзённікі, рахункі і г.д. – адрозніваюцца разнастайнасцю почыркаў, форм, аздаблення, уяўляючы цікавыя крыніцы для даследчыка-палеографа. Да гэтай групы крыніц можна далучыць таксама чарнавікі літаратурных і навуковых твораў, якія масава дайшлі да нашых часоў і з’яўляюцца характэрнымі крыніцамі пісьменства пасляасветніцкай пары. У палеаграфічным даследаванні гэтага тыпу дакументаў на першае месца высоўваецца задача вызначэння аўтэнтычнасці дакумента, яго прыналежнасці, а таксма яго прачытанне.

***Матэрыялы і прылады пісьма*** У гэты перыяд, за вельмі рэдкім выключэннем, адзіным матэрыялам для пісьма становіцца папера. Грыфельная дошка, першапачаткова зробленая з чорнага сланцу, выкарыстоўваецца ў школе пры навучанні пісьму і лічэнню, а таксама для іншых запісаў, якія не патрабавалі захавання.

У канцы XVIII- XIX стст. на беларускіх землях выкарыстоўвалася папера розных тыпаў – гэта былі вырабы мясцовых папяровых мануфактур, а затым фабрык; еўрапейскіх вытворцаў; а таксма расійская папера, якая пачала распаўсюджвацца пасля падзелаў Рэчы Паспалітай.На мясцовай паперы, як і ў папярэдні перыяд, выкарыстоўваліся філіграні – гербы ўладальнікаў паперняў, гербы гарадоў, дзе выраблялася папера, ініцыялы ўладальнікаў мануфактур і фабрык, назвы мясцовасцей.

Расійская папера, якая ўжывалася на беларускіх земляях ў канцы XVIII-пачатку XIX стст., мела ў вадзяным знаку выяву двухгаловага арла – дзяржаўны герб Расійскай імперыі. У Імперыі яшчэ ў 1699 г. быў прыняты ўказ аб абавязковым выкарыстанні гербавай паперы для афіцыйных дакументаў. Гербавая папера каштавала даражэй, чым іншая такой жа якасці, але без герба. Прыдбаныя такім чынам грошы ішлі ў дзяржаўны скарб.

Спачатку паперу кляйнілі – у правым верхнім вугле аркуша ставілі фарбай дзяржаўны герб. Памер кляйна азначаў кошт паперы і, адпаведна, яе прызначэнне згодна з рэгламентам: маленькае кляйно і таннейшая папера прызначалася на паданні і іншыя меньш важныя дакументы, якія падаваліся ў мясцовыя інстанцыі. Вялікае кляйно і дарагая папера прызначалася для больш важных – купчых, тэстаментаў і іншых падобных дакументаў доўгатэрміновага захоўвання, а таксама для паданняў у вышэйшыя інстанцыі Іпмерыі. У залежнасці ад віда кляйна можна акрэсліць прыблізны час вырабу гербавай паперы. У Расійскай імперыі ў 1724-1726 гг. выкарыстоўвалася так званае «пятроўскае кляйно», наступнае ўжывалася ў 1724-1764 гг. Кацярына ІІ, уносячы змены ў дзяржаўны герб Расійскай імперыі, змяніла таксама і кляйно, якім карысталіся да 1796 г. Павел І, які захапляўся геральдыкай, таксама зацьвердзіў новае кляйно для гербавай паперы. Выгляд кляйна, такім чынам, дэтэрмінаваны храналагічна і можа быць адной з палеаграфічных прыкмет.

З ХІХ ст. часцей за кляйно ўжывалася гербавая філігрань. Вадзяны знак з выявай двухгаловага арла на расійскай паперы ўпершыню з’явіўся ў 1723 г. У 1860-я гады побач з гербам пачалі ставіць год вырабу паперы, што дазваляе больш дакладна датаваць дакумент. Як правіла, у другой палове ХІХ ст. гербавая папера выкарыстоўвалася не пазднеей, чым праз два гады пасля вырабу.

У ХІХ ст. з’явіўся новы датаваны знак – **штэмпель**. Самы ранні штэмпель, які сустракаецца на тэрыторыі Расійскай імперыі, датуецца 1828 годам. Штэмпель – знак сляпога ціснення, які не бачны на прасвет. Ён з’яўляецца знакам таварнай маркіроўкі папяровай вытворчасці. Штэмпель азначаў тып паперы, яе кошт. Па памерах ён быў невялікі – 12-19 мм. У сярэдзіне ХІХ ст. штэмпель пачынае часткова выціскаць з ужытку філігрань. Так, у друкаваных кнігах у гэты час папера з вадзянымі знакамі амаль не ўжываецца, затое вельмі часта тут ужываецца штэмпель Узоры штэмпеляў расійскай паперы, прыёмы іх выкарыстання для датавання рукапісаў прывёў у сваёй рабоце С.А.Клепікаў. У якасці маркіровачнага знака для паперы штэмпель ужываўся да пачатку ХХ ст.

У канцы XVIII ст. паперу сталі падфарбоўваць у блакітныя колеры. Гэтая папера плотная, з няроўнымі краямі, шурпатая. Фармат аркуша звычайна ад 40 см у шырыню і ад 30 см у вышыню (прыкладна, два аркуша сёняшняга фармата А4). Пры пісанні такі аркуш звычайна складваўся напалам. У другой трэці ХІХ ст. паперу пачалі пры вырабе афарбоўваць ў густы сіні колер. Адначасова з’яўляецца папера машыннай вытворчасці. З другога дзесяцігоддзя ХІХ ст. папера становіцца гладкай, плотнай, больш тонкай, вадзяныя знакі на ёй штампаваныя, а краі роўна абразаліся з дапамогай машыны. Змяняецца хімічны склад папяровай масы. У сярэдзіне ХІХ ст. пачынаюць выкарыстўваць лінаваную паперу. Яна становіцца гладкай, тонкай і мае крыху жаўтаваты колер.

У канцы XVIII- пачатку ХІХ стст. тэкст на аркушы паперы займаў не больш 60-70% плошчы, пакідаліся вялікія палі. Даволі часта аркуш

перагінаўся напалам уздоўж і тэкст запісваўся толькі на адной палове, другая частка пакідалася для правак і заўваг. Тэкст пісаўся з абодвух бакоў аркуша. У першай палове XIX ст. справаводства вялося на цэлых аркушах. Яны складываліся і зшываліся ў сшыткі, часам перапляталіся ў выглядзе часопісаў. З сярэдзіны XIX ст. пачалі выкарыстоўваць часткі поўнага аркуша – чвэрткі, васьмушкі. Асабліва многа іх становіцца з часоў з'яўлення тэлеграфа – тэлеграфныя паведамленні часцей друкаваліся на частцы аркушаў, гэтаксама афармляліся і іншыя запісы.

Прыватныя рукапісы больш разнастайныя па форме, чым дакументы афіцыйнага справаводства. Яны могуць мець розны фармат, адвольнае размяшчэнне тэксту. Усё залежыла ад жадання аўтара, яго індывідуальнасці.

Значную частку рукапісаў XVIII-XIX ст. складаюць лісты. Яны займаюць прыкладна 50-60% афіцыйнага справаводства (паданні, прашэнні, рапарты і інш.) і 70-80% асабістых архіваў. У гэты час склаўся адметны этыкет пісання лістоў. Улічвалася разборлівасць напісання, форма звароту, якасць паперы, цітулатура адрасата і аўтара, месца напісання даты, характар подпісу і іншае. Так, дапрыкладу, у лісце да жанчыны або начальства непрыймальнымі былі размашысты і неразборлівы почырк, напісанне звароту ў адзін радок, неразборлівасць подпісу. Афіцыйныя лісты павінны былі мець азначэнне даты і месца напісання. Ліст, запячатаны сургучом, лічыўся больш прэстыжным, чым заклееены простай аблаткай.

Паколькі ў XVIII-XIX стст. ліставанне набывае ў параўнанні з папярэднім перыядам характар масавай з'явы, вынаходзяцца спосабы зрабіць гэты працэс больш зручным. Ствараюцца рэгулярныя паштовыя рэйсы, адкрываюцца паштовыя канторы. У гэты час ва ўжытак уваходзіць канверт. Спачатку замест канверта выкарыстоўвалася спецыяльная форма складвання напісанага ліста – на такім лісце пакідалася свабоднае месца для напісання адраса. Ліст запячатваўся з дапамогай сургуча ці аблаткі.У першай чвэрці XIX ст. канверт становіцца агульнаўжывальным, але клеявы клапан выкарыстоўваўся вельмі рэдка, як і раней, канверты запячатваліся з дапамогай сургуча ці аблаткі. Такія лісты вельмі лёгка было паддаваць перлюстрацыі. У некаторых паштовых канторах Расійскай імперыі (Адэса, Пецярбург, Варшава, Брэст, пэўны час – Вільня) працавалі чыноўнікі, якія валодалі «майстэрствам» адкрыцця лістоў і іх паўторнай запячаткай, незаўважальнай для адрасата. Канверт, як правіла, утрымлівае дакладны адрас аўтара ліста і адрасата, дакладнае напісанне прозвішча, а гэтыя дадзеныя могуць адсутнічаць у лісце. На канверце могуць быць і іншыя паметкі, якія дадуць даследчыку дадатковую інфармацыю. У афіцыйным справаводстве існавала практыка захавання канвертаў і далучэння іх да справы.

Да пачатку 1830-х гг. асноўнай прыладай пісьма на беларускіх землях, як і раней, заставалася птушынае пяро. Металічныя пер'і першапачатково ўжываліся для нанясення надпісаў і малюнкаў на літаграфскім каменю. Дзякуючы вынаходніцтву ў 1798 г. гэтага спосабу стварэння малюнка, з'явілася магчымасць павялічыць колькасць і якасць ілюстрацый у выданнях,

узрасло распаўсюджанне графічных лістоў, якія цяпер рабіліся з дапамогай літаграфіі. У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. металічнае пяро пачало ўжывацца для пісання на паперы. Спачатку яно выглядала гэтаксама, як і птушынае і цалкам рабілася з металу. Гэта пазбаўляла яго гнуткасці і не дазваляла набіраць многа чарнілаў. У канцы 1820-х гадоў у Англіі зрабілі новую адмену гэтай прылады пісьма, надаўшы металічным пер'ям сучасны выгляд. Пяро стала больш эластычным, цяпер металічныя пер'і насаджваліся на драўляную ці касцяную ручку, якая была лягчэйшая за металічную трубку. На Беларусі металічныя пер'і з'яўляюцца амаль адначасова з іх удасканаленнем у Англіі. Гэта былі імпартаваныя, часцей за ўсё, англійскія пер'і. Пераход да новай прылады пісьма ад птушынага пяра быў даволі працяглым. Яшчэ ў канцы 1860-х гадоў у беларускіх мясцечках часцей ужывалі птушыныя пер'і замест металічных. Гусінае пяро рэкамендавалі і падручнікі па навуцы пісання для пачынаючых, каб выпрацаваць больш дасканалы почырк. Пераход да металічных пер'яў значна палегчыў працэс пісьма, почыркі сталі больш разнастайныя і індывідуалізаваныя.

Напісанае металічным пяром даволі лёгка адрозніць ад запісу птушыным – яно пакідае на паперы барозначкі вакол літары, якія можна ўбачыць пры павелічэнні напісанага. Такім чынам, ужыванне металічнага пяра служыць нядрэннай палеаграфічнай прыкметай. Час увядзення яго ва ўжытак можа служыць ніжняй храналагічнай мяжой датавання рукапісу.

Акрамя пер'яў у гэты час актыўна ўжываўся аловак. Апрача чорных, ахвотна выкарыстоўвалі і каляровыя алоўкі, найперш, чырвоныя і сінія. Аловак становіцца папулярнай прыладай пісьма ў справаводстве: на дакументах алоўкам пісалі рэзалюцыі, рабілі заўвагі на палях, рэдактарскія праўкі тэксту. Чырвоны аловак быў звыклай прыладай пісьма для цэнзараў. Асабліва папулярным аловак стаў у другой чвэрці XIX ст. Мода гэта ўзнікла з прычыны частага выкарыстання алоўка Мікалаем I. Надпісы алоўкам захоўваюцца значна горш, чым напісаныя чарніламі. Царскія аўтографы і запісы, зробленыя вышэйшымі саноўнікамі імперыі, для лепшага захавання пакрываліся спецыяльным лакам.

У другой палове XIX ст. з'яўляюцца новыя прылады пісьма, якія павінны былі паскорыць пісанне і зрабіць яго больш зручным. Гэта, найперш, так званая «вечная» або «самаструйная» ручка, «самапіска». Такія ручкі рабілі з рэзервуарам для чарнілаў. Гэты прынцып выкарыстоўваецца да сёняшняга дня. Напісанае "самапіскай" можна адрозніць па больш роўнаму размяркаванню чарнілаў: пісар не павінен быў цяпер што хвіліну мачаць пяро, з-за чаго насычанасць колеру напісаных літар змянялася. У канцы стагоддзя з'яўляюцца першыя пішучыя машынкі, якія ў пачатку XX ст. паступова выціскаюць пер'і ў дзяржаўным справаводстве. XX ст. прынесла значнае павелічэнне прылад пісьма – шарыкавая ручка, прыдуманая ў 1938 г. венграм Біро, фламастары, тонкапісы і г.д.

Крыніцы XVIII-XIX стст. данеслі да нас шмат рэцэптаў чарнілаў, якія выкарыстоўваліся ў канцылярыях і ў побыце. Інгрыдыенты для іх былі надзвычай разнастайныя, але большасць базавалася на чарнільных арэшках.

Адзін з такіх рэцэптаў прыводзіць у сваёй кнізе «Літоўская гаспадыня» Г.Цюндзявіцкая: «Чарнільнага арэшку, як мага драбней патоўчанага, бяруць дзьве меркі, купарвасу, асобна здробненага, адну мерку, гарэлкі столькі ж. Усё трымаць у цяпле і часта боўтаць.» Адначасова існавалі і чарнілы фабрычнай вытворчасці. Пісары, якія мелі вялікі вопыт працы з разнастайнымі гатункамі чарнілаў, часам умелі не толькі сцерці, саскрэбсці ці злізаць пасаджаную кляксу ці памылку, але і аднавіць стары выцвілы тэкст. Гэта дасягалася з дапамогай цыбулі, чарнільных арэшкаў і іншых рэчываў, якія ўступалі са старымі чарніламі ў хімічную рэакцыю і рабілі іх больш яркімі. Сёння з дапамогай сучаснай тэхнікі можна не толькі аднавіць выцвілыя чарнільныя надпісы, але закрэсленыя і нават наўмысна залітыя чарніламі словы і знакі на паперы.

***Графіка пісьма*** Графіка кірылічнага пісьма, якая стала ўжывацца на Беларусі пасля падзелаў Рэчы Паспалітай, была вынікам доўгага працэса перахода на грамадзянскі шрыфт ад скорапісу XVII ст, які адбываўся ў Расійскай імперыі. Грамадзянскі шрыфт быў уведзены рэформай Петра I у 1710 г. Хутчэй за ўсё, узорам для новага напісання літар кірылічнага алфавіта была лацінская анціква – вельмі выразны і лаканічны шрыфт, які ўжываўся еўрапейскімі друкарнямі з часоў Ренесанса. Рэформа 1710 г. выключала з алфавіта «юсы», «псі», «от», хаця першапачаткова Пётр I планаваў паменшыць кірылічны алфавіт яшчэ на пяць літар – «ксі», «іжыцу», «ферт», «іжа», «зямлю». Гэтай жа рэформай былі ўведзены арабскія лічбы замест былых кірылічных лічбаў-літар.

Наступная рэформа алфавіта была рэалізавана ў 1735 г. Па рэкамендацыі Акадэміі Навук з яго былі выключаны «ксі», «зяло», «іжыца». У 1738 г. праведзена былю унармаванне выкарыстання «іжэ» і «і дзесятарычнага». Апошняя літара пісалася пасля галосных і перад «й», а таксама ў слове «мір», калі яно ўжывалася ў сэнсе «сусвет». Ужыванне знакаў прыпынку было ўнармавана М.Ламаносавым у яго «Российской граматике», якая ўбачыла свет у 1855 г. У 1758 г. вярнулася ва ўжытак «іжыца». У другой чвэрці XVIII у пісьме замацаваліся літары «ё», «э» і «й».

Але пераход да новых правілаў пісьма не быў раптоўны, а зацягнуўся на некалькі дзесяцігоддзяў. Даследчыкі вылучаюць у гэтым пераходным працэсе тры этапы. У першай чвэрці XVIII ст. назіраецца спалучэнне новых прынцыпаў пісьма са старымі традыцыямі, пры тым апошнія часцей пераважаюць, што асабліва адчувалася ў правінцыі. Гэта адбівалася на выкарыстанні тытлаў, вынасных літар, неўпарадкаваным ужываннем вялікіх літар і г.д. Нават сам Пётр I падпісваў свае імя з ужываннем цітлы і пропускам літары «есць». У другой чвэрці стагоддзя колькасць старых прыёмаў пісьма значна памяншаецца, назіраецца тэндэнцыя да спрашчэння дукту, лігатуры, якія яшчэ сустракаюцца на пісьме, становяцца простымі, радковымі. Адбываецца адыход ад размашыстага напісання літар, амаль не ўжываюцца ўзмёты. У другой палове XVIII ст. графіка літар становіцца простай, набліжанай да сучаснай, амаль не ўжываюцца вынасныя літары. Пісьмо развіваецца ў бок звязнага напісання літар у радку, словы выразна

аддзяляюцца. У гэтым выглядзе расійскае кірылічнае пісьмо прыходзіць на Беларусь у канцы XVIII ст.

Развіццё бюракратыі ў Расійскай імперыі прывяло да неабходнасці стандартызацыі почыркаў. Пісар павінен быў мець разборлівы, акуратны і прыгожы почырк. У 1780-я гг. з'явіліся пропісы і падручнікі пісьма, якія выкарыстоўваліся ў навучальных установах. Пісар у гэты час выконваў, галоўным чынам, функцыі перапісчыка, які не звяртаў увагі на змест тэксту, а дбаў аб каліграфічнасці і чысціні пісьма. Прыгадаем у гэтай сувязі вядомую аповесць Ю.Тынянава «Подпоручик Киже», у якой пісарская недбайнасць прывяла да ўзнікнення міфічнай асобы падпаручыка Кіжэ. Стандартызацыя літар і манеры пісьма прывяла да фармавання двух гатункаў пісьма – квадратнага акадэмічнага і круглага канцылярскага (ронда). Затым у першай палове XIX ст. канцылярскае пісьмо развіваецца ў тры галоўных тыпа – т.зв. нямецкі, ангельскі і французскі. Нямецкі почырк адрозніваўся прастатой, тут адсутнічалі ўзмахі, літары пісаліся без нахілаў, як правіла, пераважала вастраканечнасць у іх абрысах. Вялікія літары ў нямецкім почырку пісаліся з ўпрыгожваннямі накшталт вензеляў. Гэты тып пісьма сустракаўся дастаткова рэдка, так пісалі асобы, звязаныя з адукацыяй і навукай. Другі тып почыркаў – ангельскі, быў вельмі дробным, круглым, без завітушак і хвастоў, роўны і без націскаў. Гэты тып почырку лёгка чытаецца. Французскае пісьмо часам называлі «міністэрскім» – яно мае тры адмены, якія, дарэчы, характэрныя для французскага лацінскага пісьма XVIII ст. – ронда, бастард і кулэ. З іх найдаўжэй ужываўся ронда – круглы, роўны, звязаны, без завітушак і націскаў, сярэдняй велічыні. Нават калі ва ўжытку ўжо былі пішучыя машынкі, гэты почырк ужываўся ў справаводстве ваенных ведамстваў, дзе яшчэ ў час Першай сусветнай вайны працавалі пісары.



Экстраординарный Профессоръ С. Петербургскаго Университета Поповъ ... по мнѣ каталогъ дублетовъ и классическихъ книгъ, бывшей Полоцкой ... библіотеки, отобранныхъ имъ для Бѣлорусскихъ Гимназій изъ числа книгъ, предназначенныхъ С. Петербургскому Университету.

**Узоры почыркаў ; т.зв. «міністэрскі» почырк 1830 г.; адмена «французскага» почырка ў лісце радунскага дэкана кс. Станкевіча, 1877 г.**

У XIX ст. у мастацкую літаратуру, публіцыстыку і навуку паступова вяртаецца беларуская мова, запісаная кірылічным алфавітам. У першай палове XIX ст. для беларускай мовы, як і раней, звычайнай была лацінская графіка пісьма. Менавіта на лацінцы былі напісаны творы В.Дуніна-Марцінкевіча, «Мужыцкая праўда» К.Каліноўскага, многія ананімныя вершы і іншыя беларускія творы і выданні. Аднак выкарыстанне «лацінкі» для друкавання твораў на беларускай мове, якую расійская афіцыйная і афіцыёзная думка лічыла дыялектам рускай, ці часцей, сапсаванай рускай мовай, было забаронена ў 1856 г. У гэты ж час робяцца спробы перавесці на кірыліцу і польскую мову, аднак гэтая ініцыятыва афіцыёзна настаўленага каталіцкага святарства не дала плёну. З сярэдзіны XIX ст. кірыліца становіцца адзіным дазволеным у Расійскай імперыі алфавітам для перадачы рускай, беларускай і ўкраінскай мовы. Творы, напісаныя лацінкай, маглі цяпер друкавацца толькі за мяжой (узгадаем паэтычныя зборнікі Ф.Багушэвіча, выдадзеныя за межамі імперыі лацінкай). Афіцыйна прыняты ў Імперыі кірылічны алфавіт не мог перадаць некаторыя асаблівасці беларускай мовы. Як правіла, не перадаваліся аканне, дзеканне, гук «у нескладовае» і інш. У другой палове стагоддзя рабіліся спробы паправіць гэтую сітуацыю. Так, у 1881 г. у адным з пазацэнзурных выданняў прапанавалася ўжываць лацінскую літару«j» для паказа ётаваных галосных (jаго, jон, тоjе), гук «ы» паказваць графемай «и» і г.д. У пачатку XX ст. пачалася актыўная работа па прыстасаванню кірыліцы да перадачы гукаў беларускай мовы, ужо пасля рэвалюцыі 1905-1907 г. ва ўжытак дастаткова трывала ўвайшлі «ў», «і» для перадачы адпаведнага гука і г.д. Працэс фармавання і ўмацавання беларускага варыянта кірылічнага алфавіта завершыўся ў 1930-я гг. Але паралельна з кірыліцай і па сёняшні дзень, асабліва ў беларускай дыяспары, для перадачы беларускай мовы выкарыстоўваецца і лацінскі алфавіт.

# Заключэнне

Палеаграфія – навука, якая ўвесь час развіваецца. Новыя тэхналогіі даюць даследчыкам-палеографам перадавыя методыкі вывучэння знешніх прыкмет рукапісаў, высвятлення іх паходжання і гісторыі ўзнікнення. Развіваецца і сама сістэма захавання інфармацыі. Сёння зусім па-іншаму, чым яшчэ поўстагоддзя назад, выглядаюць не толькі інструментарый палеографа, але і магчымасці публікацыі дакумента. Дзякуючы ўзнікненню новых матэрыялаў і прылад пісьма значна змянілася і поле дзеяння неаграфіі.

Веданне асноваў палеаграфіі дае магчымасць даследчыку прачытаць дакумент, а часам і атрыбуцьраваць яго па знешнім прыкметам, акрэсліць ступень яго сапраўднасці. У працы гісторыка навыкі палеаграфічнага даследавання з'яўляюцца запатрабаванымі не толькі з гэтай прычыны. Авалодваючы ўменнем даследваць знешнія прыкметы рукапісаў, гісторык вучыцца ўважліва ставіцца да дакумента, не пакідаць па-за абсягам аналізу дэталі, якія часам могуць істотна паўплываць на вынік даследавання.

Беларуская палеаграфія, маючы працяглую гісторыю, яшчэ чакае грунтоўнага даследавання шмат якіх праблем. Пакуль што не даследавана з палеаграфічнага пункту гледжання беларуская ліцінка, недастаткова вывучана беларуская арабіка, патрабуе грунтоўнага вывучэння і беларускі кірылічны скарапіс, айчынная філіграналогія, крыптаграфія; іншыя складовыя часткі палеаграфічнай навукі чакаюць сваіх даследчыкаў. Беларускаяф мінуўшчына пакінула нам багатую рукапісную спадчыну. Многія тысячы дакументаў розных эпох уводзяцца штогод у навуковы зварот, але яшчэ многія тысячы чакаюць у архівах, музеях, у прыватных зборах сваіх гісторыкаў і палеографаў. Усё гэта – поле дзеянняў для тых, хто авалодаў асновамі палеаграфічнага вывучэння дакументаў і хоча далей працаваць у рэчашчы гэтай навукі.

# Літаратура


1. Антонович, А.К. Белорусские тексты, писанные арабским письмом, их графико-орфографическая система./ А.К.Антонович – Вильнюс, 1968.
2. Арциховский, А.В. Древнерусские миниатюры как исторический источник. / А.В. Арциховский – М., 1944.
3. Гераклитов, А.А. Филиграни XVII века на бумаге рукописных и печатных документов русского происхождения./ А.А. Гераклитов. – М., 1963.
4. Громов, Д.В., Бычков, А.А. Славянская руническая письменность. Факты и домыслы. /Д.В. Громов, А.А. Бычков / – М., 2005.
5. Груша, А.І. Беларуская кірылічная палеаграфія. Вучэбны дапаможнік. / А.І. Груша– Мінск., 2006.
6. Дирингер, Д. Алфавит./ Д. Дирингер – М.,1963.
7. История письма в средние века: Руководство к изучению латинской палеографии / О.А. Добиаш-Рождественская – М., 1987.
8. Жуковская, Л.П. Развитие славяно-русской палеографии./ Л.П. Жуковская – М., 1963.
9. Зайкоўскі, Э. Калі на Беларусі з'явілася пісьмо? /Э. Зайкоўскі // Голас Радзімы., 2004, № 30-33. – с.11.
10. Запаско, Я.П. Орнаментальне оформлення української рукописної книги/Я.П. Запаско. – Київ., 1960.
11. Ильина Т.В. Декоративное оформление древнерусских книг. Новгород и Псков. XII-XV вв. – Л.,1978.
12. Истрин, В.А. 1100 лет славянской азбуки/ В.А. Истрин. – М.,1963.
13. Истрин В.А. Возникновение и развитие письма. / В.А. Истрин – М., 1963.
14. Карский Е.Ф. Славянская кирилловская палеография./ Е.Ф. Карский– М., 1970.
15. Киселева, Л.И. Готический курсив XIII-XVвв./ Л.И. Киселева – Л., 1974.
16. Киселева, Л.И. Западноевропейская рукописная и печатная книга XIV- XV вв.: Кодикологический и книговедческий аспекты. /Л.И.Киселева - Л., 1985.
17. Кісь, Я.П. Палеографія. /Я.П. Кісь – Л ьвів, 1975.
18. Клепиков, С.А. Филиграни и штемпели на бумаге русского и иностранного производства XVII-XX в./ С.А Клепиков. – М., 1954.
19. Костюхина ,Л.М. Книжное письмо в России в XVII в. / Л.М. Костюхина– М., 1974.
20. Криль, М. Основи палеографії / М Криль. – Кіїв, 1995.
21. Куль-Сяльверстава, С.Я. Беларуская палеаграфія./С.Я.Куль-Сяльверстава – Гродна, 1996-

22. Куль-Сяльверстава, С.Я. Гістарычная храналогія. Практыкум для студэнтаў гістарычных спецыяльнасцяў/ С.Я.Куль-сяльверстава – Гродна, 2009.
23. Леонтьева, Г.А. Палеография, хронология, археография, геральдика. Практическое пособие для вузов. / Г.А. Леонтьева– М.,2000.
24. Леонтьева, Г.А., Шорин, П.А., Кобрин, В.Б. Ключи к тайнам Клио. Палеография, метрология, хронология, геральдика, нумизматика, ономастика, генеалогия./ Г.А. Леонтьева, П.А. Шорин, В.Б Кобрин. – М.,1994.
25. Лоукотка, Ч. Развитие письма./ Ч.Лоукотка – М., 1950.
26. Люблинская, В.С. Латинская палеография./ В.С. Люблинская– М., 1975.
27. Мацюк, О.Я. Папір та філіграні на українских землях (XIV-початок XV ст.) / О.Я Мацюк.– Кіїв., 1974.
28. Мельникова, Е.А. Скандинавские рунические надписи./ Е.А. Мельникова – М., 2001.
29. Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых крыніц у Беларусі (XIII-XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага)/ Аўт.-склад. А.І.Груша – Мінск.:БелНДІАС, 2003.
30. Методические рекомендации по изданию и описанию Литовской метрики./Сост. А.Л.Хорошкевич, С.М.Каштанов. – Вильнюс, 1985.
31. Метрыка Вялікага княства Літоўскага: Кніга 44: Кніга запісаў 44 (1559-1566)/Падрыхт. А.І.Груша – Мінск: Арты-Фэкс. 2001.
32. Мова беларускай пісьменнасці XIV- XVIII стст./ А.М.Булыка і інш. – Мінск., 1988.
33. Морозова, Л.Е.. Опыт определения авторства рукописей XVI в. по почерку./ Л.Е Морозова.// История и палеография. Сборник статей. – М.: РАН, 1993 – с.140-175.
34. Нікалаеў, М. Палата кнігапісная. Рукапісная кніга на Беларусі ў X-XVIII стст./ М.Нікалаеў –Мінск, 1993.
35. Павленко, Н.А. История письма./ Н.А.Павленко - Минск.,1987.
36. Палеографический альбом. Учебный сборник с рукописей русских документов XIII-XVIII вв. – Л., 1968.
37. Панашенко, В. Палеографія українського скоропису другої половини XVIII ст./ В.Панашенко - Кіїв, 1974.
38. Пронштейн, А.П. Использование вспомогательных дисциплин при работе над историческими источниками./ А.П.Пронштейн – М.,1972.
39. Пронштейн, А.П. Овчинникова, В.С. Развитие графики кирилловского письма. / А.П.Пронштейн, В.С. Овчинникова– Ростов, 1987.
40. Пронштейн, А.П. Методика исторического источниковедения./ А.П.Пронштейн - Ростов, 1976.
41. Рейсер, С.А. Палеография и текстология нового времени/ С.А. Рейсер– М.,1970.

42. Рейсер, С.А. Русская палеография нового времени. / С.А. Рейсер – М., 1982.
43. Серяков, М.Л. Русская дохристианская письменность./ М.Л. Серяков – СПб, 1997.
44. Сюзюмов, М.Я. Вспомогательные исторические дисциплины./ М.Я. Сюзюмов – Свердловск, 1974.-Сб.1.
45. Тихомиров, М.Н., Муравьев, А.В. Русская палеография./ М.Н. Тихомиров, А.В. Муравьев – М, 1962.
46. Черепнин, В.Л. Русская палеография. / В.Л. Черепнин – М.,1956.
47. Чудинов, В.А. Загадки славянской письменности./ В.А. Чудинов– М., 2002.
48. Шумейко, М.Ф. Белорусская археография в XIX-XX вв.(проблемы теории, истории, методики/ М.Ф. Шумейко – Минск, 2007.
49. Щепкин, В.Н. Учебник русской палеографии/ В.Н. Щепкин – М, 1967.
50. Янин, В.Л. Берестяная почта столетий/ В.Л. Янин– М.,1979.
51. Янин, В.Л.Очерки комплексного источниковедения / В.Л. Янин – М.,1977.
52. Briquet, C. Les filigranes. Dictionaire historiqe des marques du papier dès leur apparation vers 1282 jusqu'en 1600. 4 v. / C.Briquet - Gènève, 1907.
53. Encyklopedia nauk pomocniczych historii. – Kraków, 1999.
54. Gieysztor, A. Zarys dziejòw pisma lacińskiego/ A.Gieysztor – Warszawa, 1973.
55. Lapicz, Cz. Kitab tatarow litewsko-polskich (paleografia, grafia, jezyk) / Cz. Lapicz – Torun, 1986
56. Laucevicus, E. Popierius Letuvoje XV-XVIII a. /Laucevicus E. – Vilnius, 1967.
57. Piekosiński, F. Średniowieczne znaki wodne, zebrane z rękopisów w archiwach i bibliotekach polskich głównie krakowskich z XIV w./ F. Piekosiński - Kraków, 1893.
58. Piekosiński, F. Wybór znaków wodnych średniowiecznych./ F. Piekosiński – Kraków, 1896
59. Semkowicz, W. Paleografia łacińska. – wyd. II, poprawione/ W.Semkowicz - Kraków, 2002.
60. Siniarska-Czaplicka, J. Filigrany papierni położonych na obszarze Rzeczypospolitej Polskiej od XVI do połowy XVIII wieku./ J. Siniarska-Czaplicka - Wroclaw-Warszawa-Kraków, 1959.
61. Szymański, J. Nauki Pomocnicze Historii./ J. Szymański – Warszawa, 2004.

# ДАДАТКІ

## Дадатак 1. Метадычныя рэкамендацыі па апісанню рукапісаў

**1.1 Параметры апісання рукапісу** (паводле А.І.Грушы)

1. адзначэнне месца захавання рукапісу
2. апісанне і датаванне пераплёту
3. адзначэнне агульнай колькасці аркушаў рукапісу
4. адзначэнне фармату рукапісу
5. адзначэнне матэрыялу рукапісу
6. агульная характарыстыка стану захаванасці рукапісу
7. адзначэнне структуры рукапісу
8. апісанне арганізацыі старонкі
9. апісанне пісьма і адзначэнне почыркаў
10. апісанне малюнкаў і адзначэнне вязі
11. адзначэнне і характарыстыка нумерацыі сшыткаў
12. адзначэнне і характарыстыка нумерацыі дакументаў
13. адзначэнне запісаў, якія маюць адносіны да гісторыі рукапісу ў цэлым.

(Метадычныя рэкамендацыі па публікацыі рукапісных актавых крыніц у Беларусі (XIII-XVIII стст., перыяд Вялікага княства Літоўскага)/ Аўт.-склад. А.І.Груша – Мн.:БелНДІАС – с.8).

**1.2 Апісанне пераплёту** (паводле А.І.Грушы)

1. Аўтэнтычнасць – ці з'яўляецца першапачатковым.
2. Тып і дата пераплёту.
3. Матэрыял, канфігурацыя і памеры.
4. Канструкцыйны тып пакрыцця пераплёту і яго матэрыял.
5. Функцыянальныя і дадатковыя элементы афармлення пераплёту, віды аздаблення.
6. Надпісы, наклейкі, ярлыкі і інш.
7. Памеры і канфігурацыя кніжнага блоку.

***Прыклад апісання пераплёту***

Апісанне пераплёту Лаўрышаўскага Евангелля.

Аснова яго зроблена з дошак, абцягнутых малінавым аксамітам (240Х335 мм). На верхняй дошцы – чатыры навугольнікі, замацаваны кожны двума цвікамі, у цэнтры – вялікая пяцікантовая планкетка ў выглядзе каплічкі з востраканцовым дахам, з выразаным усярэдзіне абразом святога ў плашчы, які трымае шчыт і дзіду.(…)

На навугольніках і планкетцы замацаваны чатырнаццаць каштоўных камянёў (біруза, смарагды, рубіны) На ніжняй дошцы пераплёту цвічкамі прыбіты чатырохканцовы срэбны крыж, на якім выгравіравана сцэна ўкрыжавання. Ісус Хрыстос паказаны з німбам, на крыжы сяміканцовай

формы, побач – прылады катавання – губка і трысціна (справа) і дзіда (злева), уверсе ў выглядзе птушкі, якая спускаецца, паказаны Святы Дух. Усе малюнкі, уключаючы губку, трысціну і дзіду, надпісаны почыркам, блізкім па палеаграфіі да беларускага скарапісу XV- пачатку XVI стст. (…) Калі мець на ўвазе датаванне абклада Лаўрышаўскага евангелля пачаткам XVI ст, а такая дата ўяўляецца найбольш верагоднай, то можна дапусціць, што раскошны абклад быў зроблены з нагоды кананізацыі Войшалка-Елісея.
(Нікалаеў М. Палата кнігапісная. Рукапісная кніга на Беларусі ў X-XVIII стст – Мн, 1993. – с.134).

**Параметры апісання почырка** ( паводле Л.Марозавай)

1. Выпрацаванасць – ступень выразнасці і зграбнасці.
2. Тып – адпаведнасць тыпу пісьма, колькасць адхіленняў.
3. Варыянтнасць – колькасць варыянтаў напісання асобнай літары.
4. Вычварнасць – наяўнасць ініцыялаў, лігатур, адмысловых форм напісання асобных літар.
5. Нахіл – ці устойлівы, у які бок, наколькі моцны.
6. Разгон – адлегласць паміж літарамі і словамі.
7. Тэмп пісьма – колькасць літар, выкананых адным рухам.
8. Вышыня тэксту – колькасць радкоў і памер ліста..
9. Шырыня тэксту.
10. Памер літар.

***Прыклад апісання почырка.***

Асноўныя характарыстыкі почырка, якім напісана «Сказание» - прадмова да «Паслання шматслоўнага» Зіновія Оценскага. XVI ст.

1. Выпрацаванасць – Почырк выпрацаваны, прыгожы, выразны і зграбны. Дакладны прамы радок, аднорлькавы памер літар, але лініі Галоўным чынам, не прамыя ці акруглыя, а звілістыя, У цэлым літары некалькі выцягнутыя.
1. Тып – Паўустаў з невялікай колькасцю скарапісных элементаў: вынасных літар не больш 8 на старонку (усіх іх 14). 7 літар сустракаюцца ў скарапісных варыянтах: а, в, і, т, у, ь, ъ; але часцей яны напісаны ў паўустаўных, чым скарапісных. Усё гэта сведчыць аб незначных адхіленнях ад тыпа почырка.
2. Варыянтнасць – Варыянтнасць напісання асобных літар невялікая. Апрача згаданых 7 літар, у скарапісных варыянтах часам напісаны яшчэ 6 літар; у двух паўўстаўных варыянтах сустракаюцца літары : е, н, з, ѡ, ѕ, в. Усе варыянты напісання літар ужываюцца для ўпрыгожвання тэксту.
3. Вычварнасць – У почырку можна адзначыць некаторыя элементы вычварнасці: доўгія адкрэсліванні, хвасты, вялікія ініцыялы з высокімі

выгнутымі элементамі, падкрэслена моцны націск і валасяныя рыскі. Усё гэта надае почырку акрэсленую прыгажосць.

4. Нахіл – Літары ў большасці стаяць проста.
5. Разгон – Прамежкі паміж літарамі розныя – ад 1 мм да 3 мм. Паміж сказамі адлегласць 6-8 мм. Кропка – унізе радка.
6. Тэмп пісьма – Сярэдні. 14 літар выкананы адным рухам пяра, са скарочанай колькасцю рухаў – дзьве – ш, щ. ( Адным рухам выкананы : ь, а, в, з, е, м, о, с, р, т, у, ч, ѡ,ъ).
7. Вышыня тэксту – Вышыня рукапісу 20 см, вышыня тэксту – 13,3 см, вышыня радка – 2,5-3 мм, адлегласць паміж радкамі – 6 мм.
8. Шырыня тэксту. – Шырыня рукапісу 14,8 см, шырыня тэксту – 9 см. У радку 20-24 літары. Месца для адной літары ў сярэднім роўна 0,40 мм.
9. Памер літар – Вышыня ў сярэднім 2,5 мм, шырыня меньш ( у сярэднім 2,2 мм), мачты і хвасты доўгія – даўжэй, чым літары ў радку, займаюць вялікшую частку міжрадковай прасторы.

**Фрагмент «Паслання шматслоўнага» Зіновія Оценскага. XVI ст.**



(Морозова Л.Е.. Опыт определения авторства рукописей XVI в. по почерку// История и палеография. Сброник статей. – М.: РАН, 1993 – с.156-157.)

## Дадатак 2. Чытанне і аналіз палеаграфічных тэкстаў

№ 1. Фрагмент тэксту “Ізборніка Святаслава” 1076 г.

Выкарыстаны рэгулязаваны ўстаў. Характэрныя прыкметы пісьма: літары параўнальна вялікія, маюць геаметрычна правільныя абрысы, сіметрычныя і прапарцыянальныя. Словы ў радку не вылучаюцца. Большасць літар напісана ў радку, за радок выходзяць толькі хвасты літар *щ, р, з, х*. Пісар выкарыстоўвае “юсы”. Характэрная палеаграфічная прыкмета – напісанне літар *и* , *н*: першая пішацца з гарызантальнай перакладзінай, другая – з дыяганальнай злева направа. Пісар не ўжывае лігатур, рэдка выкарыстоўвае скарачэнні. Апошнія пазначаюцца тытлай.

Чытанне тэксту.

Тэкст перадаецца лўтара ў літару. Словы вылучаюцца. Захоўваюцца літары, якіх сёння няма ў беларускім алфавіце – **Ѩ И Ѧ Ѳ Ъ Ѣ Щ**. Пропускі літар у словах пад тытлай раскрываюцца і пішуцца ў круглых дужках. Знакі прыпынку – як у арыгінале.

Аще достоит за ню приносити просфоры и милостынѧ творити. И повелѣне бысть м(а)т(е)ри ѥꙗ творити вьсѧ за ню. Ѩко же и о том с(вя)таго аѳанасиꙗ въпросиша о покаꙗвъшиихсѧ . и напрасно ъумъръшиихъ. И отъвѣща ѧко иже каꙗтисѧ въ ч(е)л(ове)цѣ ѥсть. и ѥже умрѣти и жити въ бозѣ ѥсть. и готовъ акы …

Тэкст друкуецца па: Пронштейн А.П., Овчинников В.С. Развитие графики кирилловского письма. – Ростов, 1987 – с.81.

№2. Фрагменты Астрамірава евангелля 1056-157 гг.

Для напісання тэксту выкарыстаны ўстаў, ужываюцца старажытнаславянская мова для ўласна евангелля і старажытнаруская для дадатка, у якім падаюцца звесткі аб перапісчыку і заказчыку рукапісу.

Чытанне тэксту.

Ч(е)л(ове)че не вѣмь ѥже гл(агол)еши. И абиѥ еще гл(агол)ѭщу ѥму възгласи куръ и обращъсѧ г(оспод)ь възрѣ на Петра и помѧнѫ Петр слово г(оспод)нѥ ꙗко же рече ѥму. Ѩко прѣжде даже невъзгласить куръ. три краты отъврьжешисѧ мене и ішьдь вънъ плакасѧ горько. И мѫжи дрьжѧще Иі(с)уса рѫгаахѫсѧ ѥм биѭще и закрывъше

Заданне

Прачытайце рэшту тэксту. Знайдзіце найбольш характэрныя прыкметы устаўнога пісьма.

Тэкст друкуецца па: Сборник снимков с русского письма XII-XVIII вв. Изд. 2-е/ Под ред. И.Ф.Колесникова.- М.,1913 – С.1; Криль М. Основи палеографії – Кіїв, 1995 - с.132.

№ 3 Грамата вялікага кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча і яго сына Усевалада Ноўгарадскага Юр'еву манастыру.

Грамата з'яўляецца адным з найбольш ранніх вядомых даследчыкам помнікаў актавага характару, створаным у 1130-1132 гг.

Заданне Акрэсліце тып пісьма. Ахарактэрызуйце почырк аўтара дакумента, выявіце характэрныя прыкметы почырка.

Пачатак тэксту: Се азъ Мъстиславъ Володимиръ с(ы)нъ дьржа русъку землю въ своѥ кнѧжениѥ повелъл ѥсмъ с(ы)ну своѥму Всеволоду ѡтдати...
Тэкст друкуецца па: Леонтьева Г.А. Палеография, хронология, археография, геральдика. Практическое пособие для вузов. – М.,2000. - с.68.

№ 4 Фрагмент тэксту Статуту Студыйскага, напісаны ў XII-XIII стст.

Статут быў складзены для манастыра Фёдара Студыта ў Канстантынопалі, з XI ст. быў прыняты як узор статута для манастыроў старажытнай Русі. Застаўка і ініцыялы – з элементамі тэраталагічнага стылю.

Заданне

Прачытайце тэкст, зрабіце яго транслітэрацыю і палеаграфічнае апісанне.

Пачатак тэксту:

Уставьникъ расматрѩѭ О брашьнѣ же и о пит ии мнихом(ъ )

Тэкст друкуецца па: Тихомиров М.Н., Муравьев А.В. Русская палеография. – М., 1982 – С.67-68; Криль М. Основи палеографії – Кіїв, 1995 – с.137.

№ 5. Фрагмент Усцюжскай кормчай (зборніка законаў) канца XIII-XIV стст.

Прадстаўлена частка „Закона суднага людзям”, які змешчаны ва Усцюжскай кормчай.

Заданне.

Прачытайце тэкст, зрабіце яго транслітэрацыю і палеаграфічнае апісанне.

Пачатак тэксту: С(вя)тыи Ко(н)стантинъ пьрвыи законъ вписавъ

Пьря – спрэчка, нязгода

Послусі – сведкі

Тэкст друкуецца па: Тихомиров М.Н., Муравьев А.В. Русская палеография. – М., 1982 – С.68, 92.

№ 6. Фрагмент з «Апостала», 1220 г.
Для напісання тэксту выкарыстаны поздні ўстаў. Характэрнымі з'яўляюцца напісанне літары «и» у выглядзе сёняшнега «н»; літары «н» у выглядзе лацінскай N»; літары «ч» у выглядзе чашы. На поздні характар устава ўказвае напісанне “юсаў”, у якіх злучэнне дзьвюх частак літары знахлдзіцца ўверсе, парушэнне прапарцыянальнасці ў літар «б», «к», «з». Характэрнымі для ўстаўнога пісьма зя'ляюцца і ініцыялы. На старонцы маецца маргінальны запіс, які зроблены з выкарыстаннем тытлаў.
Заданне: Прачытайце тэкст. Знайдзіце характэрныя прыкметы поздняга ўстава апрача тых, якія названыя ў прыведзенай характарыстыцы пісьма.
Пачатак тэксту:
Написаниѥ коринфискыꙗ ѥпистолиꙗ ѡ*т* Филиппъ…
Тэкст друкуецца па: Криль М. Основи палеографії – Кіїв, 1995, с.138.

№ 7. Духоўная грамата (тэстамент) вялікага князя Сямёна Іванавіча. 1353 г.

Рукапіс напісаны паўуставам. Складальнік тэстаменту ўжыў некалькі выразаў, прынятых у той час для гэтага тыпу дакументаў: «се аз» («гэта я»), «при своем животе целым своим умом» і інш. Рукапіс захаваўся не цалкам, частка тэксту страчана, што ўскладняе чытанне. Характэрнай асаблівасцю пісьма з’яўляецца выкарыстанне розных варыянтаў напісання літар, часцей за ўсё ўтвораных шляхам скарачэння асобных іх элементаў – «ж» – без верхняй часткі, «в» -без вертыкальнай рыскі і інш. Ужываючы скарачэнні слоў, пісар не заўсёды пазначаў іх тытламі. Пісьмо няроўнае, пазбаўленае каліграфічнасці кніжнага паўўстава. Літары стаяць паасобку, «л», «т», «д» могуць быць вынаснымі. На месца стварэння рукапісу можа ўказваць напісанне «е» ў выглядзе катвіцы, што было характэрна для маскоўскага пісьма. Згаданыя асаблівасці, а таксама арфаграфічныя памылкі ў тэксце, апрача іншага, могуць сведчыць аб нязвыкласці аўтара рукапісу да пісання.

Чытанне тэкста.
Тэкст перадаецца літара ў літару. Захоўваюцца літары, якіх сёння няма ў беларускім алфавіце. Страчаныя фрагменты па магчымасці адноўлены. Вынасныя літары пішуцца курсівам. Скарачэнні раскрываюцца і пішуцца ў круглых дужках.

Во имѧ о(т)ца и с(ы)на и с(вя)т(о)го д(у)ха. Се ѩз худыи и грѣшныи раб б(о)жи Сазонтъ при своемь животѣ цѣлымъ своимъ умом пишу грамоту д(у)шевную. Даю рѧдъ своѥ кнѧгинѣ. Велѣл есми у не(е) выти своему дѧде

Василью а по б(о)зѣ приказываю всеи (б)ра(т)ѣ кнѧ(зю) Ивану Ан(др)ѣю свою кнѧгину и своего …и свои боѧре положилъ есмь на б(о)зѣ и на вана свое… (я)ко имете блюсти по нашему доконьчанью како т…(це)ловали кр(е)*ст*ъ у от(чи)ня гроба. А чим мѧ бл(а)г*ос*(ло)вилъ от(е)ць мои кня*зь* великий Коломна с волостми и с селы и з бортью, Можаеск с волостми и съ селы и з бортью, Заѩчков что мѧ бл(а)г*ос*(ло)вила тетк(а) моѩ кнѧгинѩ Анна…

Заданне.
Прачытайце рэшту тэксту, зрабіце транслітэрацыю.

Тэкст друкуецца па: Сборник снимков с русского письма XII-XVIII вв. Изд. 2-е/ Под ред. И.Ф.Колесникова.- М.,1913 – С.10.

№ 8. Фрагмент Аршанскага евангелля XIII ст.
Заданне.
Прачытайце тэкст, зрабіце транслітэрацыю і палеаграфічнае апісанне.
Пачатак тэксту: В поне *д*(ель) ныѩ *д*не, Еѵ(а)(н)*г*(ели)е ѡт Ма(т)ѳе ѩ Ре*ч*(е) г(оспод)ь. Блюдѣте не родите ѥдиного…
Тэкст друкуецца па: Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. – Спб, 1890 – с.111.

№ 9 Фрагмент Лаўрэнцеўскага спісу "Аповесці мінулых гадоў". 1377 г.
У рукапісу выкарыстаны рэгулязаваны паўустаў. Характэрнымі прыкметамі пісьма з'яўляюцца дастатковая свабода ў напісанні літар, злітнае напісанне словаў у радку, невялікая колькасць скарачэнняў, адзінкавыя лігатуры і вынасныя літары. Адметнае напісанне маюць асобныя літары, якія могуць дапамагчы датаваць тэкст: літара "в","е", "ж", "ч".
Заданне: Прачытайце тэкст, пазначце лігатуры і вынасныя літары. Якія яшчэ літары, апрача названых вышэй, могуць дапамагчы вызначыць тып пісьма?
Пачатак тэксту: відѣньѩ своѥго ѩко мощно видѣдети ч(ело)в(е) к(о)м**ъ.** Не мощно бо зрѣти ч(ело)в(е) к(о)м**ъ…**
Тэкст друкуецца па: Криль М. Основи палеографії – Київ, 1995, с.140.

№10. Грамата Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта аб вызваленні віленскіх мяшчан ад мытных збораў, напісаная ў Троках 23 верасня 1432 г.

Грамата напісана на пергаміне, утрымлівае 11 радкоў паўустаўнага тэксту. Характэрныя прыкметы пісьма: літары сярэдняга памеру, стаяць паасобку, словы ў радку вылучаюцца. Літары не маюць строгіх геаметрычных прапорцый, асобныя з іх маюць некалькі варыянтаў напісання. Характэрнай прыкметай почырку з'яўляецца ўжыванне дзвух варыянтаў "тверда" – у выглядзе "Т" лацінскага, а таксама "тверда трохногага", што можа ўказваць

на час стварэння рукапісу і падцвярджаць яго аўтэнтычнасць. Пісар не ўжываў лігатур, рэдка карыстаўся скарачэннямі і вынасам літар над радок. Аб беларускім паходжанні рукапісу сведчыць лексіка – «месцічов», «у Смоленску», «ніколі» і інш.

Заданне. Прачытайце тэкст, зрабіце яго транслітэрацыю.

Пачатак тэксту: Мы великй кн(я)зь Жикгимонтъ даемъ вѣдомо всѧкому сею нашою грамотою пожаловали есмо виленских мѣстичов лѧховъ и руси..

Тэкст друкуецца па: Сборник палеографических снимков с древних грамот и актов, хранящихся в Виленском центральном архиве и Виленской публичной библиотеке. Вып. I (1432-1548 гг.) – Вильна, 1884 - №11.

№ 11. Грамата Вялікага князя Літоўскага Жыгімонта віленскім мяшчанам на Магдэбургскае права, дадзеная ў Троках 27 верасня 1432 г.

Паказаны пачатак і канец дакумента.

Заданне. Прачытайце тэкст, зрабіце яго транслітэрацыю і палеаграфічны аналіз. Параўнайце з тэкстам №10.

Пачатак тэксту: Во имѧ с (вя)тое Троици аминь к вѣчной памѧти и рѣчи высокаѧ кн(я)жата рада уставла…
Тэкст друкуецца па: Сборник палеографических снимков с древних грамот и актов, хранящихся в Виленском центральном архиве и Виленской публичной библиотеке. Вып. I (1432-1548 гг.) – Вильна, 1884 - №2.

№ 12. Фрагмент даравальнай граматы князя Андрэя Васілевіча Старажоўскаму манастыру. 1470 г.
Заданне: Прачытайце тэкст, акрэсліце тып пісьма. Якія літары могуць служыць палеаграфічнай прыкметай для атрыбуцыі тэксту?

> Тэкст друкуецца па: Карский Е.Ф. Славянская кирилловская палеография. – М., 1970, № 81.

№ 13. Фрагменты «Чацці 1489 г.», напісанай у Камянцы паповічам Бярозкаю сынам Сямёна Доўбніча з Наваградка Літоўскага.

Рукапіс напісаны паўуставам у два слупкі. Захавалася 375 старонак. Характэрныя асаблівасці пісьма: літары сярэдняга памеру, стаяць у радку паасобку, словы вылучаюцца. Пісар не прыірымліваўся строгай геаметрычнасці ў напісанні літар, большасць з іх мае нахіл, непрапарцыянальныя часткі, высокія мачты ці апушчаныя хвасты (р,з,д). Пісар актыўна выкарыстоўваў скарачэнні, рэдка ўжываў вынас літар над

радок. Лігатуры ў тэксце адсутнічаюць. Характэрна напісанне літары «с» пад тытлай у выглядзе кропкі ці коскі.
Заданне.
Прачытайце рэшту тэксту,  зрабіце транслітэрацыю

Чытанне тэксту.
Тэкст перадаецца літара ў літару. Захоўваюцца літары, якіх сёння няма ў беларускім алфавіце. Вынасныя літары пішуцца курсівам, пропуск літар ў словах пад тытлай раскрывецца і пішацца ў круглых дужках. Знакі прыпынку – як у арыгінале.

.

наполни*т*. протожь намъс(вя)т(ы)и и о(т)ци рекли. Боꙗщиисѧ г*о)с*(под)а пу*т(*ь) вечный получа*т*. **И** возвеличатсѧ славою нетлѣнною. Прославит Х(ри)с(тос)ъ пережь на земли то*ж* на (е)б(е)сѣх.. Еван(е)листъ молвитъ въ о(т)ца мѣсто с(ы)н(о)ве быша. **И** прославиша г(о)*с*(под)а по всѣи зе(м)ли также и мы творѧще вѣрнии хр(и)*с*тьꙗне. Со радостию стане*м* пре*д* б(о)гомъ на страшно*м* с*у*дѣ Х(ри)с(то)ве. А дьꙗволовъ молитвою своею прожене*м* м(о)л(и)твами преч(и)*с*тыꙗ его м(а)т(е)ре и всѣх с(вя)ты*х* его ѡ **Х**(ри)*с*(т)ѣ **И**с(у)*с*е ѡ г(о)*с*(под)ѣ нашем ему *ж* сла*в*(а) В ВѢКИ ВѢКО*М* АМИ*Н*

Тэкст друкуецца па: Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва. Исторические судьбы Северо-Западного края. – Спб, 1890 – с.161;  Павленко Н.А.История письма. – Мн, 1987 - с.204-205.

№ 14. Фрагмент тэксту «Слова Ісака Сірына» 1428 г., напісанага ў Смаленску.

Заданне.
Прачытайце тэкст, зрабіце транслітэрацыю і палеаграфічнае апісанне. Акрэсліце тып пісьма.
Пачатак тэксту: быти. **И**но тѣх великихъ земѣль г(осу)д*а*ри безъ всѧкого ѡслушаниꙗ…

Тэкст друкуецца па: Сборник снимков с русского письма XII-XVIII вв. Изд. 2-е/ Под ред. И.Ф.Колесникова.- М.,1913 – С.16.

№ 15. Разводная палюбоўная Кірылава манастыра ігумена Касьяна і Ферапонтава манастыра ігумена Філафея аб Сараярскіх лясах. 1467-1470 гг.
Заданне.
Прачытайце тэкст, зрабіце яго транслітэрацыю. пазначце варыянты напісання літар «ведзі», «зямля», «тверда».  Якія іх асаблівасці могуць дапамагчы датаваць тэкст?

Пачатак тэксту: Кырилова монастырѧ игумен Касьян а Фарафонтова монастырѧ игумен Филофѣй поговорѧ промеж собою ѡ Сорогарскых лѣсех и послал игумен…
Тэкст друкуецца па: Леонтьева Г.А. Палеография, хронология, археография, геральдика. Практическое пособие для вузов. – М.,2000. - с.78.

№ 16. Беларуска-літоўскі летапіс канца XV ст.
Выкарыстаны поздні паўстаў.
Заданне
Прачытайце тэкст. Знайдзіце прыкметы, якія характарызуюць тып пісьма., адзначце наяўнасць лігатур, варыянтаў напісання літар "т", "д", "ж". Якія прыкметы крыніцы могуць дапамагчы ў акрэсленні яе тэрытарыяльнага паходжання?
Пачатак тэксту:
Гонца пошлеть к вели(ко) му кнѧзю Витовту к Дорогичину…
Тэкст друкуецца па: Криль М. Основи палеографії – Київ, 1995, с. 147.

№ 17. Фрагмент купчай Аляксея Андрэевіча Чулкова на вёску Навасёлкі. 1518 г.
Заданне. Прачытайце тэкст. Перакладзіце дату на сучаснае летазлічэнне. Акрэсліце тып пісьма, у тым ліку, подпіса пад дакументам.
Пачатак тэксту: Се ꙗз Ѡлексѣй Ѡндрѣевич Чюлковъ купил есми у своего брата у Ивана у Ѡндрѣевичѧ Чюлкова его вотчину село Новоселку да деревню Шимухлино да деревню Дураково да деревню Скопинскую …
Тэкст друкуецца па: Леонтьева Г.А. Палеография, хронология, археография, геральдика. Практическое пособие для вузов. – М.,2000. - с.56.

№ 18. Фрагмент дагавора паміж Гаштольдамі і Радзівіламі аб размежаванні іх маёнткаў Тыкоціна і Ганёнза (Ганяза), складзены ў Вільні 30 чэрвеня 1528 г.

Паказаны пачатак і канец дакумента. Тып пісьма – віленскі (беларускі) скорапіс. Характэрныя прыкметы пісьма: літары дробныя, сярэдняя амплітуда ўзмахаў, літары ў большасці стаяць паасобку. У тэксце невялікая колькасць вынасных літар (б, ж, л, и, м, с, н, в, р) , ужываюцца лігатуры нескладанага кшталту – спалучэнне «е» і «г» у слове «его», «д» і «в» у прозвішчы «Радвилович» і некаторыя іншыя. Характэрнае напісанне маюць літары «а» – у выглядзе «альфы», «р» – у выглядзе «рцы ляжачага», «н» у выглядзе лацінскай «N». Апрача гэтых, палеаграфічнымі прыкметамі, якія сведчаць аб прыналежнасці дакумента да старабеларускай школы пісьма, з'яўляецца напісанне літары «ж» у выглядзе ляжачай перакрэсленай васьмёркі, літары «д» і «з» з апушчанымі манернымі хвастамі. Ініцыялы рукапісу – літары «ж» і «ч» маюць рэнесанснае аздабленне ў выглядзе галінак і кветак. Унізе рукапіса – надпіс па-лацінску «Sigismundus Rex» («Сігізмунд кароль»).

Чытанне тэксту.
Тэкст перадаецца літара ў літару. Захоўваюцца літары, якіх сёння няма ў беларускім алфавіце. Літары-лічбы прадаюцца арабскімі лічбамі. Вынасныя літары пішуцца курсівам, пропускі літар раскрываюцца і пішуцца ў круглых дужках. Лігатуры расшыфроўваюцца. Знакі прыпынку – як у арыгінале.

Жикгимонтъ бо(ж)ю м(и)л(о)*с*тью коро*л* полский и ве*ли*ки*й* кн(я)зь литовский руский пруский жомоитьский мазовецки*й* и иныхъ
Чинимъ знаменито симъ н(а)ши(м)ъ листо*м* хто на него посмотритъ або чтучи его вслышит н(ы)нешни*м* и пото*м* будучи*м* ком*у* потре*б* будетъ того ведати. Поведи*л* пере*д* нами воевода виле*н*ски*й* ка*н*цлеръ нашъ староста бе*л*ски*й* мозырски*й* па*н* Ѡльбрахтъ Мартинави*ч* Кгашто*л*тъ што *ж* которы*й* записы мели межи собою небо*ж*чикъ па*н* Микола*й* Миколаевичъ воевода виле*н*ский зъ его м(и)л(о)*с*тью ѡ границы межи именемъ его м(и)л(о)*с*ти Тыкотино*м* и*з* име*нем* его Гане*н*земъ которы*й* жь записы межи ихъ м(и)л(о)*с*тью был*и*сѧ нескон*ч*али Ино кн(я)зь Микола*й* бискупъ жомои*т*ски*й* а па*н* Станисла*в* Миколаевичи Ра*д*виловича де*р*жа*в*ца ушпо*л*ски*й* пйпенѧ*н*ски*й* вил*л*коми*р*ски*й* хотѧчи в добро*й* приꙗзни зъ его…
… пса*н* у Ви*л*ни по*д* ле*т*(о) бо*ж*(его) наро*же*ньꙗ тисꙗча пѧтьсотъ 28 м(еся)ца июнꙗ три*д*цаты*й* день индикта первый.
Ивашко Горноста*й* пис(а)*р* намѣстни*к* дорсуни*ш*ски*й*

Тэкст друкуецца па: Сборник палеографических снимков с древних грамот и актов, хранящихся в Виленском центральном архиве и Виленской публичной библиотеке. Вып. I (1432-1548 гг.) – Вильна, 1884 - №15.

№ 19. Ліст кароннага канцлера, напісаны ў Корчыне 14 чэрвеня 1529 г., у якім падаецца прывілей Жыгімонта I Мікалаю Радзівілу на маёнтак Ганёнз.

Прыведзены пачатак і канец дакумента. Унізе – надпіс на латыні : dem. Cristoforus, qui supra, manuproprіa (той жа Хрыстафор, што і вышэй, уласнай рукой).

Заданне.
Прачытайце тэкст, зрабіце яго палеаграфічнае апісанне.
Пачатак тэксту: Криштохвъ с Ши*д*ловца, на Шмѣловѣ и Ве*л*(и)ко*м* Ѡпатовѣ па*н*, а дѣдѣцъ Кашталѧна…
Тэкст друкуецца па: Сборник палеографических снимков с древних грамот и актов, хранящихся в Виленском центральном архиве и Виленской публичной библиотеке. Вып. I (1432-1548 гг.) – Вильна, 1884 - №16.

№ 20. Запіс пагаднення паміж Станіславам Пясецкім і Ганнай Скідаравай па справе маёнтка Пелха, зроблены ў кнігах Драгіцкага земскага суда ў 1531 г. Прыведзены пачатак і канец дакумента.

Заданне.
Прачытайце тэкст, зрабіце яго транслітэрацыю, ахарактарызуйце графіку.

Пачатак тэксту: Пришe*д*ши встано*вш*исѧ пере*д* нами шлѧхе*т*ны*й* Станисла*в* Пѧсецк*и*и те*ж* велмо*ж*наѧ пани Га*н*на Станиславоваꙗ…

Тэкст друкуецца па: Сборник палеографических снимков с древних грамот и актов, хранящихся в Виленском центральном архиве и Виленской публичной библиотеке. Вып. I (1432-1548 гг.) – Вильна, 1884 - №33.

№ 21. Прывілей каралевы Боны Кліму Пашкевічу і Кузьме Іванавічу, складзены ў Гродна 20 сакавіка 1528 г. і запісаны ў кнігі Драгіцкага земскага суда ў 1531 г.

Чытанне тэксту.
Бона бо*ж*ю м(и)ло(ст)ю королеваѧ по*л*скаꙗ велика кн(ꙗ)г(и)ни ли*товска* рускаꙗ Всимъ посполи*т*е ѡсо*б*но ка*ж*ному ѡсобливе кому то*г*(о) потре*б* буде*т* вѣдати або чтучи его слышати били на*м* чолѡмъ Климъ Па*ш*кови*ч*а Кузма Ивано*в*и*ч* з дво*х* слу*ж*бъ из бра*т*ею своею, абы *х*мо и*х* прнѧли за ѡсобны*х* пѡ*д*да*н*ы*х* н(а)шихъ и казали и*м* намъ служити ино мы з вѡлею королѧ е*г*(о) м(и)*л*(ости) принѧли их за ѡсобны*х* по*д*да*н*ны*х* н(а)ши*х* и вызволѧемъ их ѡ*т* слу*ж*бъ и ѡ*т* всѧки*х* подачо*к*…

Заданне. Дачытайце рэштку тэксту, зрабіце палеаграфічны аналіз пісьма.
Тэкст друкуецца па: Сборник палеографических снимков с древних грамот и актов, хранящихся в Виленском центральном архиве и Виленской публичной библиотеке. Вып. I (1432-1548 гг.) – Вильна, 1884 - №34.

№ 22. Нататка з актавай кнігі Ковенскага магістрата аб выдачы дакументаў Юшкі Вепрэйця яго сынам, зробленая ў 1531 г.
Заданне.
Прачытайце тэкст, зрабіце яго транслітэрацыю, прааналізуйце графіку пісьма.
Пачатак тэксту: По*д* ле*т*(о) бо*ж*(его) на(ро)*д*(женя) 1531 по с(вя)тои А*н*не в пѧ*т*ницу га*и*ную…

Пятніца гайная – Дзесятуха, або Зельная – пятніца на дзесятым тыдні па Велікадні
Моцнарь – упаўнаважаны, адвакат.
Тэкст друкуецца па:

№ 23. Фрагмент даравальнай граматы цара Івана IV Салавецкаму манастыру, 1539 г.
Заданне; Акрэсліце тып пісьма, прачытайце тэкст. Вызначыце асаблівасці почырка.
Тэкст друкуецца па: Криль М. Основи палеографії – Київ, 1995, - с.149.

№ 24. Фрагмент Літоўскай метрыкі канца 1570-х гг.
Выкарыстаны беларускі скорапіс.
Заданне.
Прачытайце тэкст, зрабіце яго палеаграфічнае апісанне, пазначце характэрныя прыкметы беларускага скорапісу.
Пачатак тэксту: А то листъ пано*в* посло*в* его к(о)*р*(левской) ми(лос)*ти* звы*ш* менованы*х* который ѡни противо того листу московско*го* по*д* печа*т*ми своими кн(я)зю великому дали по*д* титуло*м* королꙗ его ми(лос)*ти* писа*н*(ы) тими словы…

Тэкст друкуецца па: Сборник снимков с русского письма XII-XVIII вв. Изд. 2-е/ Под ред. И.Ф.Колесникова.- М.,1913 – С.43.

№ 25. Фрагмент рэестра 1562 г.

Заданне: Прачытайце тэкст, адзначце асаблівасці напісання літар «д», «к», «р», «ц», «ф». Якія літары выкарыстоўваюцца ў якасці вынасных? Ахарактарызуйце тып пісьма.

Тэкст друкуецца па: Карский Е.Ф. Славянская кирилловская палеография. – М., 1970, № 99.

№ 26. Фрагмент Літоўскай метрыкі – Інструкцыя паслам Рэчы Паспалітай да цара Фёдара Іванавіча, складзеная і запісаная ў метрыку 20 лютага 1587 г.

Для напісання тэксту выкарыстаны беларускі скорапіс.

Заданне.

Прачытайце тэкст, зрабіце яго транслітэрацыю.

Пачатак тэксту:

**И***н*струк*к*ция и злецэ*н*е ѡт и*х* м(и)л(о)*с*ти п(а)но*в* ра*д*(ы) коруны польское и Великого кн(я)зьства Литовского даное посланьнико*м* ихъ ми(лос)ти…

Тэкст друкуецца па: Сборник снимков с русского письма XII-XVIII вв. Изд. 2-е/ Под ред. И.Ф.Колесникова.- М.,1913 – С.44.

№ 27. Памяць акальнічаму Андрэю Фёдаравічу Літвінаву-Масальскаму. 1639 г.

Тэкст напісаны маскоўскім скорапісам. У ім добра пазначаны прыёмы, выкарыстаныя для паскарэння пісьма – лігатуры, вынасныя літары, узмёты, наяўнасць варыянтаў у напісанні літар, выкарыстаныя у розных спалучэннях. Унізе дакумента подпісы дзякоў, напісаныя іншымі почыркамі.

Заданне

Прачытайце тэкст, знайдзице характэрныя для маскоўскага скорапісу прыёмы паскарэння письма.

Пачатак тэксту: Лѣта 7147 *го* **и**уля в**ъ** 6 *д(е)н.* По г(о)*с*(у)д(а)р(е) ву…

Тэкст друкуецца па: Палеография, хронология, археография, геральдика. Практическое пособие для вузов. – М.,2000. - с. 126.

№ 28. Фрагмент тэстаменту Івана Федаровіча лаўніка магілёўскага ад 2 чэрвеня 1655 г., запісаны ў кнігі Магілёўскага магістрата.

Для напісання тэксту выкарыстаны беларускі скарапіс. Характэрныя прыкметы пісьма: літары невялікія па памерах, у большасці напісаны паасобку; малая амплітуда ўзмахаў; невялікая колькасць вынасных літар (г,д, л, м, р, с, т). У тэксце выкарыстоўваецца два варыянта графем для гука «і» – «і дзесятарычнае» і «**и**». Яркай прыкметай з'яўляецца выкарыстанне паярыка замест літары «й». Пісар выкарыстоўваў некалькі лігатур – спалучэнне с, п, о, у слове «способом», спалучэнне радковай галоснай з надрадковым «р ляжачым» і інш. Арыгінал захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным архіве Рэспублікі Беларусь.

Чытанне тэксту.

Тэкст перадаецца літара ў літару. Захоўваюцца літары, якіх сёння няма ў беларускім алфавіце. Літары-лічбы перадаюцца арабскімі лічбамі. Вынасныя літары пішуцца курсівам, пропускі літар у словах пад тытлай раскрываюцца і пішуцца ў круглых дужках. Знакі прыпынку – як у арыгінале. Імёны ўласныя пішуцца з вялікай літары. Лігатуры расшыфровываюцца.

М(еся)ца юн**ѧ** 2 дн**ѧ**

Тестамен**ъ**т**ъ** Івана Федорови**ч**а

Постанови**въ**шы **ѡ**чеви**с**то пан**ъ** **ѳ**едо*р* **Ꙗ**кимович**ъ** лав**ъ**ник**ъ** мог**и**лев**ъ**ск**и***й* подал**ъ** тестамен**ъ**т**ъ** з сего света зошло*го* небож**ъ**чыка Івана Федоровича мещан**и**на мог**и**ле*в*ского в речы н**и**же*й* помененой Ку в**ъ**п**и**саню до кн**и**г**ъ** меск**и***х* Мог**и**ле*в*ск**и**х**ъ** в**ъ** тые слова п**и**саны*й* року тысча ше*т*со*т* п**ѧ***т*дес**ѧ**т п**ѧ**того м(еся)ца апрыл**ѧ** два*д*цатого дн**ѧ** Пры быт**ъ**ност**и** мене Федора Васи*л*евича **Ꙗ**кимовича лав**ъ**ника Мог**и**лев**ъ**ского **ѡ***д* ураду мест**ъ**ско*го* Мог**и**лев**ъ**ского до **И**вана Федорови**ч**а дл**ѧ** прыслухан**ѧ** тестамен**ъ**ту **ѡ**стат**ъ**нее вол**и** его за жаданем**ъ** Заха*р*і Федорови**ч**а депутованого Помененый Іван**ъ** ач**ъ** на теле хоры*й* Ед**ъ**нак**ъ** нарозуме і памет**и** досконале здоровы*й* будучы мает**ъ**ность свою так**и**м**ъ** способом**ъ** роспорад**и**л**ъ** напрод**ъ** дом с пл**ѧ**цом**ъ** і будованем**ъ** в ул**и**цы Іллинской **ѡ**бмеж**ъ** зо*д*ное стороны Заха*р*і Федорови**ч**а а *з* другое Агапь**и** Давыдовое Пры том**ъ** полуволочьче па*ш*ное ве*д*ле сасонк**и** **ѡ**бмеж**ъ** зо*д*ное строны ма*т*фе**ѧ** Ходорови**ч**а А з другое Ма*л*ковых**ъ** лежачые добра сво**и** вла*с*ные, затым**ъ** длукг**и**

